# ЯК БУДЗЕМ

**— Вячаслаў Францавіч, склалася так, што ўсе мы апынуліся ў драматычнай сітуацыі: народнагаспадарчы комплекс яшчэ нядаўна квітнеючай рэспублікі перажывае глыбокі крызіс. Гэта тычыцца і прамысловасці, і сельскай гаспадаркі, і іншых галін. Ідзе збядненне людзей. Ці не баіцеся Вы, што грамадства можа прад'явіць жорсткі рахунак менавіта Вам — таму, хто апынуўся на «капітанскім масціку»!**

— Ведаеце, я не назваў бы сённяшнія абставіны ў рэспубліцы драматычнымі. Мяркуйце самі.

Прамысловасць. Калі гаварыць пра яе, дык тут мы зусім не на мяжы катастрофы, не на мяжы якіх-небудзь драматычных падзей. У пацвярджэнне магу прывесці прыклад. У мінулым годзе мы практычна не дапусцілі спаду вытворчасці ў адрозненне ад рэспублік былога СССР, за выключэннем Азербайджана і Туркменіі.

Што тычыцца 1992 года, то мы ж уступілі ў яго, практычна заключыўшы дагаворы з іншымі рэгіёнамі ўсяго на 10—15 %. Менавіта з гэтай прычыны ў студзені зніжэнне вытворчасці склала 15 %. Але зірніце, як далей ішлі справы: студзень — люты — спад 11 %, студзень — сакавік — 10,5 %, студзень — красавік — 9,2 %.

Я, безумоўна, баюся даваць занадта суцяшальныя прагнозы, але не думаю, каб спад у нас склаў больш як 7 працэнтаў. Нельга ставіцца да паказчыкаў тэмпаў росту так, як ставіліся раней: мы выпускалі прадукцыю і не хваляваліся, патрэбна яна спажыўцу ці не. Цяпер жа трэба выпускаць толькі патрэбнае людзям.

Драматычна складваецца сітуацыя толькі на ваенных прадпрыемствах. Нават у рамках СНД сёння не выдзелена практычна ні рубля для фінансавання ваенных галін. І калі ўжо звяртаць больш пільную ўвагу, дык перш за ўсё на іх. Вядома, нельга скідваць з рахункаў прадпрыемствы, якія выпускаюць тавары народнага спажывання. На жаль, і тут тэмпы вытворчасці ўсё ж зніжаюцца.

Аграрны сектар знаходзіцца ў больш цяжкім становішчы, а дакладней — у крытычным стане. Але і Вярхоўны Савет, і ўрад разумеюць: калі сёння мы можам абысціся без веласіпеда, матацыкла, аўтамабіля.., дык без прадукцыі сельскай гаспадаркі — не. Таму, забяспечваючы рэалізацыю закона аб прыярытэтным развіцці сяла, урад зараз адшуквае 37 млрд. рублёў. Я думаю, мы знойдзем іх. Толькі на май — чэрвень на дапамогу вёсцы выдзелена 4,7 млрд. рублёў.

Мы сёння не можам аказаць хуткай дапамогі аграсектару, бо іншыя рэспублікі, атрымаўшы ад нас прадукцыю, не могуць разлічыцца. Нам увогуле не выплачана запазычанасць у памеры 40 млрд. рублёў. Таму адным з асноўных пытанняў, якое ўзнімалася на Ташкенцкай сустрэчы, было пытанне аб узаемным пагашэнні даўгоў.

**— А які наш доўг!**

— Дзесьці 20 млрд. рублёў. Але вернемся да сказанага вамі. Вы засяроджваеце ўвагу на збядненні людзей. Аднак нават лідэры БНФ гавораць, што ў нас няма жабрацтва. Пагоршылася жыццё большасці насельніцтва, так. Кожны месяц урад аналізуе гэтыя працэсы, і, як вы бачыце, нават цяпер, калі мы знаходзімся ў цяжкім фінансавым стане, усё роўна знайшлі магчымасць падняць мінімум зарплаты да 1000 рублёў.

Для параўнання — некалькі фактаў. Самы высокі пасля нас мінімум зарплаты ў Літве — 1200 рублёў. Але... Паглядзіце, якія там цэны! У 2—2,5 раза перавышаюць нашы. У Расіі, дзе цэны таксама ў 2—2,5 раза вышэйшыя, мінімальная заработная плата складае 900 рублёў. І толькі зусім нядаўна ўрад Казахстана прыняў рашэнне аб павышэнні мінімуму да... 600 рублёў.

Канешне, трэба шчыра прызнацца: зніжэнне жыццёвага ўзроўню адбылося, але гэта — не жабрацтва. Я разумею жабрацтва так: чалавеку няма чаго апрануць, няма чаго паесці. Мы ж зараз, заходзячы ў магазін, думаем (раней думалі, адну ці дзве палкі каўбасы браць): колькі грамаў браць — 100 ці 200? Але ж для грамадства, якое ідзе ў рынак, гэта, дарэчы, нармальная з'ява.

А наконт таго, што мне можа быць прад'яўлены рахунак, хачу сказаць: я гэтага не баюся, я сабе ў кішэнь нічога не паклаў. Усё, што раблю,— раблю для таго, каб абараніць наш народ. Вы ведаеце, першапрычынай усяго таго, што адбылося ў нас, сталі пяць гадоў бяздараснай перабудовы, якая правалілася, бо ішлі да мэты, не ведаючы яе. У наяўнасці, з аднаго боку — недальнабачнасць палітыкі Гарбачова, а з другога — дыктат Расіі на энерганосьбіты. Цэны нам узнялі, не ўлічваючы таго, што калісьці ўся структура народнагаспадарчага комплексу была прывязана да Расіі.

**— Як Вы ацэньваеце якасць пакета рыначных законаў, прынятых нашым парламентам! Ці дастаткова іх для рашучага правядзення рэформаў!**

— Тое, што мы робім пры пераходзе да рынку, мы робім упершыню. Прыняты шэраг законаў. Некаторыя — вельмі добрыя, другія маглі б быць лепшымі. Вучымся. Але для ўводу рыначных адносін наяўнага пакета законаў пакуль што яўна недастаткова. Ідзе іх напрацоўка.

**— Вам, відавочна, неабыякавы лёс СНД, у стварэнні якой Вы прымалі непасрэдны ўдзел. Некаторыя эксперты, назіральнікі сцвярджаюць, што лёс Садружнасці прадрашоны, на працягу бліжэйшых месяцаў яна разваліцца. Які Ваш прагноз!**

— Я, як адзін з тых, хто ўдзельнічаў у стварэнні СНД, раблю ўсё, каб Садружнасць зберагчы. Гэта, у любым выпадку, добрае пажаданне ўсіх дзяржаў — членаў СНД — знаходзіць узаемапрымальныя рашэнні супольна.

**— Вячаслаў Францавіч, па якім прынцыпе выбіраюцца заходнія партнёры! Ці можна сёння гаварыць аб канкрэтных выніках Вашых перагавораў у Кітаі, Італіі!**

— Калі прымаўся рашэнне наведаць краіны паўднёва-ўсходняй Азіі, я падвяргаўся вострай крытыцы з боку некаторых дэпутатаў, а асабліва — з боку прэсы. Хацеў жа ў гэтых краінах адно ўбачыць: як яны за такі небывала кароткі па гістарычных мерках (ды і па мерках чалавечага жыцця) тэрмін з зусім адсталых ператварыліся ў высокаразвітыя? Цяпер мне вядомы адказ: гэта адбылося перш за ўсё за кошт таго, што там былі ўкладзены вялізныя інвестыцыі ў навуку і навукова-тэхнічны прагрэс, туды дапусцілі ўсе замежныя фірмы для ўкладання капіталаў.

У Кітаі мы знайшлі шмат агульных інтарэсаў, адносіны з ім, думаю, будуць хутка ўмацоўвацца. Пасля яго наведвання мне нарэшце стала зразумела, што такое свабодная эканамічная зона. Я цяпер раблю ўсё для таго, каб такія зоны з'явіліся ў Брэсце, Гродна, у раёне «Аэрапорт-2».

Вельмі многія прадстаўнікі кітайскіх дзелавых колаў цяпер прыязджаюць у Беларусь. Выніковаю была паездка і ў Італію. Пасля Расіі, другімі ў СНД, мы атрымалі там крэдытную лінію ў памеры 100 млрд. італьянскіх лір.

Напэўна, некаторыя яшчэ не ведаюць аб тым, што акрамя гэтых крэдытаў мы атрымаем крэдыты ў памеры 350—400 млн. долараў па лініі прыватнага бізнесу. Амаль кожны дзень у рэспубліцы знаходзяцца 25—30 італьянскіх бізнесменаў, якія пасля нашага візіту выходзяць на прамыя сувязі, заключаюць дагаворы, пагадненні пад крэдыты прыватных фірм.

**— Значыць, у нас не толькі макароны з'явяцца!**

— Я думаю, з вытворчасцю макаронаў мы самі як-небудзь справімся. Наша задача — не праядаць чужыя грошы, а выкарыстоўваць іх на ўкараненне новых тэхналогій. Напрыклад, мяркуем раз і назаўсёды «закрыць» адвечную праблему мацi — праблему поўнага задавалення дзетак якасным харчаваннем. Яны — будучае нацыі, іх трэба ратаваць.

Наогул у далейшым будзем дзейнічаць так: ніякіх асобных момантаў не вырашаць, а браць цалкам праблему і ад пачатку да канца ліквідоўваць, каб больш да яе не вяртацца.

Не магу змаўчаць і пра візіт у Польшчу. Ён мае вялікае значэнне. Нездарма ж сусветная прэса ўдзяліла яму столькі ўвагі і асвятляла яго вынікі аб'ектыўна, правільна. Нам хочацца жыць з суседзямі ў дружбе, гандляваць — вось і дамовіліся адкрыць на граніцы дадаткова тры пераходы для грамадзян абедзвюх рэспублік, адчыніць гандлёвыя дамы, даць свабоду перамяшчэння тавараў цераз граніцу, словам, устанавіць добрасуседства, дамагчыся ўзаемавыгадных адносін. Дадам яшчэ, што падпісаны дагавор паміж міністэрствамі ўнутраных спраў нашых краін аб барацьбе з рознымі злачынствамі.

**— Як Вы адносіцеся да «ценявога» кабінета міністраў на чале з народным дэпутатам Заблоцкім, сфарміраваным парламенцкай апазіцыяй!**

— Пачну з асобы, якую вы назвалі,— з Заблоцкага. Я стаўлюся да яго з павагаю. Ён працаваў на вытворчасці, мае вопыт. Часта прыходзіць да мяне, у нас устанавілася плённае супрацоўніцтва. Аднак што да паняцця «ценявы» кабінет, дык нам яшчэ далёка да такіх «ценявых» кабінетаў, якія ствараюцца, скажам, у Англіі, ЗША.

Вось вы назвалі прозвішча — Заблоцкі, я цяпер ведаю яго яшчэ і як прэм'ера «ценявога» кабінета, але я не ведаю іншых членаў «урада», а таму і не магу выказацца, як я да іх стаўлюся.

**— Ці бываеце Вы ў магазінах!**

— Так, інкогніта. Асабліва часта ў апошні час, калі пачалася лібералізацыя цэн. Дастаткова з'явіцца ў тым ці іншым магазіне, як жанчыны спачатку здзіўлена пагладаюць, потым пазнаюць, падыходзяць, пачынаецца гаворка. Што ўтойваць, ёсць незадаволенасць, але ёсць і разуменне праблем.

**— Як часта Вы выязджаеце ў рэгіёны рэспублікі, так бы мовіць, інкогніта, нікога з мясцовага начальства не папярэдзіўшы...**

— Даволі часта, але інкогніта амаль ніколі не ўдаецца. Звычайна маю машыну суправаджае машына ДАІ. Варта ёй з'явіцца на дарозе, як уся служба ДАІ па каналах сваёй сувязі перадае інфармацыю. Ну, а далей, думаю, тлумачыць не трэба. Працуюць яны вельмі добра. Дай Божа так ім працаваць па прадухіленні здарэнняў і аварый. Вось і выходзіць: ад'язджаеш інкогніта, прыязджаеш вядомым чалавекам.

Дзе я бываю? У абласцях, сустракаюся з гаспадарнікамі, працоўнымі калектывамі горада і сяла, вайскоўцамі.

**— Вячаслаў Францавіч, калі не сакрэт, ці многа атрымлівае прэм'ер-міністр!**

— І многа, і нямнога. У параўнанні з тымі, хто атрымлівае невялікую зарплату,— шмат.

СТАРШЫНЯ
САВЕТА МІНІСТРАЎ
РЭСПУБЛІКІ
БЕЛАРУСЬ
В. Ф. КЕБІЧ —
ГОСЦЬ «БЕЛАРУСІ».



*У першым нумары часопіса за гэты год, калі памятае чытач, Вячаслаў Францавіч дэталёва і шчыра адказаў на шматлікія пытанні рэдакцыі.*
*Мінула больш як паўгода. У якім становішчы знаходзіцца рэспубліка цяпер і якія выпрабаванні чакаюць яе заўтра? Што робіцца для стабілізацыі эканомікі і выхаду з крызісу? Над гэтымі праблемамі разважае кіраўнік урада.*

# ЖЫЦЬ? ПАКУЛЬ ШТО ГОРШ!

Але калі параўнаць нават з дырэктарамі вытворчых прадпрыемстваў, дык намнога менш за іх. Мне налічваюць 8000 рублёў у месяц. Але пасля выліку падаткаў атрымліваецца дзесьці трохі больш за 5000. Я не скарджуся, мне хапае.

**— Што Вы больш за ўсё не любіце?**

— Несправядлівую крытыку. Я гатовы спрачацца з кім хочаце, гатовы даказваць сваю праўду, калі крытыка справядлівая. Але калі яна накіравана на тое, каб абліць граззю, я гэтага цярпець не магу і вельмі засмучаюся.

**— Людзей з аховы Вы сабе падбіралі самі ці іх прыслалі з КДБ?**

— Мяне ахоўваюць людзі, адкамандзіраваныя з органаў дзяржбяспекі. Але павінен заўважыць, што наша сістэма аховы, не толькі кіраўнікоў, але і будынкаў Саўміна, Вярхоўнага Савета, пакуль што не адпавядае нормам і працэдурам аховы, якія наладжаны на міжнародным узроўні. Мы ў бліжэйшы час прымем рашэнне аб змяненні ўсіх структурных органаў па ахове дзяржаўных будынкаў.

**— Хто для Вас самыя аўтарытэтныя эканамісты, да чыіх рэкамендацый і парад Вы часцей за ўсё прыслухоўваецеся? Ці ёсць у Вас сталыя дарадчыкі, хто яны?**

— Пастаянных дарадчыкаў па эканамічных пытаннях у мяне двое: намеснік старшыні Дзяржэканомплана рэспублікі Махлін (разам працавалі); другі — народны дэпутат Скарынін, ён — галоўны дарадчык. Я часта прашу дапамогі і ў іншых спецыялістаў, такіх, як акадэмік Лыч, Нікіценка, Куняўскі, Карагін. Апошні — прэзідэнт Асацыяцыі прадпрымальнікаў Беларусі, вельмі цікавы чалавек, дае слушныя парады.

Калі ж мы фарміруем якія-небудзь праграмы, дык ствараем альтэрнатыўныя групы. Так, пры фарміраванні закона аб падатковай сістэме працавалі дзве альтэрнатыўныя групы апроч таго, што працавала яшчэ і адна ўрадавая. Гэта дае магчымасць выбару. Пасля ідзе абмеркаванне найбольш эфектыўных дакументаў на пасяджэннях прэзідыума Савета Міністраў, выносім іх на разгляд парламента.

Зараз мы думаем фарміраваць на пастаяннай аснове такія альтэрнатыўныя групы, якія выказвалі б меркаванне, супрацьлеглае меркаванню ўрада.

**— Ці падвяргаеце Вы незалежнай экспертызе тыя дакументы, на якіх ставіце свой подпіс?**

— Не ўсе. Ёсць дакументы апаратыўнага характару. Тут ясна і зразумела: ніякай экспертызы яны не патрабуюць. Значныя ж, праблемныя — іншая справа.

**— Калі не сакрэт, якое ў Вас хобі?**

— Ды які сакрэт! Калі адпачываю дома, чытаю кнігі. Праўда, да мастацкай літаратуры дабрацца ўдаецца рэдка. У асноўным «паглынаю» эканамічную і палітычную. За межамі дома вышэйшая ўцеха — рыбная лоўля. Тут я не помню сябе ад захаплення. Летам яшчэ люблю пахадзіць па лесе, вельмі люблю збіраць грыбы. Зрэдку гуляю ў настольны тэніс.

**— Вялікі Вам дзякуй за гутарку.**

Гутарыў
**Мікалай ВАСЬКОЎ.**

## І. ЧАС СТРАЛЯЦЬ І ЧАС СТРАЛЯЦЦА

Міхаіл Гарбачоў паведамляе ў інтэрв'ю прэсе (газета «Більд»), што ў некаторых лістах яму раяць застрэліцца. Палічыўшы, што, мабыць, ён прайграў, прайграўся начыста як палітык, дзяржаўны дзеяч. (Ну і помста сапраўды прайграўшых.)

Мы не ведаем, давалі ці не падобныя парады путчыстам, іх натхняльнікам і хаўруснікам, якія сапраўды згулялі ў камандзе прайграўшых. Але загадак і сумненняў самазабойствы некаторых з іх пакінулі нямала.

23 жніўня 1991 года на Манежнай плошчы (захопліваючы і Красную плошчу) праходзіў, завяршаўся распачаты яшчэ ля Белага дома мітынг народа, які перамог камуністычны путч. Калісьці ў 1945 годзе Масква і краіна адзначалі Перамогу над фашысцкай чумой. Парад пераможцаў завяршаўся шпурляннем нацысцкіх штандараў да падножжа Маўзалея, да ног Генералісімуса. Сімвалы нацысцкага рэйха пераможна таптаў чырвоны таталітарызм.

А ў жніўні 1991 года абрушылася і гэта разнавіднасць таталітарызму, яшчэ больш магутная і крывавая.

І распачалася, як некалі ў пераможанай фашысцкай Германіі, серыя самазабойстваў. Што за гэтым: адплата, уцёкі ад адказнасці, прыбіранне небяспечных сведак і саўдзельнікаў? — але ўсё так падобна.

Мяне, помню, мучыла пытанне: ну, сам Іозеф Гебельс,— зразумела, яго чакала шыбеніца, але жонка яго Магда Гебельс, што вымусіла, прыняволіла яе ўдзельнічаць у забойстве ўласных дзяцей? Так, яна ведала, што іх лёсам распарадзіцца Сталін. Чакаць нічога добрага нельга было. І ўсё ж не ўсё да канца зразумела. А калі б Берлін штурмавалі войскі заходніх дэмакратый, учынілі б такое Гебельсы-бацькі са сваімі дзецьмі, атруцілі б іх перад тым, як самім прыняць атруту? У імя фюрэра, вернасці яму. Усё магло быць. Страх перад пераможцам вельмі часта — усяго толькі люстраны адбітак уласных уяўленняў аб тым, як зрабіла б ваша старана ў выпадку перамогі. А тым больш, што Германія нацыстаў прайшла ўжо праз перамогі над многімі краінамі і народамі, ды і ў Расіі, бадай, дзейнічалі нацысты як ужо старана, «ідэя», якая перамагла,— і паводзілі сябе ў такім выпадку адпаведна. На што ім было разлічваць, калі прыйшлі дні расплаты?!

А ці не гэта кіравала дзеяннямі і ўчынкамі нашых самазабойцаў? Яны добра ведалі, якія парадкі хацелі вярнуць у нашу краіну і што было б, як расправіліся б з «так званымі дэмакратамі» і іх блізкімі. А таму не чакалі чалавечых адносін і да сябе, прайграўшы. Не, гэта не ўвесь адказ на кожны канкрэтны выпадак самазабойстваў, але што гэта псіхалогія прысутнічала і ўплывала, перакананы, што так.

Нам становіцца вядома, якія распараджэнні ўжо былі напагатове ў новых-старых улад. Расстрэлы проста на вуліцах, забарона наогул выходзіць з дамоў, забарона на ўсякае абмеркаванне дзеянняў ДКНП (ГКЧП), ну, і кутузка для ўсіх, хто не з імі. Так, было агаворана, што страляць будуць бандытаў, грабежнікаў, гвалтаўнікоў. Але, па-першае, мы ведаем, як заўсёды ўмелі любы ярлык навесіць на любога. А па-другое, як разважае Навум Каржавін: «...пад шумок расстралялі б у першую чаргу палітычных. Ідзе рэдактар якой-небудзь нежаданай газеты па Цвярской, а тут «падсадная качка» рване на сабе сукенку, учэпіцца ў яго, паваліць і залямантуе: «Дапамажыце! Дапамажыце!..» А тыя — тут як тут. Ад імя ГКЧП... Так між іншым было пасля рэвалюцыі... Яны будуць расстрэльваць, каго палічаць патрэбным, але астатнім — не дазволяць» («Известия», 17.2.1992).

Мне здалася вельмі плённаю думка аўтара «Наменклатуры» Весяленскага: Жжоў не быў зверам, вылюдкам. Як не быў і Пуга, экземпляр ужо 80—90-х гадоў. Яны, людзі такія, маглі быць і добрымі бацькамі, мужамі і цудоўнымі суседзямі. Але там, на службе,— і лгуны, і звяры. Яны — парадженне наменклатуры. А гэта — вопыт нашай краіны, нашага народа сведчыць — куды страшней за «кухню ў пекле», і яе, наменклатурную, у адрозненне ад біблейскай, мы ўжо спазналі.

«Допыты звычайна праводзіліся глыбока ноччу. Дзверы кабінетаў следства наўмысна расчыняліся насцеж, каб кожнаму арыштаванаму былі добра бачны шматстайныя «метады» следства. Тут фабрыкаваліся «падпольныя антысавецкія цэнтры тэрарыстаў і шкоднікаў», ішла своеасаблівая «барацьба за план» па выкрыццю ворагаў народа. Установа нагадвала варожы засценак. Суцэльны мат, сярэднявечныя метады допыту» (З успамінаў жыхара Данбаса Д. Пракушчанкі: «Жыў чалавек...». «Комсомольская правда», 20.8.1988).

Столькі дзесяцігоддзяў краіна стагнала, лямантавала ад болю і адчаю, і

# ДЗЯКУЙ, ХУНТА!

Алесь АДАМОВІЧ





*І скінуўшы срэбранікі ў храме,*
*ён выйшаў, пайшоў і павесіўся!*

*Ад Матфея, 27:5.*

Ну, а што Пуга, Ахрамееў, Кручына (і іншыя вядомыя і невядомыя самазабойцы) — вось іх што падагнала? (Ці хто?) Асабліва ўзнікае пытанне-паралель у адносінах «героя» рэпрэсіўных акцый у Прыбалтыцы — міністра МУС Пугі. Які чамусьці і жонку застрэліў. Так, з яе згоды і ледзьве не па яе просьбе, як сцвярджае яе сын.

Вось што мы чытаем у інтэрв'ю «Российской газете» (ад 23.1.1992) намесніка пракурора Расійскай федэрацыі Яўгенія Лісава: «Мы былі амаль відавочцамі — ён застрэліўся за пяць хвілін да нашага прыезду. Жонка забітаю не была. Гэта інтэрпрэтацыя Яўлінскага, які таксама прыехаў туды. Калі мы зайшлі, Валянціна Іванаўна была практычна ў бяспамяцтве, у самнамбулічным стане сядзела на падлозе, ківаючыся з боку ў бок. Яна была паранена і размазвала рукой кроў па твары, ад чаго яно набыло такі страшны выгляд. Пуга спачатку выстраліў у яе, потым у сябе. Даказаць гэта ўдалося лёгка. Першае, што робяць эксперты,— змывы з рук таго, хто страляў (выстрал пакідае на іх сляды). У Валянціны Іванаўны слядоў не было. Толькі ў Пугі. І дзве запіскі, яго і яе. Яна піша: «Не вінаваццеце нас ні за што. Мы вымушаны...»

Што ж іх змусіла, ва ўсякім выпадку, жонку? Сямейная версія: адданасць мужу.

«У апошні вечар Пуга сказаў у сям'і пры сыне, мабыць, для таго, каб праверыць рэакцыю ў адказ, што давядзецца пайсці з гэтага жыцця. Жонка адказала: «Бора, калі ты пойдзеш, я без цябе ніводнага дня жыць не буду».— «Што ты, я ж пажартаваў».— «А я сур'ёзна».

Жонка, мабыць, у гэта імгненне гаварыла, сама ў гэта не верачы. Але між словамі і дзеяннямі такога роду о, як шмат ступенек. Каб іх прайсці, патрэбны і яшчэ нейкія словы, учынкі,— ужо сам-насам.

Што Гебельс пераконваў жонку, маці яго шасцярых дзяцей, што ўсе павінны ісці за ім і фюрэрам,— зразумела. Ён жа ведаў, што зрабілі б фюрэр і яго паслядоўнікі з пераможанымі, і сам нічога добрага не чакаў ад пераможцаў. Гэту ж думку — самазабойчую — гатовы былі ўнушыць усяму народу нямецкаму. І пацягнуць усіх за сабою ў магілу.

ўсё гэта глушылася лжывай прапагандай, якая пераконвала краіну-лагер, краіну-засценак, што нідзе так вольна не дыхае чалавек...

Але потым гэта ўсё выплюхнула на старонкі прэсы, на экраны тэлевізараў і г. д., і ясна, што натхніцель і арганізатар гэтай камуністычнай апраметнай — партнаменклатура, якая зразумела: час яе панавання напрыканцы. Калі гэту праўду не абыгдзь і не схаваць зноўку. Асабліва вытанчаны адвакат наменклатуры А. Праханаў у сваім «Дне» (1991, № 23) досыць дакладна апісвае гэты працэс і гэтае самаадчуванне: «зноў выпусціл фантом сталінізму: лагеры, жахі, засценкі, і са сталінізмам зарыфмавалася партыя».

А з чым ёй яшчэ рыфмавацца? Перафразоўваючы паэта: «Мы гаворым партыя, падразумяваем КДБ, мы гаворым КДБ, падразумяваем партыя».

Вунь нават Кручкоў, тады яшчэ кіраўнік КДБ, пры сустрэчы з дэпутатамі, якія яму прынеслі патрабаванне «Мемарыяла» — перадаць Лубянку пад музей рэпрэсій рэжыму, нават ён, перапоўнены крыўдай за сваіх, заявіў, што «органы» заўсёды былі толькі выканаўцамі волі і распараджэнняў партыі. Прыемна было даведацца пра гэта ад галавы «органаў». Хаця, вядома ж, усім вядома, што абедзве гэтыя арганізацыі — і КДБ, і КПСС — ракавыя пухліны на целе грамадства, і яны аднолькава згубныя для ўсяго жывога, што ёсць, было ў народзе. Ацалее адна пухліна, яна прадоўжыць «справу» і другой: ацалее КДБ у расійскіх дзяржаўных структурах (што пакуль немагчыма), КПСС, як і раней, будзе ўплываць на ўсё. І мэты, і вывучка, і грошы ў іх адны. Гены агульныя. Блізнятыбраты.

Хаця менавіта КДБ, ведамства Кручкова, мяркуючы па ўжо вядомых дакументах, было галоўным механізмам жнівеньскай змовы, але менавіта партыя, яе вярхушка з'ўлялася асноўным правакатарам гэтак жаданага

для іх і гэткага звыклага кровапускання. Пракуратура, паводле слоў Яўгенія Лісава, мае сведчанні, што менавіта са Старой плошчы чуліся галасы самыя ваяўнічыя.

«У змоўшчыкаў не было поўнай упэўненасці, што падтрымаюць нават свае. (Г. зн. пойдуць на вялікую кроў выканаўцы са спецатрадаў КДБ.— **А. А.**) Дарэчы, з боку партыі і ВПК чуліся зусім іншыя заклікі. «Вы што, спужаліся? Давайце наперад!»

Яны заклікалі, яны рваліся наперад. Каб нас усіх, краіну адкінуць далёка назад. Да таго часу і да тых парадкаў, калі народ працаваў («на волі» і ў лагерах), а яны размяркоўвалі паводле свайго меркавання і ў згодзе са сваім апетытам. Усё, да апошняга глытка паветра.

Любой цаной, любой крывёю — назад. Нават калі свет загіне, свой «чай» яны будуць піць да апошняй хвіліны. Засмажаць сваю яечню, хоць бы і на ядзерным кастры.

Якімі былі б краіна, жыццё людзей, што адбывалася б у Еўропе і ва ўсім свеце, куды падзеі каціліся б,— калі б перамаглі яны, путчысты? Калі б змова ўдалася?

Вядома, многае немагчыма ўгадаць. Але ёсць нешта безумоўна прадказальнае.

Крывапралітная і бясконцая вайна, разгорнутая партызанская і не толькі партызанская, ішла б ва ўсіх былых нашых рэспубліках — у адказ на імкненне сілаю загнаць усе народы, усіх у ранейшае камуністычнае бяспраўе.

Ясна, што не абышлося б без спроб тым ці іншым спосабам вярнуць Усходнюю Еўропу ў васальнае, залежнае становішча — сілай, уводзячы новыя войскі, і эканамічным подкупам за кошт поўнага аграблення эканомікі, рэсурсаў Расіі і іншых рэспублік (нафты, газу, апошніх прадуктаў харчавання, хлеба). Вайна, вялікая, глабальная, стаяла б на парозе Еўропы.

Ні армія, ні КДБ, ні наноў рэанімаваныя легіёны партработнікаў накарміць краіну не змаглі б. Ужо праз месяц — два рэсурсы цалкам былі б вычарпаны, а тое, што засталося, ясная справа, размяркоўвалася б вярхамі і для вярхоў. Ні пра якую дапамогу, субсідыі Захаду гаворкі не магло ісці. Голад быў бы роўны толькі нястрыманаму гвалту — вось што панавала б у краіне. Каб аднавіць ранейшыя метады кіраўніцтва і формы эканомікі, заснаванай на ідэалогіі страху і гвалту, спатрэбіліся б новыя мільёны ахвяр. Але і гэта не дало б ніякіх вынікаў. Ранейшая ідэалогія абрушылася канчаткова, прытым у сусветным маштабе. Ледзь не стогадовы абман усіх і ўсяго не мог паўтарыцца. Цяпер ужо сапраўды ўвесь свет, нашпігаваны ядзернай зброяй, жыў бы пад лозунгам: Лепш быць мёртвым, чым чырвоным!

Зразумела, што ў гэтай сітуацыі ваенна-прамысловы комплекс наш, які заўсёды вылучаўся крайнім эгаізмам, пацягнуў бы на сябе апошні лапік бюджэтнае коўдры, што яшчэ прыкрываў мірныя галіны вытворчасці. Пачаўся б другі раунд нястрымнай (і бесперспектыўнай пры нашай эканоміцы) гонкі ўзбраенняў з усім астатнім светам. Рэальнымі «саюзнікамі» такой дзяржавы маглі заставацца толькі некалькі дыктатарскіх рэжымаў, якія паразітавалі б на агоніі адыёзнай, даўно зрынутай «марксісцка-ленінскай» ідэалогіі.

Ядзерная вайна магла разгарэцца ў любы момант. Але гэта ўжо не спыніла б азвярэлую ад нядаўняга прыніжэння і часовай страты абсалютнай улады партнаменклатуру. Яны пайшлі б напралом, штурхаючы падзеі, свет да ўсеагульнага самазабойства. Да іх вярнулася б, прытулілася шматмільённая армія «верных русланаў», стукачоў, а гэта выявілася б у разгуле даносаў і помсты на бытавым узроўні ў маштабах, не бачаных нават у нас.

Калі ўглядваешся ў замагільна раззлаваныя твары на тэлеэкране (на Манежнай 9-га лютага, на Цвярской — 23-га, у дзень смерці Сталіна і г. д.), чуеш нялюдскія выкрыкі немаладых жанчын («Я б страляла іх усіх!», «Правільна!»), разумееш: цяжкае жыццё з дапамогай мабілізаваных партнаменклатурай Анпілавых, Алкснісаў, Няўзоравых, Максімавых, Прахановых, Жырыноўскіх і іншых успучвае на паверхню ўсё падоначнае (у сацыяльнай сферы і ў людзях) — «учарашнія» з усяе сілы стараюцца скарыстаць момант, пакуль імі ж затарможаныя рэформы не запрацавалі на поўную моц, не далі вынікаў. Людзі ж нашы, як бачым, куды мудрэй і вытрыманей, чым усе (нават дэмакраты) на гэта разлічвалі. Проста пакланіцца ім за гэта хочацца.

Вось і збіраюць, зграбаюць «учарашнія» ўсю пену, каб прагнаць яе пад бальшавіцкімі сцягамі і з партрэтамі «правадыроў» — будаўнікоў Гулага — па вуліцах і плошчах расійскіх гарадоў.

Тое, што не атрымалася ў жніўні, хацелі б паўтарыць занава, яшчэ раз.

Але якія могуць быць прэтэнзіі да дзікай нашай партыйна-кадэбісцка-стукацкай арды: яна дзейнічае так, як таго вымагае сама яе прырода.

А вось дэмакратычная інтэлігенцыя, прэса, тэлебачанне — яны пра што думаюць, калі падыгрываюць гэтай ардзе?

Адзін толькі прыклад. «Российская газета» 27 лютага 1992 года надрукавала інтэрв'ю былога кіраўніка КДБ Уладзіміра Кручкова «ў выкладанні адваката Юрыя Іванова». Ніякіх каментарыяў газета сама сабе не дазволіла. Ці ёй адвакат не дазволіў, умову, магчыма, паставіў, а паляванне за матэрыялам, канкурэнцыя ў прэсе жорсткія. Акрамя таго (усё гэта, вядома, толькі здагадкі) «Российская газета» ўсяляк даказвае, што яна — не ўрадавы афіцыёз (палеміка з «Камсамолкай»). А тут зручны выпадак прадэманстраваць сваю непрадузятасць.

Вечарам расійскія тэле«Весткі» яўна спачувальным голасам маладога дыктара паўтарылі сцвярджэнне адваката путчыста (завізіраванае самім Кручковым): ніхто не збіраўся штурмаваць Белы дом, ніхто ніякіх спіскаў на арышт не складаў...

І вось, як бы ў завяршэнне гэтае плыні кадэбісцкай інфармацыі, якая ідзе праз дэмакратаў, чую размову двух партпенсіянераў.

— Чыталі ў «Расійскай», як Ельцын труса сыграў? Клікаў людзей яго абараняць, а ніхто і не думаў нападаць.

— Ясная справа, самі навыдумлялі. Кожны хоча апынуцца ў спіску на арышт. А спіскаў і не было. Кручкоў праўду кажа.

Віншую, таварышы дэмакраты, вось і гэтыя двое вашу газету купяць. А чаму ж не? Зусім у іх духу такія публікацыі.

Тое, што адбываецца сёння з дэмакратамі,— гэты іх самазабойчы, самаразбуральны сверб ныцця і крытыканства ў адрас тых, хто хоць нейкую справу робіць, спрабуе ў найцяжэйшых умовах рэфармаваць эканоміку,— не новае. Гэта адбывалася і адбываецца з дэмакратычна настроенай публікай ва ўсім свеце. Ніяк не могуць зразумець і паверыць, што іх супраціўнікі — хоць чырвоныя, хоць карычневыя — жывуць і дзейнічаюць па зусім іншых правілах і законах. Усё хочацца думаць, што прынялі ці прымуць нашы правілы гульні: сумленнае саперніцтва, дыхай, жыві сам і давай жыць другому. Дык жа не, яны за тое і змагаюцца з такой раз'юшанасцю, каб заваяваць права не лічыцца ні з якімі правіламі. Першаканальнае тэлебачанне ну проста-такі закахалася ў гэтыя фізіяноміі пад чырвонымі сцягамі і партрэтамі правадыроў-забойцаў. Якія рэжуць «праўду-матку» і ўжо гатовы ў прамым сэнсе рэзаць, каго ім пакажуць іх новыя правадыры і важакі.

Бясконца нам паказваюць і агучваюць на ўсю краіну (нядаўна і раніцой, і вечарам — усё яго роднага!) палкоўніка, знаёмага ўсім яшчэ па з'ездах. Цяпер ён у цывільным, але па-ранейшаму ад імя армейскіх выступае. Ён так заклапочаны і так перакананы, што «хутка афіцэры будуць страляць адзін у аднаго», што не можа радасці схаваць. Але тут жа крывадушна спахопліваецца: не, ён шкадуе, што так будзе. (І, вядома, усё робяць, каб гэта нарэшце распачалося, кожным словам, выступленнем працуюць на такі зыход.) Ну, і вядома ж, палкоўнік Алксніс наракае (як і ўсе яны) на недэмакратызм дэмакратаў. Быццам і не ён 19-га жніўня з той жа тэлескрынкі паабяцаў, лічачы, што перамога ГКЧП ужо ў кішэні: «Вядома, інтэрніруем вас, дэмакраты, але з мінімумам выгод». І пры гэтым усмешачка, усмешачка, ну проста-такі напракат узятая на Лубянскай плошчы.

Мала вам гэтакіх — дык атрымайце ў прыдачу Лімонава Эдзічку, якога нічым не збянтэжыш, а ён скарыстае момант, каб паганарыцца перад краінаю Гулага, што ён сын капітана МДБ-КДБ. І верны запаветам бацькоў. Як горка заўважыў Станіслаў Фёдараў: краіна дзятлаў, навокал стукаюць. Стукацкія дынастыі ўжо аб'явіліся. Хто па справах, паводзінах, хто па псіхалогіі, па кумірах — з такіх дынастый.

Мой сябар — бізнесмен з Каўказа пазваніў і папрасіў перадаць вам, сталічныя дэмакраты: калі мы ўсе сустрэнемся ў Гулагу, ён пастараецца стаць брыгадзірам, і тады не чакайце ад яго паслабак. Ён вам нагадае ўсё гэта газетнае і тэлевізійнае піжонства, не даруе вам загубленую вялікую справу!

## 2. ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Лічу, што ў жыцці мне моцна пашанцавала: у юнацкім стане (узрост — гэта, вядома, стан душы) я змог удзельнічаць у ваеннай сутычцы з карычневым таталітарызмам, а ў больш сталым — у руйнаванні таталітарызму чырвонага. Пік супрацьстаяння, якое распачалося яшчэ ў часы хрушчоўскай «адлігі»,— жнівень 1991.

У адным з даваенных фільмаў Кручкоў (актор! актор!) вымаўляе блазенскую фразу: «У Маскве коні бываюць розныя». Вось і танкі ў Маскве бываюць таксама розныя. Усё залежыць ад таго, якая сама Масква. У той ці іншы момант. Сакавіцкія танкі, яшчэ «гарбачоўскія», калі можна было гаварыць хіба што пра рэпетыцыю, выглядалі куды больш зласнна і грозна, чым жнівеньскія. Хаця ў жніўні іх увялі ў Маскву палітычныя злачынцы, усур'ёз, з прамой задачай — напужаць, зламаць волю да супраціўлення. А страх не атрымаўся. І тады спалох, як гангрэна, папоўз наверх, уверх — туды, адкуль спускаліся загады.

Пачуў пра путч, пераварот я з Мінска, па тэлефонным званку Васіля Быкава.

— Васіль, ну як жыццё? — бойка перахапіў я яшчэ непачатую гаворку.

— Што жыццё! — сярдзіта ў адказ.— Ты што, не ведаеш? Што, што?! Ваенны пераварот у вас там, вось што!

Вось табе, бабуля, і Юр'е! Перад вачыма ў мяне незавершаная аповесць, рукапіс — пра калгаснае прыгонніцтва. Цяпер ты гэта надрукуеш, разагнаўся! Так менавіта пра гэта п а д у м а л і в о ч ы, пакуль гучала ў вушах: ваенны пераварот!

Так пачаліся гэтыя тры дні. Адна з асаблівасцей гэтых трох сутак — ні хвіліны сну. Быццам у другі часавы пояс пераляцеў, і не ведае арганізм: класціся спаць ці прачынацца. Ці некуды наперад перамахнуў, ці далёка назад — у ваенны час.

Адразу рвануў на вуліцу, у горад. (Перад гэтым паспрабаваў у Мінск пазваніць — глуха, адключаны тэлефон. Вітаю вас, Уладзімір Аляксандравіч! Калі дэпутаты былі ў вас на Лубянцы, вы нам паведамілі з тварам сумленніка: дэпутацкімі тэлефонамі КДБ не маніпулюе! Будзем лічыць, што тэлефон сам адключыўся.)

Зайсці патрэбна ў свой інстытут, гэта па дарозе. А тут вучоны савет, Андрэй Н. вядзе, раз дырэктар спазніўся. Сталі абмяркоўваць здарэнне. Людзі ў кінаінстытуце адзін аднаго даўно ведаюць, ды і я іх ведаю ўжо чатыры гады. Гэтыя тры дні аднак сёе-тое дадалі, унеслі ў наша знаёмства. Невялікі калектыў, як будзе бачна, прадстаўлены быў зусім нядрэнна на барыкадах. Побач з маладзейшымі стаяў ля Белага дома і наш старэйшына — Сакалоў Уладзімір Сямёнавіч. Гэта — да слова.

Сядзім, абмяркоўваем здарэнне. Пазванілі. У трубцы голас сябра-філосафа:

— Ты не дома? Зараз мяне прыйдуць арыштоўваць. Будзь на Астужава, мне трэба сякія-такія паперы пакінуць у цябе.

Гэта дык канспіратар! Які герой, яго ўжо арыштоўваюць...

— Пайшоў ты ў...— Давялося голас прыглушыць: у кабінеце жанчына.— Мы зараз ідзём на Манежную. Прыходзь туды.

Дарэчы, праз тыдзень, калі сабраліся зноў у інстытуце, і «трамы» ішлі ўжо не пры сацыялізме, адзін з супрацоўнікаў заўважыў:

— А вы з Н. нешта ведалі. Вельмі ж вясёлыя былі!

Але ці адны мы былі «вясёлыя»? Выйшлі па Дзягцярным на Цвярскую, па тратуарах ідуць людзі, і не скажаш, што выглядаюць яны змрочна-прыгнечанымі. Спяшаюцца некуды да цэнтра, да п а д з е й — ну зусім як у святочны дзень. Прамчаліся дзве бронемашыны пяхоты, на брані хлопцы ў майках у кветкі, сцягі расійскія ў іх, партрэт Ельцына.

Значыць, у нас ужо ёсць бранятэхніка. (Ніяк не магу прыпомніць, ну,

**Працяг на стар. 14—15.**

Ніна МАЕЎСКАЯ,
пісьменніца



# ЯНЫ АДЫХОДЗЯЦЬ БЕЗ НАРАКАННЯ

Сціплы надпіс на помніку — «Пятровіч Аляксандр Паўлавіч». Жыць бы яму ды радавацца. Але вось насунулася чорная хмара чарнобыльскай бяды. На вёсцы, як ужо ў нас павялося, хто больш увішны ды дасціпны, хто падыход да начальства мае і яго падтрымку, адкруціліся, а Аляксандра прызывалі двойчы ў ваенкамат, два тэрміны запар працаваў ліквідатарам, адводзіў ад людзей ліхую навалу. А сам не ўберогся. Ды і як было абараніцца? Адразу ж і захварэў. Паміраў ён доўга, ціха, без нараканняў. І жудасна.

І на вёсцы, шкадуючы яго, гаварылі: добра, што Арына, маці яго, раней адышла на той свет і нічога гэтага ўжо не бачыць. Такой хваробы яшчэ не бачылі людзі, каб у жывога чалавека мяса ад касцей адставала, каб малады ды зрабіўся такі нямоглы. Дактары ад яго адмовіліся: забірайце дадому, сказалі, а якая хвароба — ні слова. Потым ужо Марыя, жонка яго, даведалася, што ўрачам было забаронена звязваць хваробы з Чарнобылем, вось яны і не звязвалі. А ён ужо не ўставаў. Марыя нават карміла яго з лыжачкі. Прыбяжыць дадому з парнікоў пакарміць яго і зноў на работу. А гэта прыйшла раней, як чула сэрца. А ён гаворыць: «Што ты ўсё мяне корміш, вунь маці прыйшла — накармі яе...» Марыіна сэрца ледзь з грудзей не выскачыла: «Як яна магла прыйсці з таго свету, зданькі яму, відаць, здаюцца»,— але азірнулася. А ён — і дыхаць перастаў.

...Вось і зноў я ў Асаўцы. Хаджу вакол Марынага дома, а зайсці не асмельваюся. А,

---

Рэгіна ЛАЎРОВІЧ



# ЯК ЦЯЖКА ЖЫЦЬ З ТАЙНАЮ

Позні вечар. Спіць мая сям'я, а я не магу заснуць. Ды і не намагаюся заснуць: заўтра мне на работу ісці не трэба. Адпрацавала сваё: болей як трыццаць гадоў была канструктарам. Круг майго жыцця звузіўся да памераў кватэры, а зарплата да памераў пенсіі. Усё, што засталося ў мяне, дык гэта мая сям'я ды яшчэ ўспаміны.

Ад успамінаў нікуды не дзецца...

Трапіла я ў нямецкі лагер у г. Старыя Дарогі ў час блакады партызанскага краю, потым астрог у г. Бабруйску, і адтуль — у Германію. Везлі нас у таварных вагонах шаснаццаць сутак. За гэты час толькі некалькі разоў выходзілі з вагонаў, кармілі вельмі мала і дрэнна. Польшча, Германія... Потым штосьці змянілася ў адносінах да нас. На прыпынках нам у вагон пачалі кідаць прадукты, махаць рукамі, крычаць. Аказваецца, мы ў Францыі. Прывезлі нас у горад Шэрбур. Высадзілі з вагонаў і прама ў санпрапускнік. І было патрэбна, скажу я вам. У гэтай лазні мы хоць здаволіліся вадою.

Там да мяне падышоў канваір-немец і пытаецца, дзе мая маці. «Няма,— адказваю,— я адна, сама па сабе». Тады ён узяў мяне за руку і павёў. Мне зрабілася жудасна. Прыводзіць у вялікі пакой, дзе сядзяць фрыцы, відаць, вялікія начальнікі. Шапкі, плашчы, боты ў іх чорныя, у руках — плёткі. Я стаю сярод пакоя, а яны вядуць допыт. Хто я, адкуль? А я з гонарам гавару: «Беларусь мая радзіма, а ўзялі мяне ў партызанскай зоне». Што тут пачалося! Яны смяяліся, тыцкалі ў мяне палкамі і крычалі: «Партызен, партызен». І сапраўды было чаго смяяцца. Дзіцяці дзесяць гадоў, лядашчае, нячэсаныя белыя валасы, на плячах рыззё, а яго привезлі праз усю Еўропу, каб

---

Сяргей ПАЧЦЕННЫ,
удзельнік ліквідацыі
вынікаў катастрофы
на Чарнобыльскай АЭС,
інвалід III групы



# «МЫ ЦЯБЕ Ў ЧАРНОБЫЛЬ НЕ ПАСЫЛАЛІ»

Цяпер у мяне шмат вольнага часу: я — інвалід-чарнобылец. Але сядзець, склаўшы рукі, не прыходзіцца. Маршрут адзін і той жа: райваенкамат — паліклініка — райвыканком — аптэка — гарсавет — Дом урада. Настаяўшыся ў прыёмных, наслухаўшыся крыўдных слоў ад століцаначальнікаў, вечарам вяртаюся ў свой цесны пакойчык, прымаю лекі і падаю на ложак. Доўга не магу заснуць. Успамінаю...

Вясна 1986 года... Першамайскі райваенкамат Мінска прызваў мяне на зборы. А неўзабаве разам з іншымі «запаснікамі» я аказаўся ў вёсцы Савічы Брагінскага раёна. Размясцілі нас у мясцовай школе, паставілі задачу: ахоўваць 30-кіламетровую зону. Іншымі словамі, не пускаць туды нікога. Уздоўж мяжы разбілі пасты-палаткі, а як пахаладала — насыпалі зямлянкі. У лістападзе, помню, прывезлі вагончыкі, і мы перабраліся туды. Неяк замералі гамафон — і жахнуліся: узровень у 20 разоў вышэй дапушчальнага! Аказалася, што вагончыкі нашы з-пад Чарнобыля завезлі.

Паўгода праслужыў я ў зоне. За гэты час да нас ні разу не завіталі медыкі. Забаліць галава, глынеш пілюлю — вось і ўсё лячэнне. Мы не ведалі, хто і наколькі апраменіўся, бо не было прыбораў. Пасля збораў працаваў на трактарным. Ніколі на здароўе не скардзіўся, сэрца, як матор, працавала. А тут праз нейкі час сэрца стала нагадваць аб сабе, ды так, што крыкам крычаў. Да таго ж бяссонніца і галаўны боль замучылі,

можа, і не трэба: уляглося, мусіць, яе гора. Добры чалавек знайшоўся, дзяцей глядзіць. Так мне сказалі на сяле. Тут усё на віду. І меднавалосая Ірынка, дачка Аляксандра, ветлівая, выхаваная дзяўчынка, вучыцца на выдатна. Не буду трывожыць іх, паеду да жывых. Як і раілі мне ў выканкоме. Лаўрыеня Мікалай Васільевіч з Сарачоў разам з ім прызываўся.

Я ведаю гэтую вёску, і людзі ёсць знаёмыя.

Машына наша спыняецца каля вясёлкавай хаты. Гаспадыня гэтак пафарбавала яе. У колер вясёлкі: кожная шалёвачка адметная. Прыехаў аднойчы карэспандэнт, сфатаграфаваў яе хату, і яна чакае, калі з'явіцца фота ў часопісе «Хозяин». А хата пастарэла, як і сама гаспадыня. Але, як заўсёды, ветлівая, гасцінная. Сядзелі мы і гаварылі пра жыццё, пра здароўе. Раптам на парозе спыніўся хлопец. «Мамы ў вас няма?» — запытаў ён дрыготкім голасам. Здалося нешта дзіцячае ў гэтым дзецюку і ў пытаннях яго. «Не ведаеце, дзе яна?» — трымцеў яго голас.

Ульяна Міхайлаўна скаланулася, збялела.

«Гэта ўнук мой, з арміі два дні як вярнуўся»,— сказала яна мне. А сама падалася да яго: «Што з табою?»

«Колі няма...» — заплакаў ён і падаўся за дзверы.

Яна хуценька выскачыла, не апранаючыся, не зважаючы на холад, за ім. Вярнулася неўзабаве белая, як сцяна, яе калаціла.

— Колі няма... Гэта ж мой унук,— сказала яна, калоцячыся.— Божа, мой Божа, Колі няма. Гэта ж адзіны памочнік наш. Ці бульбу выбіраем, ці сеем. А Божа мой,— бедавала яна.— З ім гэта было: нясе мех, упадзе ды і няма яго. Потым ачнецца. Гэта пасля Чарнопаля (чамусьці яна заве яго гэтак). Забралі яго на два месяцы ў першыя ж дні. Нахапаўся там радыяцыі. Хвароба промневая прычапілася.

Ульяна Міхайлаўна толькі хітае галавою. Яна не плача, слёз няма. Сядзіць, як каменная.

Цяпер толькі, як не стала Колі, я зразумела Марусю, яго маці. А то здзіўлялася: чаму яна раптам так перамянілася. Пяюха ды весялуха, на жарты здатная жанчына, раптам, думалася, нечакана стала гарнуцца да Бога. Яна аб'ездзіла ўсе бліжнія цэрквы. А цяпер ходзіць па людзях, збірае сродкі на пабудову мясцовай царквы. І ёсць зрухі: пляц адведзены ў райцэнтры каля могілак, перавязуць сюды стары будынак меліярацыйнай канторы, а потым прыхаджане на свае сродкі будуць будаваць сапраўдную царкву са званіцамі і купаламі.

Моліцца Маруся... Але, відаць, і Бог не ўсёмагутны, не можа і ён адвесці бяду, якую натварылі людзі. Але царква патрэбна: няма дзе чалавеку ачысціць душу. Пагаварыць, параіцца няма з кім. Чалавек чалавека не чуе. А маладыя, тыя, што прайшлі праз пекла Чарнобыля, ціха, без наракання пакідаюць нас. Вось і яшчэ адзін грудок за вёскаю Сарачы, апошні прытулак маладога, прыгожага чалавека Лаўрыені Мікалая Васільевіча.

Вечная памяць яму.

---

яно там працавала на вялікую Германію.

З Францыі нас вывезлі напярэдадні наступлення саюзнікаў. Многія дарослыя паўцякалі, а нас, дзяцей, не ўзялі з сабою. У Германіі нас перакідалі з лагера ў лагер, бо ўжо кругом ішлі баі. Быў жудасны голад. Нас дрэнна кармілі, ахова была слабая, таму мы пабіраліся. І мы вельмі скора заўважылі, дзе даюць, а адкуль гоняць палкаю. Я да гэтай пары, калі зімою чую пах яблыкаў, успамінаю дзвюх нямецкіх жанчын, якія заўсёды совалі ў руку яблык. А адна немка часта звала мяне і давала малака. Адзенне дзецям не давалі, і я хадзіла ў штанах з кавалка коўдры, якія пашыла на здзіўленне немак сама, а кофту мне дала адна немка. Асаблівая вялікая праблема была з абуткам. Усе насілі дзеравяшкі, але дзецям не давалі і іх. Памятаецца, у нас была мода на драўляныя калодкі для абутку, дык я не магла чуць іх грукату, яны мне нагадвалі маё лагернае дзяцінства.

Вельмі страшна было пад канец вайны. У суседнім лагеры немцы расстралялі нашых ваеннапалонных. І мы пра гэта ведалі.

Вызвалілі нас амерыканскія войскі ў красавіку, але ніякавата было, быццам ты вольны, але кругом чужыя салдаты. Да канца года нас перакідалі з лагера ў лагер, і, урэшце, я прыблыталася дадому, дзе мяне амаль «пахавалі». Паказаліся мне ацалелыя дамкі маёй вёскі маленькімі і вельмі беднымі. Я ж пабачыла ўжо тое-сёе ў жыцці, праехала палову Еўропы.

І пачалося звычайнае пасляваеннае жыццё, ды пра гэта ўжо шмат гаворана.

Дарагая мая мама наказала мне вельмі строга трымаць язык за зубамі, нідзе нікому не гаварыць, што я была ў Германіі. І я маўчала. Верагодна, гэта не дало мне магчымасці вучыцца далей пасля інстытута. Мне здавалася: мяне выкрыюць і пакараюць. Я адчувала сябе вінаватай. І гэты страх не даваў мне расказваць пра сябе. Але вось надышоў іншы час. Быццам свежага паветра глынулі людзі. І я загаварыла. Уяўляеце твары маіх саслужыўцаў. Спачатку не верылі: сядзець побач і маўчаць столькі гадоў... І ўяўляце, аказалася, што побач са мною сядзела ўсе гады жанчына, якая таксама прайшла амаль што тымі ж сцежкамі, што і я, і таксама ніколі не выдала сябе. Вось якія мы былі на..., ..аныя, прыгнечаныя, забітыя.

Уяўляеце, нідзе не зафіксавана, што ў нас, можна сказаць, палову вёскі «гналі» ў Германію. А мне ўсё жыццё здавалася, што за мною сочыць вока КДБ. Можна ўсміхацца з гэтай нагоды, але мне вельмі горка. Горка яшчэ і таму, што жыццё зрабіла чарговы зігзаг. Гляджу тэлевізар, чытаю газеты. Быццам бы ўсё правільна: даўно пара жыць нашай краіне нармальным жыццём. Вакол жа такая няпэўнасць, разброд. Хутка год, як не купляла я сваім дочкам абновы: сукенкі старэюць — перашываем, перабіваемся. Ну, няхай некалі мяне пасля вайны адправіла маці ў горад вучыцца ў чужой кофтачцы, без абутку, бо так хацелася вучыцца, вырвацца з беднасці. Цяпер, падобна, тую долю напаткаюць мае дзяўчынкі. Вось што баліць.

Наша сям'я палітызаваная. Усе хварэем за сваю рэспубліку. Няпраўда, што ўсе людзі старэйшага пакалення не прымаюць перамен. Шмат хто за перамены, але няма яснасці. Чакаем мы ад кіраўнікоў нашых пэўных крокаў.

---

ламота ў суставах... Не жыццё — сапраўднае пекла пачалося.

Думаў, што гэта толькі са мною так сталася. Сустрэў неяк аднапалчаніна,— у яго такія ж сімптомы. І пачаліся мае блуканні па пакутах. Пальцаў не хопіць, каб пералічыць усіх урачоў, да якіх давялося звяртацца. Але ніхто з іх не знітоўваў прычынную сувязь хваробы з катастрофай на ЧАЭС. І толькі ў 1990 годзе, як кажуць, лёд крануўся. А між тым здароўе пагаршалася. Папрасіў, каб перавялі на лягчэйшую работу. Дзякуй, пайшлі насустрач, прапанавалі службу аховы прадпрыемства. Але і там не затрымаўся доўга, большую палову года знаходзіўся на бюлетэні. Толькі летась двойчы па месяцу ў бальніцах быў. Ды і начныя змены мне супрацьпаказаны. У рэшце рэшт і перад хлопцамі сорамна, ім за мяне даводзілася працаваць. Зноў пачаў прасіць іншую работу. Кажуць, і рады табе дапамагчы, але нічога прыдатнага пакуль няма... Вось і жыву на сваю жабрацкую пенсію інваліда.

Мы, ліквідатары, з палёгкай уздыхнулі толькі пасля таго, як Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы». Спадзяваліся: цяпер нас дзяржава не дасць у крыўду. І я пачаў дамагацца паляпшэння жыллёвых умоў: кватэра наша — 28 квадратных метраў, а жыве ў ёй пяцёра чалавек. Напачатку пісаў у адпаведныя органы пісьмы, заявы, затым з жонкаю пачалі стукацца ў высокія кабінеты. Не буду расказваць, калі і ў каго з начальства пабывалі. Адзначу толькі: бюракраты ў нас, на жаль, не перавяліся. Я ім — даведкі, медыцынскае заключэнне, законы аб інвалідах і чарнобыльцах, а яны ў адказ: «Мы цябе ў Чарнобыль не пасылалі. Ваенкамат пасылаў — у яго і кватэру прасі». Шыбую ў райваенкамат, пытаюся: «Як жа мне быць?» А ў адказ: «Дык мы цябе толькі на зборы прызвалі, а ў Чарнобыль ты трапіў па камандзе зверху...»

Пасля шматлікіх абраз і здзекаў, кватэру, нарэшце, выдзелілі. Паехаў глядзець яе — аж млосна стала. Не кватэра, а катухі нейкія, са столі капае, тынкоўка на сценах абвальваецца. Зноў паехаў да намесніка старшыні Першамайскага райвыканкома спадара Грушніка: няўжо нельга знайсці што-небудзь прыстойнае? У раёне ж шмат кватэр пустуе! Гаспадар кабінета раскрычаўся, нарад міліцыі выклікаў. Быццам не інвалід перад ім стаяў, а злосны дэбашыр нейкі ці злодзей. А я ж нічога не патрабую, а толькі тое, што па закону належыць.

Прызнаюся шчыра: мне сорамна перад жонкаю, перад яе бацькамі, перад дачушкай за тое, што я інвалід, што не магу забяспечыць іх нармальнымі ўмовамі жыцця. Але ж ці гэта мая віна? Бачыць Бог, што не! Хай гэта будзе на сумленні тых, хто ўчыніў трагедыю, хто кінуў здаровых і дужых мужыкоў у тое чарнобыльскае пекла.

...А я ўсё ж жыву надзеяй, што дзяржава не кіне мяне ў бядзе. ⑤





- «Астудзіць бы каня...»
- Інтэрв'ю пасля доўгачаканага дажджу... Дырэктар саўгаса «Маладая гвардыя» Аркадзь Калянкевіч (злева) і рэдактар газеты «Слонімскі веснік» Сяргей Прасняк.
- Вясковы пейзаж.
- Дырэктар Шылавіцкай СШ Зоя Сяргееўна Зімніцкая дае апошнія парады «працоўнаму дэсанту».
- Дарожны настрой...
- «Каза пакуль што не рагатая...»









# ЛЕТА. ЛІПЕНЬ. +31 ПА ЦЭЛЬСІЮ...

ФОТАВАНДРОЎКА Ў САЎГАС «МАЛАДАЯ ГВАРДЫЯ»

Здымкі Віктара ЖЫЛІНА.











# ЛЕТА. ЛІПЕНЬ.

**+31 ПА ЦЭЛЬСІЮ...**







ФОТА-
ВАНДРОЎКА
Ў САЎГАС
«МАЛАДАЯ
ГВАРДЫЯ»





*Дагарае вясковы вечар.
І лета дагарыць.
І перадасць эстафету
восені...
Да новых сустрэч,
вяскоўцы!*



**Максім ТАНК**

□□□

Калі замірае пагудка народа
І сталі прадажнымі праўда і згода,
Зладзеі імкнуцца да ўлады гурбою,
А заклікі пахнуць агнём і крывёю.
Нямеюць набатныя гулы званіцаў,
І перасыхаюць ад смагі крыніцы,
Без хлеба надзённага стол сірацее,—
Знай, што мы стаім над магілай Надзеі.

*Перапіска*

Скарачаю сваю перапіску
Не таму, што да пошты няблізка
І цяжэй ветэранскія ногі
Валачыць па завейных дарогах.
А таму, што сваёй пісанінай
Не хачу непакоіць сябрыну.
Бо і ў іх, як ва ўсім нашым краі,
Непаладкаў усякіх хапае.
І баюся, каб зноўку дахаты
Не вярнуўся ліст ад адрасата
З сумным допісам на канверце:
«Не знайшлі яго на гэтым свеце».
І таму ў мяне ўсе — нестарыя,
Як раней, маладыя, жывыя.



# „МОЎЧКІ Ў ДАЛЕЧ ГАДОЎ ПРАМІНУЛЫХ ГЛЯДЗІМ...”



## *Мой каўчэг*

Мой каўчэг —
Толькі больш загружаны,
Як Ноеў.
Бо і пасланцамі
Розных плямён і народаў
З іх засляпеннямі,
Сваркамі і разладамі —
Перадаюць з рук у рукі,
З пашчы — ў пашчу
Штормы,
Тайфуны,
Цунамі.

Амаль кожны дзень
Я выпускаю па пары
Галубоў-разведчыкаў
У пошукі
Мірнага прыстанішча.
Але пакуль што
Ўсе яны прыносяць —
Не зялёныя галінкі
Пальмы ці алівы,—
А атручаныя, спапяляючыя
Промні бліскавіц
Хірасімы,
Нагасакі,
Чарнобыля,
Пачарнелыя каласы збажыны
І гарачыя ад крыві
Гільзы патронаў.

## *Як даўно*

Як даўно, брат,
Не бачыліся мы з табой!
Колькі бур прагрымела
Над нашай зямлёй!

Вось сядзім і не знаем,
З чаго распачаць.
Ці з таго, што былыя
Раненні баляць,

Ці з таго, што жыццё
Пайшло на перакос,
Ці з таго, што падвёў
Непрадбачлівы лёс,

Ці з таго, што настаў
Ліхаманкавы час,
Ці з таго, што ўжо многіх
Няма сярод нас...

Вось таму і маўчым,
Бо не знаем, з чаго
Распачаць сваю гутарку.
Толькі агонь

Самакрутак дыміць,
Праз уедлівы дым
Моўчкі ў далеч гадоў
Прамінулых глядзім.

## *Пасля апытання*

У каго б ні запытаўся,
Якім было жыццё,—
Шчаслівыя
Наракалі на яго мімалётнасць,
Няшчасныя —
На яго працягласць,
Мёртвыя — на забыццё.
І ўсе лічылі сябе ашуканымі
Прарокамі, палітыкамі,
Варажбітамі.



У нашай цішыні

Нашта не спіцца.
Няма з кім сягоння
Пагаварыць гэтай ноччу бяссоннай —
Ноччу трывожнай, як перад бядою...

Адшумелі бярозы над рэчкай.
Ластаўкі сцішыліся пад стрэхою
Адцвіркаваў і цвіркун у запечку.
Перагарэла вуголле ў [illegible],
Толькі брынчыць ці камар ці то зорка.

Можа жыццё так перапужала
Нас у сваіх ліхалеццях, нягодах,
Што ўсе пакутліва ўспамінаем
У цішыні гэтай не давяраем.



## *Жорны*

Раздарылі па музеях сёння
Вілы, косы, і сярпы, і шворны,
Толькі нейкім цудам ацалелі
Ў нас яшчэ прапрадзедавы жорны.

Тыя жорны, што калісь малолі
Хлеб з гірсой прагорклы мне,
падпаску,
Хлеб батрацкі, лагерны, блакадны,
Спечаны ля вогнішч партызанскіх.

Асцярожна! Хай ў істопцы нейкай
Лепш маўчаць, калі яны прымоўклі.
І глядзіце, каб не разбудзілі
Мы іх на бяду сваю ізноўку.

▣ ▣ ▣

Не знаю, на што мне надзеяцца.
Шторм цягне з сабой цемру волакам,
Разбіўшы пасудзіну месяца
На рыфах грымотнага воблака.

Не знаю, ці я змагу выстаяць
Да золаку, штылю- світальнага
І ці дабяруся да прыстані —
Свайго маяка ўратавальнага.

Хоць, можа, і на родным беразе
Сустрэнуць, забытага, з каменем.
Я мушу вярнуцца хоць ветразем,
Хоць птушкай на крылах
параненых.

## *Барабан*

Чамусьці
З усіх музыкальных
Інструментаў
Смерць аблюбавала
Барабан.
Яна б'е ў яго,
Калі на сцэне
Памірае герой,
Калі каго вядуць
На гільяціну
Ці шыбеніцу,
Калі адкрываюць
І закрываюць парады,
Калі гоняць у атаку
І аб'яўляюць маніфесты.
Зноў недзе чуецца
Гром барабана.
Але гэта, здаецца,—
Дзякуй Богу —
Пакуль што грыміць ён
На нейкім
Звар'яцелым шоу.

## *Збор аеру*

Калі аер буяе ачмурэлы,
Яго збіраюць наскія дзяўчаты
У завадзі рачной затравянелай,
Каб перад святам ім умаіць хаты
Ці хлеб на ім спячы.
Вада рачная
Сукенкі іх вышэй ўздымаць змушае.
Вось за калені і вышэй ласкоча.
Перапалох...
І ў гэты час не знаю,
Чаму крычаць, каб я заплюшчыў вочы,
І кожны раз гурбою праганяюць.



З берасцянога скрутка

Не веру
Ні словам, сказаным за чаркай,
Ні абяцанням і прамовам
тыранаў,
Ні захопленым нечым
Беспаматлікавасці,
Ні клятвам пераваротным!..

Пісаў гэту
Скептычную сентэнцыю,
Відаць, свайм нашчадкам.
Яшчэ на берасцяным скрутку
Стары мудрэц-празорца,
Які прыкінуцца мог
Непрыкметным,
У час, што гаварылась
У яго адсутнасць



# „МОЎЧКІ Ў ДАЛЕЧ ГАДОЎ"







# ПРАМІНУЛЫХ ГЛЯДЗІМ...”

### *Пад прысягай*

Ты прывыкла,
Каб у падданстве-каханні
Табе прызнаваліся
І камні, і кані.

Каб вецер вар'яцеў,
Ап'янелы, калі ты
Ішла расспяваная
Жытам, блакітам.

Каб у самагубстве
Кідаліся кветкі, быльнёгі
Пад танцуючыя
Твае ногі.

А ўбачыўшы цябе
Са званіцы,
Званы
Забывалі маліцца.

Пра гэта ўсё я
Гавару пад прысягай
На сваю гібель,
Бадзяга.

□□□

Калі разбіўся месяц
Над асеннім садам,
Ты прынесла яго асколкі —
Такія крамяныя яблыкі
Пазнання дабра і зла,
Перад спакусай якіх —
Ні ў раі, ні ў пекле —
Яшчэ ніхто ўстаяць не змог.

### *Тост за пагоду*

Я знаю сам, даўно не ў модзе
Успаміны аб пагодзе.
Але мушу я прызнацца,
Што яна была ў нас сваццяй.
Бо яе вясенні вецер
Нам дапамагаў сустрэцца,

Спёка летняя ля студні
Нам гасіла смагу будняў,
Восеньская навальніца
Заманіла ў стог зарыцца,
А зімою ў час суровы
Сцалаваць сняжынкі з броваў.
Як жа нам за сваццю нашу
Не падняць вясельнай чашы?

□□□

Што ж ты часта, маё сэрца,
Б'ешся з болем перабоем?
Не спынялася ж раней ты
Ні перад ніякім боем.

А яно ў адказ: — І сёння
Я служу табе аддана.
Толькі ты, відаць, не бачыш,
Што я ўсё — ў рубцах і ранах.

І не наракай, калі я
Дзесь на сцежцы Беларусі
Пад бярозай прыдарожнай
Адпачыць з табой спынюся,
Каб ізноўку, як калісьці,
Нам адклікнуцца прадвеснем
З шумам дрэў, вятроў, калосся,
Нечуванай новай песняй.

### *І я ледзь не паверыў*

«Есць толькі Беатрычэ.
Ды і яе няма ўжо».
Ян ЛЕХАНЬ

І я ледзь не паверыў:
Няма ўжо Беатрычэ.
Але, неспадзявана,
Яе аднойчы стрэціў,
Калі ўскладала кветкі
Паэту на грабніцу
І вусны паўтаралі
Радкі яго ных тэрцін.

Узрушаны, я слухаў
Спрадвечную малітву
Любві і смерці, што
Чакае ўсіх таксама.
Хоць і не бачыў твару
Пад засенню габіта,
У змроку вітражоў
І каланады храма.

Нат не паспеў спытацца
Ў выбранніцы праменнай:
Ці ёсць надзея нам
Уратавацца з пекла,—
Як мара яна знікла.
Над соннаю Равенай
Гарэлі толькі зоры
Ды месяц плыў паблеклы.

□□□

*Памяці дачкі Верачкі*

Лягла на сэрца цемень ночы.
Выпрабавання час настаў.
І затуманіліся вочы.
Хтось ёй грамніцу ў рукі даў.
Каб яшчэ раз на сцежкі глянуць
Жыцця мінулага свайго,
Каб яшчэ раз...
Неспадзявана
Ўздрыгануў святы агонь.
Як быццам нехта, нам нябачны,
Ў палату хворай увайшоў
Перажагнаць ёй лоб гарачы,
Балючую суцішыць кроў.
— Прачніся, Верачка!
Прачніся!..
Дарма з надзеяй мы глядзім.
Не чуе...
Бо за ёй з'явіўся
Ужо сямікрылы Серафім.

Працяг. Пачатак на 2-й стар.

па-мойму, у гэтым месцы і тэхнікі не было бачна, ні танкаў, ні машын.) Было **веданне пра танкі**, што яны запоўнілі Маскву, але нейкае не грознае, не тое, якое пужае. Вось ужо сапраўды: у Маскве танкі бываюць розныя. Не адразу адкажаш, чаму так святочна выглядалі вуліца і людзі на тратуарах. Тыя, што ішлі да Манежнай, вось яны і скіравалі потым па Калінінскім праспекце да Белага дома. Ці гэта такое працяглае і пакутлівае чаканне бяды, перавароту разрэдзілася ў палёгку, калі нарэшце тое здарылася? Такое неадноўчы пераўжываў і назіраў у другіх у вайну. Самае грознае ў партызанскай зоне слова было: блакада. Наступленне карнікаў, цэлых дывізій на партызанскія вёскі, дзе базіраваліся ў лясах атрады і брыгады. Блакада пераварочвала, перакульвала і без таго нялёгкае жыццё дзесяткаў тысяч людзей са зброяй і бяззбройных. Цэлыя раёны палалі ў агні, тысячы і тысячы людзей заганялі ў балоты, на іх ішлі аблавай, глушылі артылерыяй і авіяцыяй. Гэта было так цяжка, гэтага чакалі з такім напружаннем (звычайна перад уборкай ураджаю), што больш помніцца менавіта чаканне, здавалася, невыноснае. А калі гэта пачыналася, то спачатку чалавек пераўжываў свайго роду палёгку: нарэшце-такі! Цяпер усё ад цябе, ад нас залежыць. Заканчвалася няпэўнасць, злавесная перадначавальнічная ціша, гнятлівае згушчэнне атмасферы.

Каго не мучылі гэтыя бясконцыя гаворкі пра падрыхтоўку пераварота, відавочныя прыкметы такой падрыхтоўкі, ляніва прыкрытыя лжывымі тлумачэннямі, што накіраваны да Масквы атрады ў бронекамізэльках... капаць бульбу. А рэпетыцыі ў Мінску (яшчэ ў 88-м годзе), у Баку, у Вільні, а развярэджванне армейскіх крыўдаў, уся іх праца па нацкоўванню арміі на дэмакратаў. Ці рэпетыцыя ўжо ў самой Маскве — 28 сакавіка 1991 года. Блакада расійскай сесіі Вярхоўнага Савета. Пад дуламі гармат і кулямётаў дэлегаты ўваходзілі ў Крэмль, выходзілі з Крамля. Гэта называлася: мы вас абараняем ад экцсэсаў. Па вашай просьбе. Прама з пасяджэння расійскага парламента (мы туды хадзілі, хаця і не расійскія дэпутаты) з сябрам-філосафам накіраваліся ў суседні будынак — да члена Палітбюро, якое ўсё яшчэ дзейнічала, нашага добрага знаёмага А. М. Зусім нядаўна ён быў блізкі да Гарбачова. Мабыць, можа паўплываць, угаварыць адмяніць гэту вельмі небяспечную акцыю.

— Угаворвалі,— сказаў ён нам.— Не дапамагае. Бакацін цэлы зварот напісаў. Але ён чуе цяпер толькі (прыглушыўшы голас) Лук'янава і Рыжкова. Ды яшчэ Кручкова.

Так, усё ішло, рухалася ў гэтым накірунку — да пераварота. Той жа Андрэй Нуйкін неадноўчы пра гэта пісаў, казаў, выступаў. Дзіўна на ўсё рэагавалі дэмакраты. Ды і наогул насельніцтва. Як бы чакаючы: вось здарыцца, тады і будзем дзейнічаць. Бязглуздая тактыка, яна спрацаваць можа ў самых рэдкіх выпадках. А часцей вядзе да пагібелі.

Што ж, узнясём падзяку небу. Гэты самы рэдкі выпадак, шанц выпаў на нашу долю. Пачалі дзейнічаць толькі ў адказ на пераварот, які ўжо адбыўся. І перамаглі. Але з якой рызыкай — прайграць. На шмат гадоў, а, магчыма, дзесяцігоддзяў, а, магчыма, назаўсёды рызыкавалі прайграць — дэмакратыю, Расію, краіну, а, магчыма, і ўсю планету, усё жывое на ёй.

Гэтыя тры дні выратавалі многае. Мы нават не можам цяпер даведацца, як многа.

Каля «жыгулёнка» непадалёк ад Массавета сабраўся невялікі натоўп — слухае радыё, зварот новага-старога кіраўніцтва краіны. Словы, звароты, пафас, ну проста-такі з нядаўніх артыкулаў, што запоўнілі старонкі «Советской России», «Литературной России», «Дня». Быццам паўтараюць, зачытваюць абзацы па-бондараўску напышлівага «Слова да народа», пра якое літаральна днямі найсумленнейшы Віктар Астаф'еў сказаў на ўсю краіну: «Не веру ніводнаму слову!» Ну, а гэтым словам гэкачэпістаў верыць? Твары ў людзей ператвараліся ў слых, але прыкметна, што і яны, як і мы: толькі для інфармацыі, каб зразумець, што ў гэтай хеўры ў галаве. Што яны там абяцаюць, на які кручок зноў хочуць злавіць народ? Парадак, дысцыпліна, патрыятызм. Прэсу некамуністычную «прыпыніць». Яшчэ што? Ага, бясплатная ахова здароўя. І — 15 сотак на кожнага. Я ледзь не залямантаваў: плагіятары! Гэта ж сам я нядаўна ў «Московских новостях» раіў дэмакратам: аддаць у поўную ўласнасць па 15—20 сотак зямлі гараджанам — трыццаць мільёнаў дробных уласнікаў, няхай потым Лігачовы, Палазковы паспрабуюць адабраць! Г. зн. зрабіць працэс рэформаў незваротным. Але аказваецца, той жа прыём можна выкарыстаць, каб спыніць рэформы, заткнуць рот незадаволеным.

Што яшчэ адзначылі многія: у іх ні слова пра сацыялізм, камуністычную партыю. Ці надоўга? Бачна, каб быць на дыстанцыі і ў гэтым ад прапаведніка «сацыялістычнага выбару» Гарбачова. Але і з Гарбачовым не ўсё так проста. Я сам ад Міхаіла Сяргеевіча чуў (калі мы з Даніілам Граніным сустракаліся з Гарбачовым у пачатку 1988 года, я — па справах чарнобыльскіх), што і яго «дзеда, талковага гаспадара, арганізатара таварыства па апрацоўцы зямлі арыштавалі ў 30-я гады» (ці не таго самага, што быццам бы завяшчаў унуку «сацыялістычны выбар»?) і сям'я Гарбачовых адразу ж апынулася па-за законам, як і ўсе сем'і «ворагаў народа». Дзеда, здаецца, выпусцілі ў 39-м, але чамусьці публічна Генсек-Прэзідэнт нідзе пра гэту трагедыю сям'і не ўспамінаў.

Так што не ўсё, што казаў пра «сацвыбар» Гарбачоў, варта прымаць як яго несакрушальную пераконанасць. (Цяпер Міхаіл Сяргеевіч піша кнігу пра свой лёс і лёс краіны, якую ён спрабаваў перабудаваць. Пазваніў мне ў бальніцу, «пасляінфарктны» санаторый, дзе вось я і пішу свой артыкул, і я не ўтрымаўся ад прафесійных парад: пішыце не апалогію жыцця і дзейнасці, не самаапраўданне Гарбачова, а споведзь. Апалогія — гэта клопат гісторыі, а яму б напісаць, пакінуць людзям менавіта спавядальную аповесць пра падзеі, у якія быў уцягнуты ўвесь свет.)

Людзі ішлі (і мы з усімі) да Манежнай плошчы, да Крамля, дзе чакалі падзей сур'ёзных, а, магчыма, і небяспечных для кожнага з нас, але ішлі, як на свята. Гэта, здаецца, зафіксаваў і Марк Дэйч, карэспандэнт радыё «Свобода». Ён здагнаў нас ля гасцініцы «Москва»:

— Чаму вы тут?

— Тут адбываюцца галоўныя падзеі.

— Што скажаце пра маніфест Камітэта?

— Гавораць тое, што народ гатоў пачуць ад дэмакратаў. Напрыклад, аб надзелах зямлёю. Цяпер камітэтчыкі будуць дурыць голаў народу.

— А вы не баіцеся?

Не, людзі не баяліся, страху не было — і кожны гэта мог прачытаць на тварах, у вачах людзей, якія накіроўваюцца да Манежа, Крамля, пачуць у голасе. А цікава, ці сябе адчуваў бы, каб я ўжо ведаў, што на Лубянцы склалі спісак на арышты і ў гэтым спіску я пазначаны? («Аргументы и факты» апублікавалі прозвішчы тых, каго чакала «інтэрніраванне» ў першую чаргу: я не без спартыўнай цікаўнасці адзначыў, што мой нумар 52, тады як Ельцына чамусьці 69!) Мне не паведамілі адразу ж, а толькі праз дзень ці два, што каля інстытута бачылі чорную «Волгу» з чатырма падазронымі тыпамі. Юрый Чарнічэнка, Ягор Якаўлеў казалі, што бачылі пад вокнамі сваіх дамоў такія машыны і ведаюць дакладна, што гэта «адтуль хлопцы». Раз каля кінаінстытута яны чакалі мяне, то, мабыць, прыехалі сюды следам за «аб'ектам» з вуліцы Астужава, дзе мая кватэра.

Зрэшты, зазірнём у газетныя матэрыялы, дзе не, не ды і мільгануцца дакументальныя сведчанні людзей, якія вывучаюць спадчыну Лубянкі. Намеснік расійскага пракурора Яўгеній Лісаў пацвярджае:

«Быў такі спісак: на чыстым лісце былі надрукаваны прозвішчы, імёны і імёны па бацьку, але яго знішчылі[1]. Мы яго аднавілі паводле паказанняў сведак, якім (начальнікі) казалі: «Вы трое — Якаўлева, вы трое — Шэварднадзе» і гэтак далей. На Ельцына было вылучана значна больш — каля трох дзесяткаў. Гэта людзі з КДБ, непрыкметныя хлопцы ў цывільным, узброеныя чым належыць. Іх было амаль трыста чалавек. Ім прадпісвалася выехаць па такім вось адрасу, знайсці паказанага чалавека, устанавіць нагляд і быць гатовымі да затрымання».

У «Аргументах и фактах», дзе такі спісак быў прыведзены ўпершыню (№ 38, 1991 г.), гаварылася, што цікаўнасць, увага гэтых «узброеных чым належыць» хлопцаў распаўсюджвалася і на сем'і людзей, блізкіх памечаным Лубянкай.

Ведалі б мы пра гэта тады, мабыць, неспакою было б больш. Хаця ўжо ж мы іх ведалі, добра ведалі па біяграфіі нашай замардаванай краіны. І чакаць нічога добрага не маглі. Але, мабыць, яшчэ і таму, што ніяк не збіраліся прайграць ім, даць скруціць сябе зноў. Хаця ў іх вунь армія, танкі, КДБ, а мы з чым? З чым супроць усяго гэтага? З народнай пагардай да іх і да нядаўняга яшчэ страху перад гэтым КДБ, гэтай машынай удушэння, з пераканаdanнем, што іх час скончыўся. А таму ішлі да Манежа, да Крамля. Святочна ўзрушаныя.

На Манежнай плошчы, яшчэ не запоўненай, рухаліся людзі з краю ў край, як бы шукаючы эпіцэнтр падзей. Каб прыняць у іх нейкі ўдзел. Злева ад Манежа на плошчу высунулася галава калоны БМП і нейкіх паліавальных машын. На шляху ў іх стаяў кран, сярдзіта схіліўшы да зямлі сваю стралу. А на баявой тэхніцы пяхоты шумныя хлопцы з расійскімі сцягамі, адзін з сярэбраным мегафонам. Ужо асядлалі. Ваенных, гаспадароў машын не відно, у люку, ці што. З мегафона гучаць звонкія заклікі выконваць распараджэнні толькі законна абранага ўрада. А не ўзурпатараў улады. Толькі Ельцын і Гарбачоў законна абраныя прэзідэнты.

— Мікалай, танкі справа! — раптам крык.

Кран-страла здрыганулася, кіўнулася і, сарваўшыся з месца, памчала да вуліцы Герцэна, хвацка размахнуўшыся, стала на шляху ў зялёных машын, што выпаўзалі з-за Манежа. Перакрыла шлях ім на плошчу. Малайчына, Мікалай! Вось ён, першы намі ўбачаны герой сённяшняга дня, людзі, што тоўпяцца на плошчы, прозвішча яго ўжо ведаюць, паўтараюць: Кліменка! Мікалай Кліменка! А колькі іх, хто дзейнічаў безыменна, было, выявілася за гэтыя тры дні. І каля Белага дома, і на Садовым кальцы ля моста, і па ўсёй Маскве. А другія прозвішчы сталі пераляцаць з вуснаў у вусны: маёр-танкіст Еўдакімаў, генерал Лебедзь... І нарэшце трое, амаль хлапчукі: Дзмітрый Комар, Ілья Крычэўскі, Уладзімір Усаў...

Быццам усё жыццё нашы людзі толькі і рабілі, што перакрывалі праспекты з дапамогай тралейбусаў і аўтобусаў, будавалі барыкады, бяззбройныя спынялі танкі — усё гэта масквічы назіралі ў тыя дні ў сваім горадзе. І самі гэта рабілі, у гэтым удзельнічалі.

Мы ішлі па Калінінскім праспекце даволі разрэджаным натоўпам, але падобна, што па ўсім яго прасцягу. Насустрач спяшалі гараджане і прыезджыя, занятыя магазінамі або іншымі справамі, а тыя, хто ішоў праспектам, выкрыквалі: «Да расійскага парламента! Да расійскага парламента!» З вокнаў чуліся радыёгаласы, чыталі «Зварот да народа», пакуль яшчэ янаеўска-кручкоўскі. Але тыя, хто ішоў пазней, слухалі ўжо ельцынскае «Да грамадзян Расіі»: прыёмнікі выносілі на балконы, агучвалі ўсю вуліцу.

На выхадзе да Садовага кальца знаёмы кінакрытык, ён ужо ад Белага дома, справы ў яго нейкія да Кангрэса суайчыннікаў. (Падгадалі землякі нашы акурат пад путч!) Але, узрушаны, прайшоў з намі метраў сто, расказваючы: толькі што выступаў Ельцын. З танка! Так, гісторыя іранічная. Супраць путчыстаў сказаў прамову у позе самага першага нашага путчыста.

І што сказаў Ельцын, як усё было? А пагражаў судом і не ім толькі, але ўсёй наменклатуры, якая падтрымае іх, будзе выконваць указы не законна абранай улады, а гэтых самазванцаў!

Чалавек, не маючы ні арміі, ні спецвойска (у гэты час у Ельцына, а дакладней, у Кобеца і Руцкога ў распараджэнні было 60—80 узброеных людзей), нават сувяззю з краінай не забяспечаны, пагражае ўсялякімі карамі савецкім чыноўнікам, усяму партапарату, генералам і маршалам, па аднаму слову якіх тысячы танкаў рушылі на горад. Што ім было паслаць парачку верталётаў з ракетамі і знесці за некалькі хвілін з твару зямлі і Белы дом, і ўсіх, хто ў ім.

Але гэта быў самы дакладны, самы патрэбны крок Ельцына і, магчыма, самае галоўнае яго дзеянне за ўсе дні супраціўлення. Так, народ стаў іншым за апошнія некалькі гадоў. Але камуністычная сістэма хлусні, запалохвання, маніпуліравання прэсай, інфармацыяй усё яшчэ была магутнай і ўсё яшчэ ў немалой ступені ў руках наменклатуры. Многія, вельмі многія людзі, можна нават сказаць, што народ у цэлым гатоў быў на смяротэльную рызыку, на прамую сутычку з ненавіснымі яму пажыццёвымі гвалтаўнікамі.

[1] Відавочна, сам Кручкоў і знішчыў, а сёння заяўляе ўпэўнена, што, маўляў, не адшукаецца такі спісак.

таўнікамі. Але людзям патрэбна было, як нішто іншае, вось гэта мужнае і поўнае пагарды слова Ельцына ў бок тых, хто схаваўся за танкі. Слова, якое супадае з пачуццямі і адносінамі мільёнаў людзей. Ва ўчынку Ельцына было самае галоўнае, самае важнае — пагарда да сілы гвалтаўнікоў. Гэтае ж пачуццё востра пранізала ўсю краіну, наскрозь. Асабліва, калі Ельцына на танку краіна ўбачыла па тэлебачанні. І зноў на патрэбным месцы ў патрэбны час апынуўся патрэбны чалавек — тэлерэпарцёр, які змог гэту перадачу арганізаваць. На кожнага Краўчанку знаходзіўся свой няКраўчанка — таму і перамаглі змоўшчыкаў. Такіх людзей з'явілася столькі, што Сістэма ўжо не магла іх усіх ізаляваць або пракантраляваць. Кажуць, Бог нам дапамагаў. Але і яшчэ кажуць: ён дапамагае тым, хто таго варты, заслугоўвае.

А. Праханаў у сваёй «духоўнай» газеце «День» з неразумнай помслівасцю ўнушае чытачам, што Белы дом абаранялі наркаманы, п'яныя маладзёны, прастытуткі (ну і, вядома, кааператары). Спрачацца з Праханавым — тое ж самае, што з Кручковым (аднойчы я паспрабаваў), які таксама сцвярджае, што там «нямала было і п'яных».

Ну, што ім сказаць? Што за ўвесь час не ўбачыў, хаця сам быў там, ніводнага п'янага. Але ж гэткае імі, Праханавым і Кручковым, гаворыцца не дзеля таго, каб некага пераканаць: ім трэба выявіць пачуцці прайграўшых. Ну, што ж, выяўляйце, біце ў тое месца, аб якое пляснуліся!

Так, гэта была найбольш моладзь. Але ніколі (хіба толькі ў вайну) не бачыў столькі сур'ёзнасці, розуму на тварах, у вачах, у паводзінах хлапчукоў ці амаль хлапчукоў. Хаця ў мяне і вырвалася на V З'ездзе народных дэпутатаў СССР, калі гаварыў пра жнівеньскія дні: «рэвалюцыя з тварам Растраповіча» (пра гэта будзе ніжэй), але, вядома ж, можна сказаць было: з хлапчуковым тварам Усава, ці Комара, ці Крычэўскага. Якія ж яны нясцерпна маладыя былі, і якія прыгожыя твары, усмешкі на вялізных фатаграфіях, калі мы неслі, праводзілі іх труны!

Але не мала было там і людзей у гадах, з ордэнскімі калодкамі франтавікоў. А некаторыя — спецыяльна недзе расшукалі сваю ваенную апратку і прыйшлі ў ёй.

Хто мне яшчэ асабліва запомніўся (але гэта ўжо з тэлезапісаў тых дзён), дык гэта — стары з сялянскім аблічмам, які адмахваўся, як ад раз'юшаных быкоў, ад танкаў, што імчаліся па Маскве. І асабліва — жанчына няпэўнага ўзросту, якіх столькі бачыў у вайну: стаіць наўколенцы сярод вуліцы, глядзіць на ўсё гэта, падае галавою да долу і плача, плача... Жудасна нагадвала кінакадры 1941—1945 гадоў: бабы, што галосяць, заломваюць рукі над трупамі родных... Вось ён — народны твар жнівеньскіх дзён. Самога народа вобраз. Увесь жах і брыда таго, што чакала краіну, усіх нас, калі б верх узялі партдыназаўры — у галашэнні той невядомай бабы (японцы потым яе расшуквалі, гэта іх кінакадр), у яе горкім адчаі, плачы як бы над новымі Курапатамі, Быкоўнямі.

Жанчын, найбольш жанчын мы ўбачылі ля Белага дома, калі туды дабраліся. Не было яшчэ ніякіх барыкад, людзей сышлося не больш за тысячу.

Ва ўсіх галовы задраныя ўверх, прагна ловяць хоць які рух у вокнах. Натоўп (гэта пакуль яшчэ натоўп, які кідаецца туды-сюды) перакочваецца з аднаго краю прасторнай плошчы перад Домам на другі. Раптам некаму здалося, што там Ельцын.

У адным з вокнаў на пятым, ці што, паверсе бачны нейкія людзі, адзін у расшпіленым пінжаку, у белай кашулі, мне здалося, што гэта Рыжоў. Стаяць і глядзяць на нас, а мы на іх. Нам патрэбен Ельцын. «Ельцын! Ель-цын!» — скандзіруе натоўп, зрэшты, не дужа складна.

— Дэпутаты, што рабіць? — нехта пазнаў мяне.— Што нам рабіць?

Пытаюць патрабавальна, нават сярдзіта. Вось так, таварыш дэпутат, дэмакрат. У вас ёсць план дзеяння ў такой вось сітуацыі? Ці адны размовы?

Гэта і пагнала мяне ў Дом. Падказалі, што я магу туды прайсці па сваёй дэпутацкай кніжачцы. Нядаўна збіраўся здаць яе разам з дэпутацкімі паўнамоцтвамі. (Абмяркоўвалі гэта з усімі заснавальнікамі «Московских новостей».) Надакучыла роля статыста ў бяздарным лук'янаўскім спектаклі.

Добра, што не паспеў гэтага зрабіць: міліцыянер не адразу, але прапусціў у Белы дом. Уздымаўся па шырокай парадная лесвіцы, шукаючы патрэбны мне паверх, а які патрэбен, не ведаў. Дзверы ў кабінеты насцеж, там нейкія людзі чыноўнага выгляду нешта перабіраюць у сталах, як бы рыхтуючыся пайсці. Чамусьці прыгадаўся часопіс «Былое», апісанне апошняга дня і хвілін Часовага ўрада. Як міністры чакалі тых, хто ўварваўся і вымусіў пайсці: трэба было захаваць твар перад гісторыяй і народам. Так, яны пойдуць, але ўсе будуць ведаць: адбыўся гвалт над законнай уладаю. Чым збянтэжыць, напалохаць бальшавікоў хацелі!..

Людзей са зброяй у Доме не відно. Хто мог бы абараняцца. А, вось знаёмы! Вельмі абрадаваўся Рыжову. Ён таксама ўсміхнуўся змрочным, амаль чорным тварам. Кепскія справы! Я пайшоў за ім следам. Прывёў мяне ў вялікі кабінет, тут таксама некалькі тvараў знаёмых. Дэпутат Т. і другі, таксама Т., але з тэлекаментатараў, яго нядаўна звольніў Краўчанка. Казалі, што гэты Т. нават заслужыў гнеў Палітбюро. Нейкія жанчыны з дзелавым выглядам клапоцяцца ля стала, а абодва Т. стаяць ля акна і глядзяць туды, адкуль я толькі што прыйшоў,— на людзей, што кідаюцца па плошчы, на праспект і мост, забітыя транспартам, які рухаецца.

Я адразу Т.-дэпутату:

— Ну, дзе вашы ёб...я партыі?

Пасля вайны я, здаецца, пазбавіўся ад падобных слоўцаў. А тут раптам вярнулася. Але чалавек не пакрыўдзіўся, адказаў:

— Партыя мая? Дзейнічае.

Падышла нейкая жанчына.

— Мікалай Ільіч, на балкон трэба было б выйсці, з мегафонам, неяк распарадзіцца, а то пачалі рабіць барыкаду, але не ўзгоднена...

— А што я ім буду гаварыць? — вяла адрэагаваў Т.— Супакойваць, дык яны і так спакойныя.

Але ўсё ж пацікавіўся: а мегафон ёсць?

Мегафона не было.

Т.-другі паведаміў мне:

— У шаснаццаць прыйдуць. Генерал (назваў прозвішча, не помню, якое) загадаў ачысціць памяшканне да гэтага часу.

Кручкоў (праз свайго адваката) вяшчае з «Матроскай цішыні», што «Альфа» лёгка магла арыштаваць Ельцына і ўсіх астатніх 19 жніўня. Пра «Альфу»: «Гэта прафесіяналы высокага класа, якія ніколі нікуды не спазняліся». Але не арыштавалі: ні на дачы, ні ў гэтыя першыя гадзіны ў Белым доме, калі яшчэ маглі. Хаця абгаворвалі: Язаў сустрэнецца і пагаворыць з Ельцыным па-ваеннаму строга, і калі той не паслухаецца, будзе лезці на сценку, «затрымаць да высвятлення». Да высвятлення, як складвацца будзе сітуацыя і свет рэагаваць.

Прамаруджванне, вядома, было і пераканаы, што не з-за няўзгодненасці дзеянняў або непаваротлівасці нейчай, а хутчэй ад самаўпэўненасці: усё ў іх руках, усім распараджаюцца, і часам таксама. Гаворка ідзе пра першы дзень, бо потым усё змянілася: заспяшаліся дзейнічаць, а ўсё ўжо з рук папаўзло, стала застапорвацца. Ельцын перахапіў ініцыятыву. І хаця таксама быў яшчэ момант крытычны (са слоў Кобеца), прэзідэнту Расіі яго паплечнікі нават прапанавалі вывезці яго з Белага дома, з Масквы, а ён: «Буду тут да канца з усімі».

Чаму ж хунта не дзейнічала 19-га? Ды не, вядома, дзейнічала, але ў іншых накірунках. Ім здавалася, што галоўнае, ключ да перамогі, не ў Ельцыне і тых, хто каля яго, а ў далёкіх тылах. Што таксама праўда: тылы трэба было забяспечыць. Вось і зазванілі тэлефоны: Кручкоў — Краўчук, Кручкоў — Назарбаеў, Кручкоў — Дзямянцей і г. д. Паслы ва ўсіх краінах, заходніх асабліва, заспяшалі да кіраўнікоў урадаў: растлумачыць, супакоіць, гарантаваць. Быццам бы і ўдалося. Вядома, не адразу Захад гатоў быў зміріцца з фактам арышту, ізаляцыі іх любімца Горбі і ўсім астатнім, але з Францыі, з некаторых іншых краін прагучалі першыя ноткі прымірэнчых адносін да падзей. За сем дзесяцігоддзяў усяляк было, але ўрэшце ва ўсім свеце навучыліся лічыцца з фактам існавання СССР і яго «інтарэсаў».

З рэспублік толькі прыбалтыйскія, Малдавія і Кіргізія не так, як трэба, на думку путчыстаў, адрэагавалі, а кіраўнікі іншых зразумелі, што пугай абуха не пераб'еш. Некаторыя ж (беларускія таварышы і самы поўдзень) дык проста ажылі духам. Далёкія расійскія глыбінкі, самыя буйныя вобласці ўзялі на сябе члены ЦК і Палітбюро РКП і КПСС. І таксама, можна сказаць, мелі поспех. Так што зусім не бяздзейнічалі змоўшчыкі, як потым пісалі, высмейваючы іх або дакараючы. Дзейнічалі, і яшчэ як. Іншая справа, што яны недаацанілі магчымасці Ельцына і тых, хто быў з ім ля Белага дома. Як цэнтр прыцягнення ўсіх сіл супраціўлення ў краіне яны значылі куды больш, чым нават самі па сабе.

Тылы хунта ўмацавала, і ўжо 20-га было прынята рашэнне — штурмаваць расійскі парламент. Ці прасцей кажучы: адна група, большая, клінам рассуне людскі натоўп, пракладзе дарогу меншай, але самай прафесійна падрыхтаванай, ну і — маліцеся свайму дэмакратычнаму богу, усе, хто ў Белым доме! «Альфа» і яе сабраты ведаюць, як гэта робіцца. Напрыклад, Кабул, 1980-ты. Амін мог бы расказаць, каб мог.

Але 19-га яны сапраўды маглі без лішняга клопату ўвайсці, уварвацца ў высокі белы будынак над ракой, і тады не толькі жнівеньскія падзеі, але і гісторыя канца XX веку магла змяніцца. Магчыма, што гэтыя гады сталі б не проста канцом веку і тысячагоддзя, але і самой гісторыі чалавецтва. Ратуючы сябе, любой цаной працягваючы свой асуджаны век, таталітарная сістэма магла скінуць у ядзерную прорву ўсіх.

Што ж выратавала? Крыўдна лічыць, што выпадковасць. Але і выпадковасць таксама, без яе нішто ў гісторыі не здаралася. Але самае галоўнае — гэта няўлічаныя хунтай партдыназаўрамі змены, што адбыліся ў народзе велізарнай краіны, у народах яе і кожным чалавеку асобна. Змены закранулі і армію: паніка ахапіла змоўшчыкаў, калі авіяцыя (генерал Шапашнікаў і іншыя) адмовілася выконваць іх распараджэнні, стала націскаць і на свайго міністра Язава.

Нават супрацоўнікі КДБ, не ўсе, але многія, перасталі слепа падпарадкоўвацца. Калі сталі вядомыя гэтыя факты, прыгадалася, як на кастрычніцкім мітынгу 1991 г. (альтэрнатыўным, дэмакратычным, на Старой плошчы) маёр КДБ звярнуўся з трыбуны да калегаў: вы там, што стаяць у падваротнях і сярод мітынгантаў, пакуль не позна, апамятайцеся!..

— Дзе я магу ўзяць зварот Ельцына да грамадзян Расіі? — спытаў я ў Т.-другога.

Ён моўчкі падаў лісток. І больш няма? І больш няма, чалавек толькі пацепнуў плячамі. А там жа людзі чакаюць, яны мяне расшматаюць, выхопліваючы гэты адзіны лісток.

З высокага акна відно, што на праспекце ўжо нешта адбываецца: транспарт яшчэ рухаецца, але ўжо некалькі тралейбусаў і аўтобусаў спынены, скупіліся і можна назіраць, як маленькія мурашы-людзі разварочваюць цяжэразныя тулавы машын, каб перакрыць праспект. Тралейбусы — зброя дэмакратыі!

Пасля ўжо ўсіх падзей, у час сесіі Вярхоўнага Савета ў Крамлі мы з Даніілам Граніным, абмяняўшыся ўражаннямі аб перажытым (ён расказваў, што адбывалася ў Ленінградзе, які, як і ў вайну, адважна прыкрываў Маскву), пераселі да Міхаіла Палтараніна: хацелася пачуць пра першыя гадзіны, самыя ранішнія, 19-га жніўня. Мяне ўразіла такая дэталь у яго расказе: надрукаваўшы на машынцы ўсяго некалькі экземпляраў звароту «Да грамадзян Расіі», Ельцын і некалькі чалавек з ім рванулі да Масквы, а па дарозе (настолькі няўпэўненыя былі, што не перахопяць іх) аддалі адзін экземпляр вадзіцелю, і ён схаваў яго пад дыванок. Потым спынілі таксіста і яму таксама ўручылі. (У гэтым шэрагу і стварэнне запаснога ўрада на Урале (Аляксей Яблыкаў і іншыя), і многае, што сведчыла: усё вісела на валаску. Толькі нечакана ўзнятая хваля народнай падтрымкі чалавеку, якому людзі давяралі больш, чым каму другому, павярнула ход падзей.)

Я выйшаў з Белага дома, трымаючы ў руцэ лістоўку, як здаваўся ў палон. Тут лупіць дождж. Натоўп абрынуўся, ельцынская лістоўка-зварот тут жа была схоплена, і пытанні, пытанні, на якія не адкажаш: што, што адбываецца? Што трэба рабіць? Рады быў, калі згубіўся ў агульнай масе.

І тут я ўбачыў тое, на што, магчыма, іншыя ў гэты момант ніякай увагі не звярталі: жанчына ў гадах нахілілася і паклала цагліну. Сярод прасторнай пляцоўкі перад Домам. Недзе падняла яе, несла і вось прынесла і паклала. Для барыкады. Вуглавы камень. Гэта было бязглузда да немагчымага, выглядала так бездапаможна і нават смешна. Але смешна мне не было. Вачам раптам стала горача. І неяк вельмі дарэчы пасыпаліся — нарэшце-такі! — з акна лістоўкі. Жанчына разам з усімі кінулася ў той бок. А я непрыкметна падышоў і пакратаў цагліну нагой. А калі праз нейкі час пашукаў яе вачыма, убачыў, што побач з ёй ужо кінуты нейкія металічныя пруты і драўляная раскірака.

**(Працяг будзе.)**

# АДЫХОДНАЯ МЕЛОДЫЯ

Старшае і сярэдняе пакаленні, бадай, апошнія, хто яшчэ заспеў беларускую прыроду ў яе спрадвечнай, некранутай красе. Хто помніць шчасце хадзіць і ездзіць па роднай зямлі, любавацца яе краявідамі і не думаць з трывогаю пра смяртэльную пагрозу ўсяму жывому, якая тоіцца ў лесе, у садзе, на рэчцы ці возеры.

З тугою ў душы згадваецца даўняе параўнанне Беларусі з зялёнай Швейцарыяй, якое падарылі нам захопленыя яе дзіўным хараством замежныя пілігрымы. Цяпер яблык, пра які Янка Купала ў гады вайны пісаў, што ён павінен узарвацца гранатай у руках ворага, напоўнены цэзіем і стронцыем і выбухае ў руках нашых дзяцей і ўнукаў. І самі мы ўжо не гаспадары на сваёй зямлі, а чужынцы, акупанты, захопнікі і паводзім сябе адпаведна, пакідаючы нашчадкам зняважаную зямлю. З якім дзікунскім захапленнем мы паўтаралі ўслед за аўтарам «Дыялектыкі прыроды» Ф. Энгельсам, што чалавек стаў уладаром свету і што яго рука не закранула хіба толькі каралавыя рыфы дзе-небудзь каля берагоў Аўстраліі, а так усюды знаходзім сляды яго дзейнасці! Гэтак па-варварску людзі зразумелі заклік ачалавечваць прыродную стыхію, косную матэрыю.

Мы самі і нашы нашчадкі, мабыць, яшчэ доўга будуць сустракаць у старых кнігах мясціны, дзе апісваюцца як нешта натуральнае і ўвогуле звычайнае малюнкі беларускай прыроды, якой мы ўжо не ведалі: «Я з маленства ў прыродзе. У ёй і з ёй для мяне заўсёды быў сэнс жыцця... Памятаю Быстрэю вельмі прыгожай. Наш бераг быў вельмі круты, з пясчанымі плывунамі, зараслямі ажын, малін, шыпшыны, а процілеглы — адхонны. Дом стаяў вялізны, аднапавярховы, перад ім раслі векавыя ліпы. Супроць дома — сад, каменныя слупы брамы. На слупах заўсёды жылі буслы. Вакол дома — сажалкі, у якіх вадзілася шмат рыбы і ракаў... Было шмат птушак, асабліва качак. Буслоў і ўдодаў тут усе любілі...»

Гэта фрагмент з запісак жывапісца і паляўнічага В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Чытач аповесці-эсэ В. Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе», адкуль ён узяты, яшчэ не раз сустрэне на яе старонках апісанні беларускай прыроды і пазнае ў іх маляўнічыя мясціны Магілёўшчыны, Віцебшчыны, дзе жылі бацькі мастака і дзе прайшлі яго дзіцячыя гады. Адчуе чытач і глыбіню звышзадумы твора: аўтар нагадвае сучаснікам, што яны мелі і што страцілі, магчыма, назаўсёды, у якім райскім куточку Зямлі выпала жыць беларусам і што сталася з гэтым зямным раем. Зрэшты, прамых паралелей з нашым часам, з паслячарнобыльскай эрай у аповесці няма. Празаік свядома пазбягае публіцыстыкі: яна выведзе чытача на мелкаводдзе штодзёншчыны, тады, калі мэта пісьменніка заключаецца ў тым, каб нагадаць пра хараство роднага кутка і пра місію чалавека на Зямлі, якую ён, на жаль, гэтак дрэнна выконвае.

В. Карамазаў нездарма спыніў свой уважлівы позірк на постаці Бялыніцкага-Бірулі. Па-першае, яны — земляки-магіляўчане. Радзіма празаіка — Чэрыкаўскі раён і Бялынічы, дзе жыў кароткі час мастак, побач. Тут, на думку аўтара, асабліва шмат у пейзажах тыпова беларускага, нацыянальнага, невыказнага, што так востра і далкадна адчуў мастак і выявіў у многіх сваіх пейзажах. Па-другое, абодвух яднаюць падобныя адносіны да прыроды. Карамазаў і ў прозе (раман «Пушча»), і ў публіцыстыцы не толькі апявае, але і абараняе беларускі лес. Ён нязменна выступае ў абарону людзей, што ведаюць, якое месца займае прырода ў гістарычным быцці нацыі. Празаіка і мастака збліжае і агульнае захапленне: абодва яны — заўзятыя паляўнічыя, не толькі ведаюць і разумеюць прыроду, але і адчуваюць яе душой.

Аўтар аповесці глыбока вывучыў творчасць Бірулі і прайшоўся яго жыццёвымі сцежкамі — сустрэўся з людзьмі, якія добра ведалі мастака, помняць мноства легенд пра яго паляўнічыя прыгоды. Такім яго і запомнілі: у старой паляўнічай куртцы, высокіх ботах, на адным плячы — эцюднік, на другім — стрэльба, з адной кішэні тырчаць пэндзлі, у другой ляжаць патроны. Адных мядзведзяў Біруля ўзяў ажно сорак восем — у народзе існуе прымха, што нават самы мужны і ўдалы паляўнічы жыве да свайго саракавога мядзведзя. Пры ўсім тым на паляванне Бялыніцкі-Біруля не глядзеў як на самамэту — здабычу аддаваў людзям, у якіх падначоўваў у час вандровак па лесе, ратаваў жыхароў навакольных вёсак ад небяспечных звяроў, мядзведзяў-шатуноў, якія кідаліся на людзей і хатнюю жывёлу, вовчай зграі. Любая размова пра паляванне ў яго заканчвалася развагамі пра саму прыроду, яе стан, вобразы, цікавыя праявы, хараство. Дарэчы заўважыць, што паляваў ён у часы, калі звяроў і птушак было многа.

Бялыніцкі-Біруля, робіць вывад празаік, быў «чалавекам святла». І вонкава («аблічча светлае: твар, валасы, вочы — блакітныя, як вясновае неба»), і душой мастака, які ўсё жыццё пісаў адны чыстыя, калі можна так сказаць, пейзажы: «у свеце не засталося нічога больш чыстага, як прырода». На яго карцінах няма цёмнага ці шэрага тону, а ёсць толькі светла-шэры, з блакітам ці жаўцізною, незалежна ад настрою душы, хоць драматычных момантаў у яго жыцці ставала: зведаў ён голад і холад, смерць блізкіх, расчараванні і роспач, трывогі і надзею — жыў жа ён у эпоху войнаў і рэвалюцый (нарадзіўся ў 1872, памёр у 1957 гг.). Яго так і называлі — майстрам святла. Пачынаючы ад І. Рэпіна і І. Левітана і да мастакоў савецкага часу. «Такая і славутая жамчужна-серабрыстая гама,— заўважае В. Карамазаў.— Яна выражала не толькі пераходны стан у прыродзе, рух ад зімы да вясны, ці з ночы ў раніцу, ці ад непагадзі да пагодлівага прамення, але і пагоду ў душы».

Шмат хто тлумачыў своеасаблівую каляровую гаму мастака нацыянальным паходжаннем яго таленту. Для беларускай прыроды сапраўды характэрныя светла-шэрыя, срабрыста-блакітныя, жамчужна-перламутравыя тоны. Да ўсяго на карціны Бялыніцкага-Бірулі наклалі свой адбітак пазнейшыя смутак і туга мастака па роднай Беларусі, з якой яму давялося расстацца,— школа майстроў, пераважна рускіх перадзвіжнікаў, знаходзілася ў Маскве, галерэі, выстаўкі, мецэнаты былі там жа. Так і стаў ён адначасова беларускім і рускім мастаком — лёс многіх выхадцаў з Беларусі, вымушаных умовамі працаваць на культуру суседніх народаў. Вядома, урэшце і на беларускую таксама. Тым не менш глыбокі след гэтага душэўнага расколу мы знаходзім у творчасці мастака. Нездарма ён у апошнія дзесяцігоддзі жыцця некалькі разоў наведваў Беларусь, шмат маляваў тут, дапамагаў стаць на ногі нацыянальнай школе выяўленчага мастацтва.

Шлях Бялыніцкага-Бірулі да спасціжэння таямніц творчасці, да непаўторнай, толькі яму аднаму ўласцівай манеры малявання быў няпросты, і В. Карамазаў узнаўляе яго з паэтычнай праніклівасцю і даследчыцкай інтуіцыяй ад дзяцінства і да апошніх дзён. Прырода і людзі Беларусі пакінулі асабліва прыкметны след у душы мастака. Па сутнасці, менавіта памяць пра дзіцячыя ўражанні дапамагла яму адшукаць сваю творчую сцяжыну. Больш таго — яна дапамагала яму жыць і выжыць у цяжкія часы. Прынамсі, сам Вітольд Каятанавіч у гэта верыў: «Цяжкая хвароба мяне не забіла, а толькі скалечыла, і стары беларус усё яшчэ жывы. Недарма ў нашым народзе ёсць прымаўка: «Стары гаршчок два разы жыве»... Відаць, у беларусаў ад прыроды тыя сілы, што дапамагаюць ім змагацца са смерцю».

У малюнках роднай прыроды мастак шукаў не толькі выразныя знакі багацця і шматстайнасці свету, але і глыбокі сэнс зямнога існавання. Менавіта прысутнасць касмічных стыхій заўсёды адчуваецца ў карцінах Бялыніцкага-Бірулі. Сёння можна сказаць і гэтак: адчуваецца прысутнасць Бога, Першатворцы ўсяго на свеце. Бо што лепш за ўсё даказвае існаванне вышэйшага сэнсу ў свеце, як не сам неаглядны, эпічна ўсёахопны, шматстайны вобраз Сусвету?! Творчасць мастака, на карцінах якога мы знаходзім водбліск ранішняга святла, зары чалавецтва, і ёсць галоўны паэтычны аргумент на карысць змястоўнасці чалавечага быцця. Наіўнае паэтычнае слова і такія няўлоўныя паняцці, як хараство, дабро, ісціна, сёння дэманструюць сваю моц і ўсёпранікальнасць. Варта было людзям забыцца на іх, занядбаць (у гады войнаў, першай і другой сусветных, грамадзянскай, «малой фінскай» і «Вялікай Айчыннай», вайны з фашызмам і вайны з уласным народам), як адплата не змусіла сябе доўга чакаць. Бялыніцкі-Біруля зведаў усё гэта і як чалавек, і як мастак, і як своеасаблівы філосаф: аўтар перамяжоўвае сваё паэтычнае апавяданне фрагментамі з літаратурных практыкаванняў свайго героя.

Яго, Бірулева, мастакоўская поўня ўзышла на небасхіле айчыннага жывапісу — ён здолеў дасягнуць у творчасці недасяжнага, спалучыць на сваіх карцінах зямлю і неба, матэрыяльнае і духоўнае, зямное, плоцевае і высокае, нябеснае і здабыць гармонію. Але яго творчасць была і яго крыжам, які трэба было несці да знямогі і ведаць, што канца пакутам няма ажно да апошняга дня. Сілу давала разуменне, што іначай нельга ў гэтым свеце плачу і пакутнай долі. Што чалавек здзейсніць сваё зямное прызванне толькі тады, калі працягне справу Творцы і дапаможа ў меру сваіх магчымасцей хоць крыху палепшыць навакольны свет, упрыгожыць яго працаю сваіх рук. Тут мае значэнне і высокая творчасць мастака, і звычайная чалавечая руплівасць: «І вось я зноў тут,— пісаў Бялыніцкі-Біруля, прыехаўшы ў мясціны, дзе натхняўся І. Левітан і дзе знаходзіў паэтычнае натхненне ён сам.— Як усё змянілася! Там, дзе стаяў дом, шумела маладая зарасць, кветнікі зараслі травою. Але раптам на гэтым забытым людзьмі месцы я ўбачыў куст ружаў. Гэта былі пасынкі ад тых белых ружаў, якія любіў Левітан. Мне захацелася зберагчы іх на памяць пра яго і ягоную Горку. З дапамогай Аляксея Пагодзіна я выкапаў куст і пасадзіў у садзе на дачы. Куст прыжыўся».

В. К. Бялыніцкі-Біруля пісаў не толькі пейзажы сярэдняй рускай паласы, дзе знаходзіў шмат беларускага, памятнага з малых гадоў. У 30-я гады ён, як і іншыя савецкія мастакі, змушаны быў распрацоўваць у сваёй творчасці абавязковыя, навязаныя сацрэалізмам тэмы. Аднак усюды ён заставаўся самім сабою — майстрам святла і паветра: і тады, калі пісаў домік Арыны Радзівонаўны і магілу Пушкіна, і тады, калі рабіў эцюды на Крайняй Поўначы. Даследчыкі так і не знайшлі ў яго спадчыне карцін на сталінскую тэму, хаця ён быў вымушаны паехаць на Каўказ, у Горы, на радзіму «бацькі ўсіх народаў». Да канца сваіх дзён Бялыніцкі-Біруля быў верны сабе і нам усім пакінуў запавет: «Любіце і ведайце музыку. Любіце і ведайце родную паэзію. Любіце прыроду, працуйце на прыродзе, вывучайце яе ва ўсе поры года, кожны дзень і кожную хвіліну».

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Карамазаў Віктар. Крыж на зямлі і поўня ў небе. Мн., «Юнацтва», 1991.

# ЛІХАМАНКА (ТРАСЦА)

Было дванаццаць сясцёр нейкіх духаў, яны хадзілі па свеце, клікалі людзей, і хто адгукаўся ім, у тым адна сястра адразу пасялялася, і ён страшэнна мучыўся. Часам яны проста прыходзілі да людзей уночы, у выглядзе прыгожых жанчын; калі той, да каго падыходзілі, не ўставаў ці не гразіў ім, то і ў яго ўваходзіла Ліхаманка. Таксама ўваходзілі яны ў людзей у выглядзе парушынкі або мухі, што ўпала ў малако, калі хто-небудзь еў; і калі той працягваў есці гэта малако, то ў яго адразу рабілася Ліхаманка; калі ж возьме тую парушынку і кіне ў печ, то яна згарыць, а калі, уклаўшы яе ў яечнае шкарлупінне, павесіць у коміне, то яна надзвычайна мучыцца. Такім чынам, шэсць сясцёр ужо спалены, тры дзесьці мучацца, а тры і цяпер блукаюць па свеце.

*Зап. у 1839 г. Ул. Радкевіч. ЦДГА БССР. ф. 2507, воп. 1, спр. 75, л. 62.*

Тутэйшы народ адрознівае дванаццаць постацей Трасцы, якіх уяўляе сабе як дванаццаць сясцёр, вельмі прыстойных і падобных між сабою маладых дзяўчат, якія паасобку абіраюць сабе на пэўны час жытло ў людскім арганізме, пераходзячы па чарзе ад чалавека да чалавека і жывучы яго сокамі. Час ад часу збіраюцца яны на стрэчу звычайна на якой-небудзь лясной палянцы і там расказваюць пра свае справы, складаюць планы на будучае, дзеляць між сабою нагледжаныя ахвяры. Часам з'яўляюцца яны ў сне, прадказваючы хваробу ці зыход яе, або таксама засцерагаюць чалавека ад пагрозы хваробы, напр., т. зв. «Трасца смяротная» гаворыць звычайна: «Ляшчына, не ляшчына, а я цябе насмерць затрасу!»; іншая зноў, калі чалавек засне выпадкова на зямлі ў месцы, запэцканым скацінаю, з'яўляецца чалавеку ў сне і будзіць яго, каб неадкладна ўстаў, а калі не паслухае, Трасца плюе на соннага і той адразу ж захворвае. Назвы розных постацей Трасцы наступныя: 1) «Трасца смяротная», якая выклікае смерць без выключэнняў; 2) «Трасца ўнутраная», якая паражае пераважна вантробы, у прыватнасці, «кала сэрца нудзіць»; 3) «Трасца павярхоўная», «скура выбіваецца наверх...»; 4) «Трасца касцявая», якую суправаджае ламота ў касцях; 5) «Трасца пудавая», якая ўзнікае з перапуду; 6) «Трасца лістаадзеватная», якая пануе ўвесну; 7) «Трасца лістаападная» ці восеньская — адна з найбольш упартых постацей; 8) «Трасца гарохавая», якая пануе, калі гарох цвіце; 9) «Трасца асінавая»; 10) «Трасца ядленьцавая»; 11) «Трасца агнявая» і 12) «Трасца лёдавая». Апошнія чатыры назвы паходзяць ад лекаў, эфектыўных на гэтыя постаці (асіна, ядловец, цяпло, холад).

F. Wereńko. Przyczynek do lecznictwa ludowego. Materjaly antropologiczno-archeologiczne i etnograficzne. Kraków, 1896, T. I, s. 166—167.

Ліхаманка або «цётка-Ліхаманка» выходзіць з зямлі ўвосень і вясною. Ліхаманка бывае розная, гледзячы на тое, якая цётка-Ліхаманка залезла ў цела чалавека. Усяго гэтых цётак-Ліхаманак 12, якіх таксама завуць дочкамі цара Ірада. Будучы ў недастатковай для ўсяго свету колькасці, яны толькі перыядычна наведваюць сваіх ахвяр, адсюль і зменлівы характар Ліхаманкі.

Асеннія Ліхаманкі ўяўляюцца беларусу ў выглядзе кастлявых, агідных старых баб, а веснавыя — надзвычай прыгожыя, грацыёзныя, але халодныя стварэнні.

*Минский листок. 1894. № 90.*

Вельмі многія хваробы беларус уяўляе сабе ў чалавечым вобразе. Ліхаманку, напрыклад, беларус уяўляе сабе ў вобразе халоднай прыгажуні ці, наадварот, у вобразе злоснай, пачварнай бабы. Цётка-Ліхаманка, як і шматлікія іншыя хваробы, выходзіць з-пад зямлі якраз на весну і бадзяецца паўсюль, пакуль не натрапіць на каго-небудзь, хто спіць на веснавым сонейку. Калі гэта ёй удаецца, яна падкрадзецца да соннага, пацалуе яго і ўжо не расстанецца з ім. Прачнуўшыся, ён адчуе, што спаў асабліва салодка, і толькі ў будучым няпрошаная госця пачынае заяўляць свае правы. Таму клапатлівыя маткі, выводзячы сваіх дзяцей на сонца, папярэджваюць іх галоўным чынам, каб яны не заснулі.

*Н. Янчук. По Минской губернии (заметки из поездки в 1886 году). М.. 1889. с. 35.*

Усіх Ліхаманак існуе семдзесят сем, і яны — дочкі Ірада (лаянка: «ірадава племя»), праклятыя і ператвораныя ў 77 шкодных струменяў паветра. З'яўляючыся дочкамі надта злоснага бацькі, яны хаця і аднолькава шкодныя, але і маюць асаблівасці, якія выяўляюцца ў большай ці меншай жорсткасці ў адносінах да сваёй ахвяры, а таксама ў мужыкаватасці і высакародстве. Таму і сродкі супраць Ліхаманак самыя разнастайныя, а іменна — 77 сродкаў, яшчэ да гэтага часу не вывучаных людзьмі.

Паводле другога падання, Ліхаманкі ператвораны ў 77 мух, якія стараюцца трапіць у страву і быць праглынутымі тым ці іншым чалавекам, пасля чаго, заразіўшы патрэбную асобу, яны выходзяць нізам. Варта толькі падхапіць такую муху, завязаць у анучку і прывесіць у коміне — ніводная Ліхаманка не прыстане да чалавека ўсё яго жыццё. Акрамя таго, дзякуючы гэтаму свет вызваляецца ад аднаго мучыцеля.

*Ник.. с. 274.*

Трасца, шуня або хондзя — такая хвароба, якая мае постаць худое, сіняе старое паненкі. Да каго яна дабярэцца ды ўссядзе, то той няхутка ад яе адчэпіцца...

Калі Трасца трасе, то яе хутчэй можна адагнаць, чым тую, якая толькі гняце да ломіць косці.

Калі Трасца толькі гняце да ломіць косці, то трэ напіцца свежага бярозавага соку ці кіслага малака, тагды яна пачне трасці, а як трасе, то хутчэй можна ад яе адчапіцца.

*Серж.. с. 268—269.*

Трасцы сядзяць на асіне, то затым асіна заўжды трасе сваім лістам, бо яе калоціць гэтая погань.

*Серж.. с. 204.*

Ліхаманку нельга лаяць, пра яе інакш не ўспамінаюць, як з прыгаворкаю: «Няхай яна здаровенькая і вясёленькая ходзіць» і нават на Дзяды клічуць на вячэру Трасцуху-матухну.

*Суеверия и предрассудки в Могилевской губернии. Могилевские губернские ведомости. 1849. №№ 6—8. с. 139.*



**Уладзімір ВАСІЛЕВІЧ.**

**пад рэдакцыяй доктара педагагічных навук, прафесара Д. І. ВАДЗІНСКАГА**

# «ЗАЧАРУЕМ МАЛЕНСТВА КАЗКАЮ...»

У адным са сваіх выступленняў Валянцін Распуцін, гаворачы аб ролі казак і песень у развіцці дзяцей, трапна выказаў думку, што калі б Пушкін не слухаў казкі і песні Арыны Радзівонаўны, а слухаў песні моднай эстраднай спявачкі, з яго атрымаўся б не Пушкін, а Дантэс.

Здавалася б, што ў наш перанасычаны інфармацыяй час, калі казкі гучаць і па радыё, і ў тэлеперадачах, калі хаця і з вялікімі цяжкасцямі, але ж выдаюцца дзіцячыя кніжкі і часопісы, не павінна быць падобных праблем.

На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што далёка не ўсе дзеці трапляюць у казачны свет, што адмоўна адбіваецца як на маральным іх стане, так і на іх маральным развіцці.

...А казка ж — не толькі крыніца народнай мудрасці і паэтычнага хараства, але і адна з важнейшых форм пазнання рэчаіснасці, бо заключае ў сабе дыдактычна-навучальны сэнс, які падаецца дзіцяці ў даступнай для яго форме.

Прыгадайма. Лісіца пагардліва аднеслася да госця жураўля — такі ж «прыём» аказаў ёй і журавель («Лісіца і жораў»); хацела лісіца жбанок утапіць, а і сама ўтапілася («Як лісіца жбанок тапіла»); заганарылася варона і наклікала на сябе адны непрыемнасці («Ганарыстая варона») і г. д.

Праз казку дзіця знаёміцца з праявамі сяброўства і здрады, бескарыслівасці і прагнасці, справядлівасці і ашуканства і да т. п. З тонкім гумарам у казках высмейваюцца фанабэрства, зайздрасць, баязлівасць і іншыя заганы ў адносінах паміж людзьмі.

Дзяцей нельга пазбаўляць казак або замяняць іх на нешта іншае. Невыпадкова вялікі рускі педагог К. Ушынскі гаварыў: «Я рашуча стаўлю народную казку недасягальна вышэй за ўсе апавяданні, напісаныя спецыяльна для дзяцей адукаванай літаратурай».

Нельга забываць, што казка — гэта найперш чарадзейства, і заўсёды шкада, калі гэта чарадзейства парушае тэлебачанне, якое (трэба аддаць яму належнае!) шмат клапоціцца, каб пазнаёміць дзяцей з вуснай народнай творчасцю. І ўсё ж менавіта з тэлеперадач дзеці даведваюцца, што Воўк размаўляе голасам артыста Папанава, што скрып дзвярэй — гэта толькі шумавы эфект, які робіць артыст Нікіцін, а любімыя мультфільмы — усяго толькі серыя малюнкаў.

Тэлевізійныя перадачы, як вядома, глядзяць не толькі дарослыя і дзеці старэйшага ўзросту, але і маленькія, якім патрэбны таямніцы чарадзейства.

Не сакрэт жа, што паток пошласці і грубага насілля, які выліваецца з экрана на душы дзяцей, вядзе да перагрузак іх нервовай сістэмы. І лепшыя лекі ад гэтага «тэлестрыптызу» — казкі, з якімі дзятва не павінна разлучацца ні ў сям'і, ні ў садку.

Пажадана, каб першая казка, пачутая дзіцем, была невялікая па аб'ёму, па колькасці дзеючых асоб. Прыкладам можа быць казка «Курачка-рабка».

«Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка-рабка. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся.

Плача дзед, плача бабка, курачка кудахча, вароты скрыпяць, трэскі ляцяць, сарокі трашчаць, гусі крычаць, сабакі брэшуць.

Ідзе воўк:

— Дзедка, бабка, чаго вы плачаце?

— Як жа нам не плакаць? Была ў нас курачка-рабка. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся.

І воўк завыў.

Ідзе мядзведзь:

— Воўк, чаго выеш?

— Як жа мне не выць? Жыў дзед, жыла бабка. Была ў іх курачка-рабка. Нанесла курачка яечак поўны падпечак. Сабрала бабка яечкі ў чарапіцу ды паставіла на паліцу. Мышка бегла, хвосцікам махнула, чарапіца ўпала, яечкі пабіліся. Плача дзед, плача бабка, курачка кудахча, вароты скрыпяць, трэскі ляцяць,сарокі трашчаць, гусі крычаць, сабакі брэшуць... А я брахаць не ўмею, вось і завыў.

Выслухаў мядзведзь казку і... адарваў сабе хвост. Так з таго часу і жыве з куртатым хвастом».

Чытаць казкі трэба павольна, эмацыянальна, выразна. Дзеці мысляць вобразамі, таму ім патрэбен час, каб уявіць адпаведны малюнак. Напрыклад, чытаем першы сказ вышэйпададзенай казкі — «Жыў дзед, жыла бабка»...— дзеці ў думках малююць спачатку дзеда, пасля бабку. Таму неабходна рабіць паўзу, каб дзеці паспелі «намаляваць» новую карціну. Успрыманне казкі ў многім залежыць і ад тэмпу чытання. Я прапаную бацькам уявіць сабе, што тэкст казкі яны... спяваюць. Вось у такім тэмпе і трэба чытаць.

Калі ж дарослыя чытаюць казкі ў хуткім тэмпе, не вытрымліваюць паўзаў у адпаведных месцах, дзеці не паспяваюць «сцерці» ў памяці папярэдні малюнак і намаляваць новы. У іх не хапае часу налюбавацца паэтычнай прыгажосцю кожнага слова казкі і створаным малюнкам. Мозг дзіцяці хутка стамляецца, і гэта адна з прычын таго, чаму казка павінна быць невялічкай па аб'ёму. Зробленыя да казак ілюстрацыі дапамагаюць дзецям затрачваць меней нервовай энергіі і сілы для ўяўлення адпаведнага малюнка. Па гэтай жа прычыне дзеці больш любяць слухаць «казку ўчарашнюю», чым новую.

Казкі з ілюстрацыямі пажадана чытаць так: пасадзіце дзіця, каб яму ў часе чытання было зручна разглядаць малюнкі. Праз некаторы час дзіця само возьме кніжку ў рукі, пачне разглядаць малюнкі і паспрабуе «чытаць» тэкст, яшчэ не ведаючы ніводнай літары.

Падабаецца дзецям і мноства паўтораў. Напрыклад, у казцы «Курачка-рабка» выраз «нанесла курачка яечак поўны падпечак» і іншыя паўтараюцца тры разы, што дапамагае развіваць памяць дзяцей. Пры кожным паўторы дзіцяці лягчэй маляваць карціны, запамінаць не толькі асобныя словы, але і цэлыя сказы. У канцы многа рыфмаў. Вось па такіх крытэрыях і павінны падбірацца новыя казкі: невялікія па аб'ёму, са шматлікімі паўторамі, рыфмамі, прыгожымі ілюстрацыямі.

Для дзяцей казка — тая ж рэчаіснасць. Дзіця не толькі слухач, але і непасрэдны ўдзельнік усяго таго, што адбываецца ў апавяданні. Паназірайце за ім у часе чытання казкі — у яго і ручкі і ножкі прыходзяць у рух, дзіця не можа стаяць на месцы, яно гатовае імчацца ў бой, ваяваць за справядлівасць, выкрываць зладзеяў, змагацца за праўду і г. д.

Усё гэта трэба ведаць і перад сном чытаць казку з павольным развіццём сюжэта. Калі дзіця пачынае засынаць, трэба памяншаць гучнасць і хуткасць чытання.

На жаль, гэтую «драбязу» не заўсёды ўлічвае рэдакцыя дзіцячых перадач беларускага тэлебачання. Нярэдка перад сном дзецям прапануюцца мультфільмы з жахлівымі сюжэтамі, з удзелам Бабы-Ягі, Цуды Юды і іншых персанажаў. Нягледзячы на шчаслівы канец казкі, дзіця напалачаца, нанервуецца і потым часта ўздрыгвае ў сне. Працягваючы непасрэдна нашу тэму, хачу параіць бацькам не гнацца за колькасцю казак. Не трэба спяшацца і з чытаннем новай казкі. Звычайны рэпертуар — 3—4 казкі. У часе чытання не трэба ўводзіць змены ў тэкст, у спосаб дэкламацыі, бо кожная такая змена нервуе і ўзбуджае дзіця.

Паступова пачынайце чытаць дзецям казкі з большым аб'ёмам інфармацыі, асабліва казкі-пацешкі, у якіх арганічна спалучаюцца казачны аповяд і прыгаворка вершаванай формы. Напрыклад, казку «Каток, пеўнік і лісіца» з прыгаворкай:

«Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па бару, па каменню,
Па ўсялякаму зеллю...»

З цягам часу захапленне дзяцей казкамі падштурхне іх да самастойнага чытання. Гэта трэба ўдала выкарыстаць. Для гэтага вывешваем на стэндзе літары (іх можна ўзяць з разборнай азбукі), пажадана зрабіць малюнкі і літары вялікіх памераў, каб яны былі відаць здалёк. Толькі адразу хачу папярэдзіць, каб спачатку называлася не літара, а гук, які ёй адпавядае, а таксама слова, што пачынаецца з гэтай літары. Напрыклад, вывешваецца літара «м»,— і мы гаворым: «мама», «малако» і г. д.

Паслядоўнасць вывучэння літар дадзена ў буквары. Пажадана яе і прытрымлівацца. Вельмі карыснае і ранняе знаёмства з літарамі. Пачынаць яго можна з 2—3 гадоў. У гэтым узросце дзеці здатныя запамінаць шмат разнастайнай інфармацыі.

Вельмі цікава апісвае свае ўражанні дзяцінства вядомы матэматык С. Кавалеўская: «Не хапала шпалераў, і дзіцячы пакой быў абклеены лістамі кнігі па матэматыцы. Будучы ўжо студэнткай, калі выкладчык чытаў лекцыі па вышэйшай матэматыцы, я яскрава прыгадала ўсё, што было напісана на скамечаных лістах, быццам наперад ведала выкладаемы матэрыял...»

Другі этап знаёмства і вывучэння азбукі пачынаем з 4—5 гадоў, калі дзіця ўжо спрабуе чытаць простыя словы, склады, якія можна ўтварыць з ужо вядомых яму літар. Усе гэтыя ўрокі праводзяцца ў форме гульні, каб дзіцяці было цікава. Як толькі цікавасць слабее, гульню трэба канчаць.

Паназірайце за сваім дзіцем і вы заўважыце, што ў яго ёсць любімыя казачныя героі або героі мультфільмаў, якім яно давярае свае «сакрэты», заўсёды гуляе з імі, расказвае вядомыя ўжо казкі, слухае парады герояў, выконвае любыя іх просьбы.

Як бачыце, казачныя героі дапамагаюць бацькам арганізаваць выхаваўчы працэс, яны становяцца як бы пасрэднікамі паміж дарослымі і дзецьмі. Можна, напрыклад, ад імя казачнага героя пісаць допісы, каб заахвоціць дзяцей чытаннем або якой-небудзь нескладанай працай.

У заключэнне хацеў бы даць і такую параду. Калі дзіця з захапленнем гуляе само, не турбуйце яго, паспрабуйце нават не сустракацца з ім позіркам, каб не парушыць фантастычны, казачны свет, створаны ім у гульні.

Давайце зачароўваць маленства казкамі!

**Іван МАРТЫНАЎ,**
**прарэктар Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. Куляшова.**



**«А дзе мой конік!..»**

# КОНІК З ЗАЛАЦІСТАЮ ГРЫВАЙ

**У СТВАРЭННІ ВОБРАЗАЎ НАРОДНАЙ ПЛАСТЫКІ ЎСТОЙЛІВА ВЫЗНАЧЫЛІСЯ МАТЭРЫЯЛЫ, З ЯКІХ БЕЛАРУСКІЯ МАЙСТРЫ ЛЕПЯЦЬ АБО ВЫРАЗАЮЦЬ СВАЕ ТВОРЫ. ГЭТА — ГЛІНА, ДРЭВА, КАМЕНЬ, КОСЦЬ, ЯКІЯ БОЛЬШ-МЕНШ ЛЁГКА ПАДДАЮЦЦА ПЛАСТЫЧНАЙ ТРАНСФАРМАЦЫІ. ПРЫ ДАПАМОЗЕ РАЗЦА, ДОЛАТА, СТАМЕСКІ ГЭТЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ Ў РУКАХ МАЙСТРА НАБЫВАЮЦЬ ЛЮБУЮ ФОРМУ, ЯКУЮ ЁН ПРАДЫКТУЕ ІМ. АЛЕ ЁСЦЬ МАТЭРЫЯЛ, ЯКІ ШМАТ У ЧЫМ САМ ДЫКТУЕ МАЙСТРУ ФОРМУ. ГЭТА ПРОСТАЯ, ЗВЫЧАЙНАЯ САЛОМКА, ПАСЛУХМЯНАЯ ТОЛЬКІ ЧУЛЫМ ЧАЛАВЕЧЫМ РУКАМ, ШТО СТВАРАЮЦЬ З ЯЕ УНІКАЛЬНЫЯ ТВОРЫ НАРОДНАГА МАСТАЦТВА.**

У Беларусі гэты від народнага мастацтва бытуе з даўніх часоў. З саломы і лазы плялі разнастайныя бытавыя рэчы — сявенькі для сяўбы, карабы для захавання круп і зерня, якія вызначаліся арганічным спалучэннем утылітарных і мастацкіх рыс. Разнастайная форма і памеры гэтых вырабаў у спалучэнні з каларытнай фактурай і колерам вартыя захаплення. На Беларусі з саломкі выраблялі традыцыйныя мужчынскія галаўныя ўборы — брылі, жаночыя ўпрыгожанні, насценныя пано, а таксама «павукі», птушкі, гірлянды і зоркі, якія падвешвалі да столі. Вяршыняй мастацкай творчасці майстроў мінулага з'яўляюцца плеценыя з саломы царскія вароты з Гродна (якія захоўваюцца ў Дзяржаўным мастацкім музеі). Арнаментальныя матывы, як і ўсе вароты ў цэлым, выкананы з надзвычай добрым веданнем матэрыялу і яго дэкаратыўных магчымасцей.

І сёння многія народныя майстры працягваюць гэтае традыцыйнае мастацтва. Сярод іх — сям'я Уласенкаў: маці, Лянгіна Альбертаўна, і яе тры дачкі — Людміла, Галіна, Анжэла, якія ўсе працуюць пры Мастацкім фондзе. У іх творчым актыве разнастайныя бытавыя вырабы і фігуры з саломы. Многія з гэтых работ экспанаваліся на рэспубліканскіх і міжнародных выстаўках — у Германіі, Нідэрландах, ЗША. І ўсюды прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў сваёй прыгажосцю.

А ўсё пачалося даўно. Маладосць Лянгіны Альбертаўны прайшла на Навагрудчыне. Таму яна добра ведае ўклад вясковага жыцця, звычаі, абрады. Там жа яна ўпершыню захапілася пляценнем з саломы. Вельмі вабілі яе вока залатыя сцяблінкі, да якіх яна быццам прырасла душой, а рукі цягнуліся да працы, балазе і матэрыял быў заўсёды пад рукамі. Захапленне перарасло ў трывалую адданасць, больш таго, Лянгіна Альбертаўна заахвоціла гэтай справай і трох сваіх дачок. Добрыя майстрыхі атрымаліся з дзяўчат, але сярод іх сваёй працавітасцю і здольнасцю вылучаецца Людміла, якая ў сямейным квартэце іграе зараз «першую скрыпку». А па спецыяльнасці яна кандытар і пэўны час працавала ў адным з мінскіх кафэ. Тарты, якія выраблялa Людміла, карысталіся вялікім попытам, бо надзіва мудрагелістымі ўзорамі былі яны ўпрыгожаны.

Але ж марылася аб іншым. У думках нараджаліся адмысловыя кампазіцыі з простай саломкі. У Людмілы няма майстэрні, а ў маленькай хатачцы, дзе яна жыве разам з маткай у пасёлку на станцыі Волкавічы, усяго адзін невялікі пакойчык. Тым не менш нават у такіх складаных бытавых умовах, у якіх жыве і працуе Людміла, яна робіць цудоўныя рэчы. Гэта брылі, абручыкі для валасоў, скарбонкі, але яе ўвагу больш прыцягваюць дэкаратыўныя вырабы — менавіта тут праяўляюцца яе багатая фантазія і адточанае майстэрства. І ў кожным творы Людмілы — працяг традыцый саломапляцення і пошукі







новых тэхнічных прыёмаў, новых сродкаў дэкаратыўнай выразнасці. Так, вельмі часта яна пляце з саломы «павукоў» — традыцыйнае ўпрыгожанне сялянскай хаты, якое ўяўляе сабой лёгкую ажурную канструкцыю ромбападобнай формы. «Павукі» падвешваліся да столі і ад патоку паветра прыходзілі ў рух. Круцячыся і пераліваючыся залацістым колерам саломкі, яны стваралі ў вясковым інтэр'еры асаблівы настрой святочнасці. Майстрыха выкарыстала тут традыцыйныя прыёмы злучэння прамых саломін, але ўпрыгожыла ўсю канструкцыю махровымі кветкамі, што надалі ёй асаблівую дэкаратыўнасць і эфектнасць. А робіць гэтыя кветкі яна вельмі проста — звязаныя мокрыя саломінкі расчэсвае іголкай і прагладжвае прасам. І ўсё ж галоўную ўвагу Людміла надае анімалістыцы. Фігуркі конікаў і птушак, зробленыя ёю, зіхацяць залацістымі пералівамі саломкі, прыгажосць якой яна імкнецца выявіць самымі разнастайнымі спосабамі пляцення. Птушыныя хвасты і конскія грывы яна робіць праматарчачымі, веерападобнымі, што добра дапасуецца да прыроды матэрыялу і ўзмацняе яго дэкаратыўны эфект. Выкарыстоўваючы экспрэсіўна-выразныя магчымасці матэрыялу, яна часам робіць хвасты і грывы коней пышнымі, хвалепадобнымі. І цікава, што гэты дэкаратыўны прыём дасягаецца даволі простымі сродкамі — мокрая салома заплятаецца ў косы, потым расплятаецца,— і пругкія хвалі сцяблін становяцца конскімі хвастамі і грывамі. Самі ж крупы коней яна робіць у выглядзе «зубчаткі», цуглі нагадваюць пацеркі, выканаными пляцёнкай. Прамая і сплеценая саломка стварае пэўны пластычны кантраст, а ў канчатковым выніку — пластычную разнастайнасць і выразнасць.



Каб саломка загаварыла мовай мастацкіх вобразаў, зайграла ўсімі адценнямі залацістага колеру, патрэбен доўгі працэс апрацоўкі. Яе жнуць сярпом, каб не паламаць, сартуюць па таўшчыні, затым запарваюць, бо распараныя сцябліны вельмі падатлівыя пры згінанні, захоўваюць натуральную афарбоўку ад светлага да цёмназалацістага колеру з бурштынавым пералівам. Усімі гэтымі прыёмамі ў дасканаласці валодае Людміла Уласенка, якая адкрывае ў саломе новыя пластычныя магчымасці і як эфектны дэкаратыўны матэрыял шырока выкарыстоўвае для стварэння разнастайных сувенірных вырабаў.

Ала **ЛЯВОНАВА.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

**На здымках:**

- У прыгажосці — натхненне...
- Сонечныя ўсмешкі.
- Сюжэты дорыць прырода.
- Лянгіна Альбертаўна з дачкой Людмілай.
- Партрэт на фоне казкі.
- Букет ад майстра.
- Паветраная саломка.





# ПАГОНЯ

НАВЕЛА



...Раса была чырвонай не ад сонца, ад крыві. Як бурштынавыя пацеркі зіхацела. Глядзіш, і адарвацца немагчыма: нейкая жудасная магія. Як магнітам прыцягвае вочы, да сябе вяжа.

А ў душы пуста, холадна, тупа; як у штосьвадкае яе акунулі, цягучае.

А празрысты ранак усё вышэй і вышэй. І ўсё ярчэй пад ім бурштынавыя пацеркі...

О, каб іх сабраць, каб яны зноў сталі Словам, Каханнем, Музыкай, Радасцю! О, каб іх вярнуць!..

Крык, як меч жывую істоту, рассек пругкую цішыню. Паваліўшыся і заграбаючы рукамі гэты «бурштын», аб зямлю біўся Кашпар: роў, як паранены зубр. І яго рукі, яго твар, і ўся світка чырвонымі зрабіліся.

Астатнія воі маўчалі: пакамянелі нібыта.

А Кашпар біўся, быццам за ўсіх выплакацца хацеў. І ніхто яго не трымаў, ніхто не супакойваў. І калі абяссілены змоўк, перад воямі стаў Ён, у руках трымаючы абпалены кавалак некалі белага плашча, на якім яшчэ добра можна было разгледзець чырвоны крыж.

— Вось,— выцягнуўшы перад сабой знаходку, каб бачылі яе ўсе, сказаў Ён,— вось хто парушыў наш дом. Тэўтонцы! Яны спалілі нашы хаты, а разам з хатамі ўсіх забітых: нават зямельцы няма каго аддаць. Гэты кавалак я знайшоў на папялішчы. Відаць, і сваіх забітых палілі: ці то спяшаліся сляды свае схаваць, ці то так у іх заведзена... Толькі гора нам не за іх мярзотнае сумленне, а гора, што нашых мацярок, нашых старых бацькоў, нашых каханых, нашых сясцёр і малодшых братоў — у няволю пагналі, як жывёле накінуўшы на шыю ярмо. Мы ўдала палявалі ў далёкіх лясах: мноства рознай дзічыны прывезлі. А парадавацца за нас няма каму. Хіба што смерці: багаты, відаць, быў яе здабытак... Але хай яна не спяшаецца пляскаць у ладкі. Бо мы — жывыя! Мы — моцныя! І мы помнім... і любім... І няхай нас назавуць нелюдзямі, хай пакарае нас неба, калі мы дазволім паганіць нашу святыню, зямлю нашу. Па конях, воі. З намі праўда і наша памяць!

Два дзесяткі коней адначасова захрыпела, капытамі ўдарыла аб зямлю.

Гэтым разам разведку наперад не высылалі: не было калі. Таму ўсе адразу былі і разведкай, і сілай асноўнай. Іншы раз на нядоўга спыняліся, давалі адпачыць коням, і наперад зноў. Несліся моўчкі, даганяючы сонца, што ўсё ніжэй і ніжэй апускалася да зямлі. Цяпер твары вершнікаў былі спакойныя, як у людзей, што спасціглі ісціну, шлях да якой ляжаў перад імі. І ён не палохаў іх — гэты шлях: ён быў неабходнасцю. Бо ў ёй, у гэтай неабходнасці, была іх годнасць, іх чалавечае права на гонар і сумленне. Не-не, аб тым яны не думалі, не разважалі. Гэта было ў іх, проста было, і ўсё! Як і тое, калі на тваю зямлю прыйшла бяда — ратуй зямлю сваю. І ратавалі. І не маглі парушыць сэнсу святой ісціны, што аднойчы і назаўжды спасціглі для сябе.

Калі першыя прыцемкі павалакліся па зямлі, пагоня дапала да месца, дзе, мяркуючы па ўсім, рабаўнікі спыняліся на ноч: знайшлі некалькі вогнішчаў, каля іх рэшткі ежы і яшчэ іншыя таго адзнакі...

Тэўтоны, пэўна, не баяліся пагоні. Відаць, былі ўпэўнены, што адарваліся далёка і дагнаць іх немагчыма. Значыць, можна крыху паслабіцца, можна адпачыць пасля такога ўдалага нападу. Бо, сапраўды, нячаста выпадае такая ўдача: больш за тры дзесяткі палонных — жанчыны, дзеці, яшчэ не зусім старыя мужчыны: рабы! Да таго — жывёла, іншая хатняя маёмасць.

Колькі часу на адпачынак коням, і пагоня зноў роўным грукатам капытоў вымярала шлях. За сабой пакідалі лясы, зрэдку палі, лугі. Але на іх воі не зважалі. Іх зацятыя твары прагна ўглядаліся наперад. А там была ноч: мяккая, вільготная, з мноствам пахаў і гукаў — таемных, загадкавых. Яна шчыльна прыпала да зямлі, густым чорным сутоннем заслала наваколле. Пагоня не спынялася: без літасці гналі коней у поўнай цемры. Вершнікі цалкам давяраліся коням. І, пэўна, адчуваючы гэта, коні неслі іх неяк па-іншаму, зусім не так, як рабілі тое днём, але такім жа галопам. Відаць, чалавечы боль, што спасціг людзей, перадаваўся і ім, і коні ўсёй сваёй вернасцю, якой надзяліла іх прырода, стараліся дапамагчы гэтай людской бядзе.

Нізка прылягаючы да грывы, каб часам галінай не сцёбнула па твары, Ён моўчкі вёў за сабой вояў. Душа як сцялася ўся. Балела сэрца. І думкі адна за адной: як магло здарыцца, што тэўтоны напалі менавіта тады, калі яны адправіліся ў далёкія лясы на паляванне? Выпадковасць? Магчыма. Ды толькі ўжо надта дакладная выпадковасць: як падказаў хто... «Не-не, такога быць не можа. Усе ж свае. Разам сяліліся, абжываліся, абарону трымалі... На адной мове да Бога звярталіся. Не —

выпадковасць. Але лягчэй ад гэтага не было. Бо там, з ярмом на шыі, сярод палонных ішлі яго родныя: маці, бацька — калі не загінуў абараняючыся і не спалілі ў вогнішчы, ішоў малодшы брат, якому толькі адзінаццаць сонцаваротаў. І цяпер Ён так спадзяваўся (добра што ноч і ніхто не бачыць яго слёз), што яны жывыя. За сваёй спінай Ён адчуваў яшчэ два дзесяткі такіх надзей. Усе яны зліваліся ў адну, сэнс якой — дагнаць, як мага хутчэй дагнаць! І гэта адна, магутная, з кожнай гадзінай разгаралася, патрабуючы аднаго: наперад, хутчэй і хутчэй, і тым самым пагражала непапраўнай бядой...

І ўжо каб спыніць вояў і даць перадыхнуць коням, каб не палеглі тыя ад гэтай несупыннай пагоні (бо тады — усё, рабамі сканаюць іх родныя!), Ён гучна, як забыўшыся на тое, што можна загадаць, болей сабе самому, чым астатнім, не стрымліваючы свайго каня, пачаў гаварыць, адсякаючы кожную фразу:

— Воі, успомніце сваіх родных. Рабамі хочуць зрабіць іх тэўтоны. Не дайце, каб так сталася. Спыніце коней.

У апошні момант гэтага звароту, як нешта ў сабе перааддолеўшы, Ён рэзка развярнуў каня тварам да пагоні, паставіў дыбка.

Пагоня распалася. Яшчэ па інерцыі абмінаючы Яго то з левага, то з правага боку, закружылася на месцы, спынілася зусім. Мокрыя, нібыта толькі з вады, коні цяжка дыхалі, храпамі цягнуліся да зямлі, каб дзе папіць. Але вады не было і вої не спяшаліся даваць яе коням. Няможна: гарачыя вельмі. Хай астынуць, хай адыхаюцца.

Воі неахвотна злазілі на зямлю, адпускалі на сёдлах папругі, разміналі здранцвелыя ногі, паволі астывалі ад пагоні. Цяпер, калі б на іх глянуў чалавек незнаёмы,— чужыя людзі, падумаў бы, то выпадкова з'ехаліся на лугавіне. Кожны сам асобі: свае думкі, свой клопат. Хіба толькі адно агульнае было ва ўсіх: і думкі і клопат былі трывожныя. На твары кожнага воя была гэта трывога.

Прысеўшы на кукішкі перад канём, што скуб мяккую вільготную ад расы траву, сядзеў Кашпар і, не адрываючы вачэй, як маліўся на яго.

Самы малады з пагоні Пятрок. Яму ледзь споўнілася васемнаццаць сонцаваротаў, і валасы ў яго — што тая «вішня ў майскую квецень», вочы, як «боская ўсмешка», так ласкава шаптала яму яго Надзейка. Цяпер ён як скамянеў, спінай прыхінуўшыся да бярозкі, што адзінока шумела на гэтай лугавіне.

Штосьці ліхаманкава шапталі Якубавы вусны — невысокага, але ладнага, як малады дубок, воя, калі яго конь пераставаў скубці траву і Якуб прыпадаў да яго вуха.

Крыху далей ад Якуба на каленях стаяў Людамір, даланёй заграбаючы па траве, збіраў з яе расу і, асцярожна, як тое немаўля, паіў вераб'я, якога ён некалі падабраў з паламаным крылцам, выхадзіў, і з таго часу той заўсёды быў з ім ва ўсіх паходах, знаходзячы сабе месца за цёплай пазухай у Людаміра.

Далей, як Ён ні прыглядаўся, пазнаць ужо не мог, хто ёсць хто, хаця месяц, прабіўшы сутонне хмы, цалаваў зямлю сваім халодным святлом. За многія гады ў гэтую хвіліну Ён упершыню зразумеў, што значаць для яго гэтыя людзі... І хоць ведаў іх даўно,— і ў адчайных смяротных рубонах, і на сяброўскіх пагулянках,— цяпер адчуваў, што сталі яны яму яшчэ бліжэй. І не толькі таму, што бяда яднае людзей, а таму, што яны — адзіная і апошняя надзея тых, за кім цяпер імкнуцца...

Воі, хто стаяў, хто сядзеў, пад гэтым месячным святлом былі падобныя да маўклівых зданяў. Толькі коні, часам ускідваючы галовы, фыркалі, звінелі збруяй, як бы даючы знаць, што яны — коні, а побач з імі зусім ніякія не здані — а людзі, а ўсе разам яны — пагоня.

Адпачывалі гадзіны чатыры. Напаілі коней, далі ім папасвіцца. Самі воі толькі папілі вады. І дарога зноў у шэрае ранне, што ужо зачыналася ў небе, па сваю Праўду, па Імя сваё. Ранішні халадок бадзёрыў, лёгка дыхалася, і ў целе кожнага воя білася сіла, патрабуючы свайго выхаду...

І выхад набліжаўся. Тое бачылі па слядах, што пакідалі пасля сябе тэўтоны. З кожнай гадзінай яны рабіліся ўсё болей яснымі, болей дакладнымі. І калі коні данеслі да апошняй стаянкі, дзе мечаносцы зноў спыняліся на ноч, то па вогнішчах, што яшчэ курэліся, па іншых прыкметах было зразумела: яшчэ адно намаганне — і тэўтонцам нікуды не дзецца... А яшчэ ўбачаць іх — родных, дарагіх, каханых. Але думаць пра тое цяпер чамусьці страшна было. А раптам... «Ой, Божухна, ой, родненькі, я ж цябе не гнявіў, служкам тваім быў, дні святыя помніў, у астатнія ад усходу да захаду рук не пакладаў — і ўсё з тваім імем; не дай убачыць страшнага... не карай сына свайго, век табе аддany буду».

Тэўтонскія спіны адкрыліся нечакана. І хоць прагнулі іх — усё ж нечакана; коні вынеслі на пагорак, і з яго, як толькі зглядзець воку, у нізіне, крыху выцягнутыя, па форме нагадваў яйка, убачылі натоўп людзей. Вось! Нарэшце!

І аж падскочылі коні ад дружнага «но!», галопам узялі з месца. І ўжо было не стрымаць іх: ні загадам, ні голасам, ні сілай, ні яшчэ чым іншым. Час пакуты, страху, надзеі, што ўвесь час неслі ў сабе воі, адлічваў апошнія імгненні. Цяпер кожны з вояў быў сам па сабе. Падпарадкаваны агульнай мэце, але кожны — сам па сабе. Бо асабісты боль — толькі твой боль, і нічый іншы. І нават тады, калі ім ахоплена мноства людзей, ён заўсёды асабісты, заўсёды толькі твой. У гэтым права на помсту за тое, што спалілі твой дом, абразілі родных, разрабавалі магілы продкаў, апаганілі святыні... І гэта заўсёды толькі тваё, толькі асабістае.

Ён адчуў, якім лёгкім зрабілася яго цела. Здавалася, пажадай Ён таго — над канём узляціць. І ў гэтай лёгкасці было не бяссілле, а наадварот: сіла, якая заўсёды ўзнікае ў чалавеку, калі мяжа страху за сябе, за жыццё асабістае, страчвае сваю рысу... І толькі адно, як і на ўсіх астатніх, пякельнае жаданне білася ў ім: хутчэй, хутчэй, хутчэй!!! І воі ўвесь час падганялі коней, патрабуючы ад іх немагчымага.

Тэўтоны пралічыліся, мяркуючы, што пагоня іх не дастане. Пралічыліся жорстка. Адплата ішла па слядах зусім гарачых. Ён і ўсе астатнія воі цяпер ужо добра бачылі, што мечаносцаў значна менш, чым іх, і аж прыўставалі на страмёнах, каб хутчэй дапасці да помсты. Хвіліны аддзялялі гэты момант.

У нейкае імгненне Ён убачыў, як тэўтоны спынілі палонных, і праз колькі часу адтуль насустрач воям паімчаў адзінокі коннік. Нешта дзіўнае было ў гэтым конніку: да тэўтона ён быў зусім не падобны; лахманы матляліся на ім, а не вопратка мечаносца. Ды і чаму адзін?! Не збіраецца ж ён супрацьстаяць гэтулькім маладым моцным воям?

Няясная трывога ўвайшла ў Яго сэрца.

Пагоня і адзінокі коннік збліжаліся. Адно за другім змяняліся імгненні, адлічваючы метры... Яшчэ крыху, і ўсе пазналі бацьку Кашпара. Нарэшце коні спыніліся галава ў галаву.

З сядла сарваўся Кашпар, падскочыў да бацькі, што паволі злазіў з каня, схапіў яго, прытуліў да грудзей. Потым адарваў ад сябе — як апомніўся! — і, гледзячы ў вочы, зашаптаў:

— Мама, Куліна мая з Юркам жывыя?

Зморанымі, глыбока праваленымі вачамі стары паглядзеў на сына, мякка выслабаніўся з яго рук.

— Пачакай, сынку, ты тут не адзін...— пацёр запясце рук, на якіх добра былі бачны сляды ад вяроўкі, і, гледзячы на вояў, ціха адказаў на нямое пытанне, што стаяла ў вачах кожнага з іх.

— Я не збег. Мяне паслалі тэўтоны вам сказаць: калі вы хочаце, каб жывымі засталіся вашы родныя, якія там,— стары махнуў рукой у бок, адкуль ён прыскакаў,— трэба аддаць усіх вашых коней...

— Якіх коней? Каму?! — няўцямна ўсклікнуў хтось з вояў.

— Вашых,— як малым тлумачыў стары.— Ім... тэўтонам...

Зрабілася чутно, як у кветках гудуць пчолы, пералятаючы з адной на другую.

Воі глядзелі на старога, ніяк не разумеючы таго, што пачулі. Звар'яцеў стары, ці што? Бязглуздзіцу нейкую вярзе!

— Тэўтоны разумеюць, што вас ім не адолець, іх меней удвая,— тлумачыў далей стары.— І каб вы не пайшлі за імі пагоняю і не перабілі іх — патрабуюць вашых коней... Са збруяй... Хто-небудзь са мной прыгнаць іх мусіць. Астатнія тут павінны застацца. Інакш, калі вы наблізіцеся бліжэй вунь як да тае бярозы, тэўтоны пачнуць усіх палонных сякчы...

Усе паглядзелі на бярозу, якую паказваў стары. Адлегласць, што ляжала паміж бярозай і мечаносцамі, яскрава сведчыла аб адным: пасякуць. Не паспець ім даімчацца. Толькі смерць будзе ўзнагародай. Пакуль першы меч помсты дастане тэўтонскую галаву — усе палонныя крывёй захлынуцца.

— Як толькі мы пачнём гнаць коней, тэўтоны пачнуць адыходзіць ад палонных вунь да таго лесу, тым самым даючы знаць, што нікога з людзей не зачэпяць,— ціха дагаварыў стары.

«Ку-ку, ку-ку»,— у далёкім бары азвалася зязюля. «Ку-ку, ку-ку»,— падавала яна свой голас. Але ніхто не слухаў яе, ніхто не загадваў жаданні, не лічыў гады, колькі жыць-векаваць...

**Анатоль ЖУК**



Божа літасцівы! Аддаць коней?! Гэта ж, што сілу сваю аддаць, рукі свае, свой хлеб... Гэта ж кожны вораг — а колькі іх розных! — які мае столькі ж вояў, колькі і ты, указам над табой стане, і не смей ні ў чым яму пярэчыць. Да таго ж усё спалена.

А можа, усё-такі паспрабаваць дастаць тэўтонаў? Раптам пужаюць толькі, не пасмеюць таго зрабіць? Няўжо ж можна людзей безабаронных, у якіх нават рукі звязаны, як тую лазу секчы?!

Есць жа нейкая боская кара за тое, што плачуць галодныя дзеці, нямогла горбяцца спіны згвалтаваных, пасівелых без пары жанчын; што ад пажараў глухне зямля, дзічэюць палі і гароды, крывёю залітыя слепнуць азёры і рэкі?! Ёсць жа нейкая боская справядлівасць?!

Пачуцці раздзіралі яго душу, вымушаючы пакутліва шукаць тое адзінае, вечнае, што завецца надзеяй. Але адзін маленькі куточак тае ж душы, плямай сумнення, як вецер пясочны палац, рушыў гэту надзею, што часам на імгненне ўзнікала, не даваў ёй замацавацца ў свядомасці, тым самым падводзячы да адной простай ісціны: у карысці і нажыве людзі не ведаюць даравання, не ведаюць дабраты; нянавісць — іх спадарожнік. І асабліва, калі гэтых людзей раздзяляе **слова**, якім яны звяртаюцца адзін да аднаго і таксама да Бога, а яшчэ і сам **Бог**. Не-не, пасякуць. Не паспець даімчацца. А значыць сцэзне на зямлі **РОД**, і ўжо ніякай надзеі...

Ён бачыў, як зацята маўчалі воі, як некаторыя плакалі. Ад бяссілля плакалі, ад немагчымасці сплаціць доўг за абразу, за знявагу.

Невыносным цяжарам налілося Яго лёгкае цела, ціснучы да зямлі: аж ногі дрыжэлі. Цяжка хадзілі грудзі, быццам паветра ў іх не ішло. Здавалася, зямля правалiцца пад нагамі, і... усё: толькі вечная цемра. Не правалілася. Стаяў, як стаяў. Білі капытамі дол і грызлі цуглі коні. Пад гарачым сонцам знемагала зямля.

Кашпараў бацька стаяў убаку, апусціўшы вочы долу: як чужы нібыта, як вінаваты ў чымсь...

— Адкуль мечаносцы дазналіся, што мы на паляванні? Выпадковасць?

— Стахор падказаў. Ён ужо даўно быў з імі ў змове, аказваецца...

«Дык вось чаму Стахор раптам занядужаў, не паехаў на паляванне. Вось якое семя гадавалася між намі. Але чаму? Адкуль? Як жа так? Усе ж разам жылі, адзін хлеб дзялілі, адзін марай будучыню бачылі. І чалавек ён, здаецца, быў неблагі: умеў і слухаць, і спачуваць, і словам добрым парадзіць. І раптам... Не-не, значыць, не быў... не умеў, значыць... Так толькі здавалася... Душа яго іншая... трыццаць сярэбранікаў кошт ёй... Няўжо добраахвотныя абаронцы святыні і ёе добраахвотныя каты заўсёды ідуць побач?!»

Воі злазілі з коней, падганялі іх крыху наперад ад сябе, адыходзілі ўбок, адварочваліся...

Ён і стары — бацька Кашпараў збілі коней у табун, няспешна пагналі перад сабой.

І амаль адразу ж з натоўпу выдзеліліся тэўтоны, пачалі адыходзіць да лесу, куды паказваў Кашпараў бацька. Усё нарабаванае забралі з сабой. Толькі людзі засталіся на месцы.

Ужо каля лесу, куды адыходзілі тэўтоны, табун перахапілі некалькі іх вершнікаў; і Ён, разам са старым, рэзка павярнулі ўбок і адразу ўзялі галопам да пакінутых людзей.

А з другога боку з усіх ног да іх імкнуліся воі. Нарэшце абнялі адзін аднаго. Слёз не саромеўся ніхто.

Горка маўчалі, калі ўспомнілі загінуўшых...

Потым агледзелі ўвесь здабытак, што мелі на сённяшні дзень: двое коней ды некалькі скруткаў вяроўкі.

А яшчэ — зброя.

А яшчэ — яны самі.

— Нічога, гэта ўсё нічога... Галоўнае, што ёсць мы... Мы — ёсць!

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.





# У ЛЮБОНІЧАХ ЛЮБА ДУШЫ

Вёска Любонічы Кіраўскага раёна, што на Магілёўшчыне, як мне здаецца, адна з самых прыгожых на нашай Бацькаўшчыне. Яе людзі, нягледзячы на наступ тэхнічнага прагрэсу, на складанасць сучаснага жыцця, захоўваюць свае звычаі, песні, мову, рамёствы і шчырую добразычлівасць да бліжняга. Гэтую вядомую беларускую добразычлівасць мы з сябрам адчулі, калі, прагнучы пажыць у вясковым асяроддзі, у некранутым тэхнічным монстрам кутку сярод лясоў і жытнёвых палёў, завіталі цёплым жнівеньскім днём у гэтую вёску.

Гаспадары аднаго з двароў ветліва запрасілі да сябе. Гэта Іван Адамавіч Салановіч і яго жонка Марыя Іванаўна. Скажу шчыра: мы, прызвычаеныя да гарадскіх умоў, калі незнаёмы нават са сваімі суседзямі ў шматпавярхоўцы, былі прыемна здзіўлены ветлівасцю, шчырасцю, з якой нас, невядомых людзей, сустрэлі гаспадары. Уразіла ўсё: і смачная свойская ежа, і шчырая размова, і жаданне зрабіць так, каб гасцям было добра! Гаспадар — вясёлы, паважанага веку чалавек — кіруе ў Любонічах фальклорным гуртком. Любіць песні і жонка — спадарыня Марыя.

Іван ды Мар'я — называюць іх аднавяскоўцы! Не часта знойдзеш мужа ды жонку, каб з такой павагай ставіліся адно да аднаго. Злучае іх любоў да роднай спадчыны: разам спяваюць у гуртку, запісваюць старадаўнія песні, збіраюць па вёсках самаробныя рэчы, каб захаваць іх для нашчадкаў. Любіць гаспадар у вольны час узяць у рукі гармонік (шаноўная рэч у доме) ды разам з жонкай павесяліць душу меладычнай беларускай песняй. І ўсё гэта нягледзячы на вялікую гаспадарку ў доме, без якой не ўяўляюць сабе жыцця. А калі душа добрая, то і рукі добрыя, працавітыя: аб гэтым сведчаць дываны, зробленыя Марыяй Іванаўнай, посцілкі, ручнікі, сурвэткі... Гультайскія рукі не будуць так ёмка выбіваць з клавішаў мелодый, як рукі дзядзькі Івана.

Нягледзячы на сваю занятасць, гаспадары паказалі нам усю вёску, яе ваколіцы. Вёска вялікая, людзі жывуць заможна. Ёсць добрая школа, нямала моладзі. У час ліхалеццяў разбурылі прыгожую царкву, але людзі набылі сабе вялікі драўляны дом, дзе аддаюць пашану Богу. Упрыгожылі абразамі, паводле старых звычаяў, кожны з абразоў мае свой саматканы вышываны ручнік (набожнік). Аж светла ў вачах і ў душы ад шматлікіх белых з чырвоным палотнаў!

Прыгожую легенду расказаў нам Іван Адамавіч пра паходжанне назвы вёскі. Быў раней такі звычай: калі дзяўчына зацяжарвала ў дзеўках, яна павінна была прыняць смерць ад сваіх братоў, бо толькі такая кара здымала ганьбу з усяго роду. Гэта чакала і маладую дзяўчыну, імя якой было Люба. Пачуўшы дзіця пад сэрцам, яна пакінула сваіх родных і пайшла ў лес. Ішла па сцежцы, якую цяпер называюць Любінай. На ёй і нарадзіла сына. Багата было ў лесе жывёлы, пчол, ягад. Шчодрая прырода ўратавала Любу з дзіцем. А лес з тае пары людзі называюць Любін Бор, а вёску, што побач,— Любонічы. Цяпер гэта вялікая вёска, у якой засталіся, дзякуючы энтузіязму мясцовых жыхароў, старыя песні, скокі, легенды, ручнікі і нават ткацкія станкі.

Аднойчы старшыня сельсавета прапанавала Івану Салановічу сабраць жанчын, якія ведаюць старыя песні. Так і ўтварыўся фальклорны гурток «Былінка». Былі на конкурсах у Клічаве, Бабруйску, Магілёве. Займалі першыя месцы. Зачароўвалі ўсіх натуральнай арганічнасцю вопраткі (а гэта лапці і льняное саматканае, з вышыванымі ўзорамі адзенне) і музычнымі інструментамі з хатніх прылад. Старыя людзі аж плакалі, так іх кранала гэтая прыгажосць, абуджаючы ўспаміны пра былую маладосць. Зараз гуртку пяты год. Яго ўдзельнікі — у большасці сталыя жанчыны. І ад маладых залежыць, ці будуць жыць песні, танцы, рамяство, святочныя звычаі, абрады, беларуская культура. Як вядома,





сёння — гэта нацыянальная праблема.

Старэнькая бабуля, Салановіч Аксіння Рыгораўна, вельмі гасцінна сустрэла нас у сваёй старой хаце, але ніяк не згаджалася, каб яе фатаграфавалі. Гэткая сціпласць, дарэчы, характэрна для нашых простых вясковых людзей. (Даражэнькая бабуля! Як вам растлумачыць, што нашчадкі павінны бачыць, ведаць і памятаць вас — тых, хто столькі перажыў за апошні час, але здолеў не забыць, а данесці да нас песні сваіх бабулек, майстэрства вышывання цудоўных кветак па саматканых ручніках ды вырабу дываноў, што на сценах вашых хат, месца якім у музеі.) Баба Аксіння паказала шмат саматканых вырабаў, ад якіх у гарадскога жыхара захоплівае дух і разбягаюцца вочы.

А Уладзімір Дрэнь прыбавіў нас не толькі тым, што дагэтуль захаваў майстэрства плесці лапці, але і сваёй прыгожай хатай, палісаднікам з вялікай колькасцю кветак пад акном ды сцежкай, выкладзенай каменнымі плітамі, скошанай травой, пасярод якой красуецца доўгі сланечнік. Двор чыста прыбраны, калодзеж абкладзены паўкругам каменем, нідзе ані трэсачкі, ані пылiначкі. А інтэр'еру хаты пазайздросціць любы гараджанін, калі ўбачыць цудоўныя саматканыя дываны ды посцілкі. Гэтыя дываны, парадак і ўтульнасць — справа рук гаспадыні, яго жонкі.

Шмат у каго яшчэ мы былі ў гэтай вёсцы. І ўсюды нас дужа гасцінна прымалі, шмат чаго паказалі. Саматканыя рэчы захоўваюцца здавён у кожнай хаце. Многа бандарных вырабаў, з лыка, з бяросты, з дрэва.

Апошні дзень быў для нас з сябрам нечаканасцю! Перад намі з'явіліся апранутыя ў саматканыя кужэльныя сукенкі, ваўняныя андаракі, квяцістыя хвартухі нашы ўчарашнія знаёмыя бабулі. Яны крыху няёмка адчувалі сябе перад нашымі фотаапаратамі, але трохі прызвычаіліся і зайгралі родныя сэрцу «Лявоніху» ды «Купалінку». Гармоніку ў руках кіраўніка дапамагалі трашчоткі, лыжкі, бёрда, маслабойка, грэбень. Уся гэтая дзея — ды на сялянскім двары, ды з вывешанымі на плот посцілкамі, ручнікамі, ды з гарлачамі і калодзежам. У дадатак, быццам бы ў падтрымку гэтай гармоніі, нізка над дваром праляцеў, шырока раскінуўшы крылы, гаспадар вясковых двароў — прыгажун бусел!

На развітанне мы атрымалі ад ласкавай гаспадыні гэтага двара, Варвары Адамаўны, вялікую вязанку цыбулі. Дзякуй вам, дарагія Любонічы, за вашую прыгажосць, шчырасць і гасціннасць!

Вось бы толькі зберагчы вас і нашу Спадчыну!

**Алег БЕЛАГАЛОВАЎ.**

Здымкі
Генадзя КАРЧЭЎСКАГА









# «НЯХАЙ ВЕ
# БУДУЦЬ

У 70-я гады, калі ездзілі мы з Уладзімірам Караткевічам у Зэльву да апальнай паэткі, чуў я роспаведзь Ларысы Антонаўны і пра Васіля Захарку, і пра архіў БНР, і пра пячатку, якую перадаў ёй прэзідэнт, а яна яе пацалавала. Распавядала (толькі не ў хаце, бо там на самай справе сцены вушы мелі), як ад'язджала з Мінска, як паляваў за ёй і сябрамі ейнымі кэдэбіст. Але ўсё казалася паўшэптам, падтэкстам, з азіраннем. Не ўсё тады ўспрымалася. Цяпер, калі прачытаў Споведзь, якую пісала з поўнай магчымасцю зноў наведаць не гэтакія і далёкія мясціны, зразумеў, што чуў частку нашай гісторыі з першых вуснаў. Прыкра, што ўжо ў нашы дні выходзяць матэрыялы пра Ларысу Геніюш, дзе ёй навязваецца вітанне фюрэра, у адносінах да Васіля Захаркі прымяняецца марксісцка-ленінскі, каб не казаць іншы, метад зняважі: слова прэзідэнт бярэцца ў двукоссе. Гэтак жа можа здарыцца пры наборы, што слова даследчык набяруць як дасьетчык. А дасье амаль на ўсіх мае пэўная арганізацыя і публікацыі давярае толькі сваім людзям.

Не варта, скажам, укладаючы зборнік паэткі, уключаць у яго вершы, што пісаліся як пэўны імгненны водгук, і ў той жа час не ўключаць вершаў біблейскага характару. (Маю на ўвазе кнігу паэзіі «Белы сон», дзе яўна вырываецца, напрыклад, верш «Уладзіміру Каваленку» і інш.) Верш «...Цішыня, я крыху ў задуменні» мае ўнізе тлумачэнне: VIII з'езду пісьменнікаў Беларусі, 1981. Верш лірычны, не звыкла савецкі.

На гэтым з'ездзе апошні раз бачыў я Ларысу Геніюш. Праходзіла гэтае традыцыйна-алілуйнае мерапрыемства з абавязковым сядзеннем кіраўнікоў партыі і ўрада, прытым нехта з іх чытаў прывітанне, аддрукаванае на беларускай мове (хоць у ЦК не было ніводнай машынкі з беларускім шрыфтам), чытаў з такім вымаўленнем, нібыта ўпершыню даводзіцца мучыцца на гэтай непатрэбнай для партыі мове. І з усімі пратакольна-зацверджанымі атрыбутамі. Праходзіў з'езд у Палацы прафсаюзаў. Нясмела зайшла Ларыса Антонаўна ў залу, шукаючы недзе месца ў апошніх радах. Прапанаваў сесці. Яна адразу спыталася, ці не баюся, што яна можа папсаваць рэпутацыю, бо не дэлегатка з'езда, без савецкага грамадзянства. Мне было прыемна чуць ад яе не безаблічнае «таварыш», а беларускае — «сябра». Сказала, што паслала мой зборнік вершаў туды, да сваіх сяброў. Тады гэтае «туды» яшчэ аддавала халадком. У перапынку збегаў я да адказнага сакратара СП (у тыя часы гэтыя дзве літары азначалі Саюз пісьменнікаў, цяпер — сумеснае прадпрыемства), якога пазней назвалі кілбасным сакратаром, бо ў СП з'явіўся прадвеснік светлай будучыні — стол заказаў, дзе выдавалі ў адпаведнасці са становішчам харчы песнярам айчыны. Ен даў загад дзяўчаткам, якія вялі ўлік і ўсе фармальнасці мерапрыемства, выдаць паэтцы Ларысе Геніюш папку, дзе была ціснёна памятка пра важную вяху ў развіцці роднай літаратуры, а ў папцы ручка, блакноцік і справаздачна-накіроўчыя матэрыялы. Прынёс я гэты падарунак «ад дружнай сям'і літаратараў» і ўручыў Ларысе Антонаўне. Міхась Чарняўскі сфатаграфаваў нас з Ларысай Геніюш: Дануту Бічэль-Загнетаву і мяне.

Наогул, спадчына Ларысы Геніюш павінна быць выдадзена поўна і ашчадна. Да гэтае святой і неабходнай для нашых душ справы мусяць прычыніцца людзі без ідэалагічных шораў, без жадання пакрасавацца на балючай памяці пакутніцы. Бо атрымлівалася так, што і пры жыцці аўтара кнігі выходзілі як бы без аўтара. Установа, якая апякала паэтку ўсё жыццё, якая гняла яе фізічна і маральна, выдавала давераным і правераным літаратурным кіраўнікам творы непаслухмянай неграмадзянкі савецкай імперыі, а тыя даручалі паэтам, што стаялі на падхваце, рэдагаваць і ўкладаць зборнік. Сам быў сведкам такога рэдагавання «Невадам з Нёмана».

Але адыходжу, таго не заўважаючы, ад тэмы, ад тэмы паэзіі Ларысы Геніюш, ад таго ўражання, якое зрабіла на мяне споведзь паэткі.

> Долю бяру жаночай рукой,
> нібы каня пад вуздэчку.

Жаночая рука гэтая больш мужнасці мае, чымся якая мужчынская. Бо, падумалася, калі рэдкія ацалелыя нашы паэты вярнуліся з паўночных сталінскіх «дамоў творчасці», пакінуўшы ў саркафагах вечнае мерзлаты сваіх сяброў маладых, (разумею, пад прымусам страху і напаміну, што адрасы ранейшыя іх і назад могуць прыняць) пачалі славіць разам з вернымі памочнікамі партыі светлае будучае, усё, што названа імем Леніна — ад лямпачкі да праспекта, то ў вытанчанай душой, еўрапейскай духам паэткі хапіла мужнасці бясстрашна, не прыняўшы ні падданства савецкага рэжыму, ні ягонай звярынай ідэалогіі, пісаць пра ўсё, пра што забаранялася нават думаць, пісаць, каб будучыя дасьетчыкі не маглі беспакарана паклёпнічаць, ачарняць барацьбу лепшых людзей за самастойнасць, за незалежнасць дзяржавы, імя якой Беларусь, а чало яе асланяе Бел-Чырвона-Белы Сцяг, сцеражэ ад злых духаў Пагоня. А нашы ацалелыя мужчыны пра свае пакуты ў савецкіх лагерах смерці, свае споведзі пачалі пісаць, калі стала можна, калі перастала забараняцца. Таму і такі давер, таму такое пачуццё віны і сораму перад змагаркай.

Ларыса Геніюш паўтарыла лёс Тараса Шаўчэнкі, толькі ў савецкім варыянце. Ен некалі сказаў: «Украіна не мае сваіх пакутнікаў, дык я ім буду». Наша пакутніца паўтарыла: «Няхай вернасць мая і любоў мая будуць дастойныя мукаў Тваіх некалькіvяковых, мая Беларусь! Галінка з Твайго дрэва, пяшчынка з палёў Тваіх, нясу табе рэшткі жыцця маяго і маё сэрца... І так нічога ў мяне няма, нават лісінай норкі, а ў перспектыве сэрца, расьпятае на заінелых драгох поўначы за Беларусь... Няхай на маёй асобе спыняцца ўсе пакуты народа нашага».

Яшчэ вольная, яшчэ не гулагаўка, пісала паэтка ў 1943 годзе:

> Есць такое казачнае слова,
> вырванае з рэбраў: Беларусь.

Гэта, як з рабра Адама Бог стварыў Еву. Казачнае слова не вырвалі з сэрца савецкія паслугачы смерці, ломячы рэбры, спрабуючы зламаць бунтоўны дух паэткі.

Недарма адзін сябра казаў: «Што робіце, пані Ларыса, ды ўрэшце я вас ужо не шкадую, я шкадую бальшавікоў, што ім рабіць з вамі? Дзьве магчымасьці: альбо даць вам высокае становішча, альбо забіць адразу — бедныя бальшавікі!»

«Бедныя бальшавікі» не забілі адразу, смакуючы кары і здзекі, забівалі паволі, планамерна, каб балючай было, каб невыносней было.

> Лiпне лом, і кайло пасівела.
> Пад сякерай скрыпіць мерзлата.
> І згінаюцца чорныя цені.
> Цені кіркай выдзёўбваюць такт.
>
> Не акажуцца тыя, пад шпаламі,
> З-пад зямлі не ўстае чалавек.
> Толькі боль, які закапалі мы,
> Уваскрэсне, асудзіць наш век.

# РНАСЦЬ МАЯ І ЛЮБОЎ МАЯ ДАСТОЙНЫЯ МУКАЎ ТВАІХ НЕКАЛЬКІВЯКОВЫХ, МАЯ БЕЛАРУСЬ!..»

***Горкім, але справядлівым дакорам гучаць гэтыя словы святой пакутніцы зямлі беларускай, былога вязня сталінскіх катоўняў за нумарам 0-287, вялікай нацыянальнай паэткі Ларысы Геніюш, чыйму таленту і грамадзянскай мужнасці беларускі народ так і не аддаў належнае нават сёння, праз дзевяць гадоў пасля яе адыходу ад нас у іншы свет.***

Сістэма сталінска-кэдэбісцкага сацыялізму ва ўсім трымалася планаў, іх выканання і абавязкова рапартнага перавыканання. І ў нашых (увесь час савецкая прапагандысцкая малатарня па гебельсаўскаму ўзору толькі і трашчала пра іхнія, фашысцкія, лагеры) лагерах смерці закон памянёнага сацыялізму дзейнічаў страшней і люцей за Дантава «Пекла». Жахаюць радкі:

Прывяжам бірку мы табе з фанеры
на твой вялікі палец на назе,
каб там Пятро, ў рай адчыніўшы дзверы,
адразу бачыў, хто гэта брыдзе.

Гэта жанчынам, гэта паэтцы савецкі лад жыцця дазволіў «працаваць па-стаханаўску». «Здавалася нам, што ад тых цяжэрных кувалдаў, калі дзьвігаеш, варочаюцца кішкі ў жываце і абрываюцца селязёнкі... Бывала, кіркавалі па 14 гадзін у тундры безь ніякага вогнішча ў найлюцейшы мароз... Саграваемся слязьмі... альбо заганяюць нас у ваду і так мы часамі па шыі ў ледзяной вадзе папіхаем наперад нагрувашчаны лес, кіламэтрамі йдучы па вадзе...»

Грэла малітва да Бога. На анучцы ўкраінскія манашкі вышылі абразок і тры заклінальныя літары БББ (Божа, барані Беларусь). Пра ўкраінскіх манашак са Львова ўспамінае паэтка: «Некалі будзе музей змагання і болю гэтай зямлі, і чалавецтва пакланіцца бабусям пабожным і мужным і «каранаваным» дзяўчатам... Гэта чэкісты ставілі да сьценаў дзяўчат і абстрэльвалі ім кароны вакол галавы. Ад гэтага сівелі, дурэлі, а ў адной «каранаванай» Вольгі так і засталася дзірачка на чале».

Паэтка разам з дзяўчатамі, выпрасіўшы нітак у не самай звераватай надзоркі, не «з пароды партыйных выдраў», вышывала родным васільком торбачкі на хлеб хлопцам, што працавалі найбліжэй да апраметнай — у шахтах. І Багдановічаў васілёк быў хлебам духоўным. Лютую конніцу белых завеяў пераганяла Пагоня, перамагала. Нёман у снах прагаўняў смагу, даваў сілу. Белавежскі зубр быў узорам вольнасці і нескаронасці. Да вобраза гэтага валадара пушчанскай паганскасці неаднаразова вярталася паэтка.

Вабяць хлеба смачнейшаю лустай:
— Станавіцесь валамі, зубры!
Халуём застанецца халуйства,
Мы зямлі свае гаспадары!

Дух паганства, дух першароднай самавітасці Ларысы Геніюш сягаў у нябёсы і меў трывалае апірышча на крывіцкай зямлі.

Мы як дубы,
нас можна знішчыць громам,
але з зямлі нас роднай
не скрануць.

Улюбёнец сівога Перуна дуб увасабляе сабой адданасць роднай зямлі, моц вернасці і ахоўнай любові да бацькаўшчыны.

Зубр — сімвал Беларусі, яе вальналюбасці і сілы непаказнай, бо старадаўнасцю роду і цярплівасцю характару з беларусам сыходзіцца. Паэтку вобраз зубра яшчэ вабіць і тым галоўным, што сам за сябе можа пастаяць, што ён, як бы мовіць, асоба.

За калючым дротам сама сабе гаворыць паэтка: «Я ўмею шапкі шыць і рукавіцы... А як там мой муж, мой сын, і ім пэўна холадна... А ўся мая сям'я. Ад'язджаючы я пакінула ўдома бацькоў абоіх, трох братоў, трох сястрычак. Гэта было ў канцы 37 года, я ехала ў Прагу да мужа. Яны ня плакалі, а мне плач разьдзіраў грудзі. Яны не паэты, гэта паэты ўсё чуюць наперад. Цяпер мой тата, мажны і харошы, арыштаваны ў 39 годзе, забіты ў Гродзенскай турме, мама памерла на высылцы ў Казахстане ў 1945 г. Каханы з братоў Расьціслаў, з галавою, як залацісты сноп жыта, загінуў пад Берлінам 28 красавіка 1945 г., маладзенькі Аркадзі, які разам з Аляксеям пайшоў з высылкі ў армію Андэрса, ляжыць у польскай братняй магіле ў Лорэтто ля Рыма, маленькая Люся ў 1954 г. загадкава памерла ў Вроцлаве, Аляксея вялікадушна Англія прыгарнула, а Ксеня і Ніна выстаўленыя на ўсе правакацыі ў Польшчы, як і няшчасны мой сын... Муж зусім адзін у Варкуце...»

Гэтага маналога аднаго хапіла б на любую трагедыю ад антычнасці да нашых дзён. Вось яна, радасць уз'яднання Заходняй Беларусі з Усходняй. Уся Беларусь застагнала пад сталінска-кэдэбісцкім ботам.

Некалі ў Празе адзін хлопец з арміі Балаховіча пасля вайны прыняў савецкае падданства і прынёс анкеты Ларысе Геніюш. Яна адмовілася іх запаўняць. І тады хлопец сказаў: «Вы будзеце вялікай па сьмерці». Словы гэтыя паэтка помніла і занатавала іх у Споведзі.

З зубром-адзінцом хацела параўнацца змагарка. Але і самотнай кнігаўкай была яна. Адно гняздо ацаліў лёс — хату мужавых бацькоў, яна была першай хатаю, куды прыйшла паэтка з бацькоўскай, яна стала і апошняй, адкуль Ларыса Геніюш пайшла на вечны спачын.

О, сям'я Геніюшаў! Благаслаўлёная хата,
ў твае сцены калісь мяне мілы прывёў.
Нат вайна захавала цябе, быццам святасць,
мілы роду парог, каб прыняў ты нас зноў...
Спачываюць палі, спіць зямля пад снягамі,
каб на ёй узрасці беларускай душы.
Усім сэрцам сваім я з мінуласцю, з вамі,
прадаўжаю ваш след на зямлі, Генюшы.

На допыце следчаму, нейкаму Харашэвічу, што енчыў ад бяссілля зламаць дух беларускай патрыёткі: «Павесіць яе на вуліцах Мінска»,— паэтка крычала: «Яшчэ ня вырасла тая бяроза, на якой вы мяне будзеце вешаць, усіх нас вам не перавешаць!»

Адна супраць злыдняў бярозкай стаю,
Пот, не слёзы мой твар залівае,
Я люблю цябе, край мой, як душу сваю.
Я знаю — за гэта ўміраюць.

Памерла, каб пайсці ў неўміручасць, каб «памяць пакінуць, як ясны парам».

Дык хоць кайліва будзем памятаць гэта...

Хоць гэта трэба было рабіць пры жыцці, напісаў я радкі, прысвечаныя Ларысе Геніюш.

З рук Вашых мужных
Сціло выбівалі.
Вам даверці кайло душагубы.
Даў Вам з калючага дроту каралі,
З Вас пасміхаўся
Край Ваш найлюбы.

Вы на радзіме былі сіратою.
Зонечна Вам было,
Сонечна катам.
Толькі ў нябёсах над лютай Інтою
Бацькам быў Бог,
Маткай — вера,
Гнеў — братам.

Птушка дакору, адчаю і жалю,
Вы цішыню распазнаеце ў гуле.
Нашай віны сцяжалелую шалю
Вы сваім лёгкім крылом
Зварухнулі.

**Рыгор БАРАДУЛІН.**

Малюнак Анатоля **АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

ФОТАЛЕТАПІС ДЛЯ НАШЧАДКАЎ

# ГАНДАЛЬ НА ДАРОГАХ



Эх, і жыццё, нарэшце, настала: пі — не хачу! Ледзь не на кожным скрыжаванні прывабна паблісквацюць пляшкі «Рускай», «Пшанічнай», «Сталічнай», «Пярцоўкі», «Зуброўкі»... Убачыў бы такое багацце Ягор Кузьміч — расплакаўся б, напэўна. Усяго за паўтара «стольніка», калі добра патаргавацца, можна адхапіць паўлітэрку горкай.

— Налятай, падаражала! — заклікаюць пакупнікоў шустрыя падлеткі.

— Вы што, землякі... Кажыце, патанне-










здольнасці, талент. З ранку да вечара тут чуюцца пераліvы баяна альбо гармоніка, звонкі голас саксафона, плач скрыпкі...

...Мы ўваходзім у рынак. Але ці доўга ён будзе такім? Дзе паўжабрак гандлюе з жабраком...

Ці — наадварот...

Здымкі
Віктара ДРАЧОВА.

ла,— вучыць іх сусед па «прылаўку».— Так лягчэй кліента прываражыць.

Закусіць можна таксама па-царску і, як кажуць, не адыходзячыся ад касы. Тут табе і баранчыка прапануюць, і пеўня, і гусака... Былі б толькі салідныя купюры, бо «зайцы» на рынку пакуль што павагай не карыстаюцца.

Дзяды і бабулі выходзяць на дарогу, каб дабавіць да сваёй жабрацкай пенсіі некалькі чырвонцаў. Выносяць усё, што доўга хавалі на «чорны» дзень. Гандлярамі становяцца дзеці. Каб набыць жаданую відэакасету, ім часта даводзіцца развітвацца з любімым коцікам ці сабачкам. А тыя, у каго тавару няма, прадаюць свае



# ШЛЯХ НЕМАРКОТНЫ

## НАРЫСЫ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ СВЯТАСЦІ

### *НАЙПАДОБНЫ МУЧАНІК АФАНАСІЙ, ІГУМЕН БЕРАСЦЕЙСКІ*

Берасцейскі мучанік Афанасій нарадзіўся каля 1595—1600 г. у небагатай праваслаўнай сям'і (верагодна, збяднелага шляхціца, мяркуючы па тым, што служыў ён настаўнікам пры магнацкім двары, але, магчыма, і ў сям'і гарадскога рамесніка — як сведчыць пра тое сам Афанасій у сваіх мемуарах *). Як гэта найчасцей бывае, у нас няма звестак ні пра месца нараджэння, ні пра яго імя, дадзенае ў хрышчэнні; невядома таксама, ці сапраўднае яго прозвішча Філіповіч, ці гэта толькі імя па бацьку.

Відаць, што пачатковыя веды Філіповіч атрымаў у адной з брацкіх школ. Але адукацыя, атрыманая там, не зусім задаволіла дапытлівага юнака. Ён паступіў у Віленскую езуіцкую калегію. Туды прымаліся маладзёны ўсіх хрысціянскіх канфесій.

Прыдворную службу сваю ў якасці хатняга настаўніка Філіповіч пачаў у дамах праваслаўнай і каталіцкай шляхты, але ў 1620 г. усё жыццё яго пайшло ў іншым рэчышчы. Філіповіча, які станоўча зарэкамендаваў сябе багатымі ведамі, добрым норавам і бясспрэчным педагагічным талентам, гетман Сапега запрасіў для выхавання нейкага «Дзмітравіча», якога прадставілі Афанасію рускім царэвічам Іванам — нібыта пляменнікам памерлага ў 1598 г. Феодара Іванавіча, унукам Івана IV і сынам яго малодшага сына Дзмітрыя, пад імем якога ў 1604—1612 гг. выступала некалькі самазванцаў.

Адным з такіх быў і бацька Афанасіевага вучня, якога палякі рыхтавалі на рускі прастол,— Дзмітрый-Міхаіл Луба, забіты ў Маскве пад час мяцяжу супраць апалчэння Ілжэдзмітрыя I; жонка ж яго Марыя памерла ў зняволенні, а малалетняга сына ўзяў нехта Войцэх Бялінскі, які і прывёз дзіця ў Польшчу і выдаваў за сына Дзмітрыя і Марыны Мнішак (на самай справе павешанага). Пра гэта ўсё было абвешчана на сейме перад каралём, які і даручыў выхаванне Івана Льву Сапегу; той жа назначыў утрыманне «царэвічу» ў шэсць тысяч злотых на год з даходаў Брэста і Брэсцкага павета.

Сем гадоў служыў Афанасій «інспектарам» ілжэцарэвіча, прыходзячы паступова да ўпэўненасці, што гэты «нейкі царэвіч маскоўскі», «нейкі Луба», які «і сам пра сябе не ведае, што ён такое»,— чарговы самазванец, і ўпэўненасць гэтая з цягам часу ўмацоўвалася, асабліва калі ўтрыманне Лубы зменшылася да сотні злотых на год, ды і ў самога гетмана Сапегі неяк вырвалася: «Хто яго ведае, хто ён ёсць!»

Стаўшы нявольным саўдзельнікам палітычнай інтрыгі супраць маскоўскага гасудара (вядомага абаронцы праваслаўя Міхаіла Фёдаравіча Раманава, сына рускага патрыярха Філарэта), Філіповіч у 1627 г. пакінуў двор Сапегі і аддаліўся ў келлю Віленскага Свята-Духава манастыра, у школе якога, відаць, і вучыўся. Там неўзабаве прыняў пострыг ад рук намесніка Іосіфа Бабрыковіча. У хуткім часе з благаславення ігумена Афанасій праходзіць паслушэнства ў Куцеінскім манастыры пад Оршай, заснаваным незадоўга да гэтага, у 1623 г., Багданам Сцяткевічам з жонкаю Аленаю Саламярэцкай, а потым — у Міжгорскай абіцелі пад Кіевам, у ігумена Каментарыя і брата кіеўскага мітрапаліта Іава Барэцкага — Самуіла. Урэшце, ужо ў 1632 г. міжгорскі ігумен адпусціў Афанасія ў Вільню, дзе той быў рукапакладзены ў сан іераманаха. У наступным годзе Афанасій ізноў пакінуў манастыр Святога Духа і накіраваўся ў якасці намесніка ігумена Лявонція Шыцікa ў Дубойскі манастыр, што пад Пінскам, таксама падначалены віленскай абіцелі святых калугераў, дзе і правёў у дбанні аб брацііі, пастах і малітвах тры гады.

У 1636 г. заўзяты прыхільнік каталіцкае партыі Альбрэхт Радзівіл, парушаючы выдадзеныя каралём Уладзіславам IV «Словы супакаення», сілаю выгнаў з Дубойскага манастыра праваслаўных яго насельнікаў, каб перадаць абіцель езуітам, якія, праз ягонае дбанне, перад тым пасяліліся ў Пінску. Афанасій, не здольны процідзейнічаць магнату і ўтрымаць манастыр, склаў скаргу з аповедам пра ўчыненае беззаконне, аднак гэты пісьмовы пратэст, падмацаваны подпісамі праваслаўных, не прынёс станоўчых вынікаў.

Выгнаны са святога свайго жытла, Філіповіч знайшоў прытулак у Купяціцкім манастыры, пад апекаю ігумена Іларыёна Дзенісовіча. Абіцель гэтая была заснавана ў 1628 г. удавою брэсцкага кашталяна Грыгорыя Войны Апалоніяй і яе сынам Васілём Копцем пры цудатворным абразе Божай Маці.

У 1640 г. брацця берасцейскага Сімяонава манастыра, што пазбавілася ігумена, паслала ў Купяціцы просьбу даць ім на ігуменства Афанасія Філіповіча альбо Макарыя Токараўскага. Ігуменам быў абраны Афанасій, які і накіраваўся ў Бярэсце.

Тут ён трапіў у самае сэрца барацьбы паміж праваслаўем і уніяцтвам, бо Бярэсце было горадам, у якім выйшла на свет і як нідзе болей пашырылася грэка-каталіцтва.

Нягледзячы на тое, што барацьба з уніяцтвам за праваслаўную веру адбірала шмат сілы і часу, вымагала зносіць шмат пакут і ганенняў, Філіповіч не прыпыняе займацца публіцыстычна-палемічнай дзейнасцю, ствapae «Навіны», у якіх змяшчае нават напісаны ім духоўны верш, пакладзены ім жа на музыку.

На працягу паўгода нястомны змагар піша цэлы шэраг артыкулаў у абарону праваслаўнае веры.

У сакавіку 1648 г. пачаўся бунт, на чале якога стаяў Багдан Хмяльніцкі; яшчэ праз месяц памірае кароль Уладзіслаў. У гэты смутны час бескаралеўя, калі ў краіне пачалі дзейнічаць надзвычайныя (каптуровыя) суды, 1 ліпеня 1648 г. капітан каралеўскай гвардыі Шумскі зрабіў данос на Афанасія. Філіповіча арыштавалі пасля літургіі ў Раждзественскай царкве. Абвінаваўца дакладаў суду аб перасылцы Афанасіем нейкіх лістоў і пораху казакам Багдана. Філіповіч апратэставаў гэтую заяву.

Аднак пасля нядоўгае рады суддзі абвясцілі Філіповіча вартым смяротнае казні. Афанасій, закаваны ў калодкі, быў пасаджаны ў цэйхгауз, а пасля гайдукі з абозу ваяводы прывялі мучаніка ў бор каля вёскі Гершанавічы, катавалі яго агнём, прымушаючы вырачыся прававе веры. Аднаму з іх было загадана застрэліць Філіповіча (гэты ж гайдук і расказаў пасля пра гібель пакутніка людзям, і сярод іх — аўтару аповесці пра забойства святога ігумена).

Толькі праз восем месяцаў (1 траўня) пасля гэтага ліхадзейства якісь хлапчук сямі ці васьмі гадоў паказаў сімяонаўскай брацііі месца, дзе ляжала цела ігумена. Паколькі зямля ў месцы тым была не асвечана і належала езуітам, манахі таемна выкапалі цела; пераканаўшыся, што гэта астанкі Афанасія, і выпрасіўшы дазволу ў палкоўніка Феліцыяна Тышкевіча, яны перанеслі астанкі святога Афанасія ў манастыр і пахавалі ў храме Сімяона Стоўпніка «на правом клиросе в склепіку».

Нятленныя мошчы найпадобнага мучаніка, пахаваныя ў меднай рацы, прыцягвалі мноства багамольцаў, так што і само існаванне манастыра (досыць беднага з дня яго заснавання) падтрымлівалася пераважна даходамі ад малебных спеваў перад тымі мошчамі, услаўленымі цудамі.

Ужо праз дзесяць гадоў пасля гібелі мучаніка, 5 студзеня 1658 г., Кіева-Пячорскі архімандрыт Інакенцій Гізэль і ляшчынскі ігумен Іосіф Нелюбовіч-Тукальскі дакладвалі цару Аляксею Міхайлавічу, што над целам найпадобнага Афанасія неаднаразова ззяла дзівоснае святло...

26 верасня 1893 г. быў узведзены храм у імя святога Афанасія Берасцейскага ў гродзенскім Барысаглебскім манастыры, а ўвосень наступнага года частка мошчаў найпадобнага мучаніка была перанесена ў Леснінскі жаночы манастыр.

Гасподзь уславіў шматлікімі цудатворствамі астанкі Свайго ўгодніка.

Рэлігійны подзвіг святога мучаніка найпадобнага Афанасія Філіповіча, берасцейскага ігумена і цудатворцы, настойлівага змагара за веру сваю, «добрага воіна», апераззана праўдай, быў увекавечаны Госпадам на нябёсах, а на зямлі — вернікамі.

**Аляксей МЕЛЬНІКАЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

* «Дыяруш» — палемічнае супрацьуніяцкае сачыненне Афанасія ў выглядзе дзённіка або мемуараў, у якім ёсць дастаткова звестак пра жыццё і дзейнасць аўтара.

# СОНЕЙКА

Анатоль ЗЭКАЎ

## Гарбуз і Яблыня

КАЗКА

Ляжаў у баразне Гарбуз. Нацягнуў ад сонца картуз, ляжыць — не дзьме ў вус. Сонейка прыпякае, а ён вакол пазірае ды ад ляноты пазяхае. Змлеюць бакі ад лёжкі, яму б паварушыцца трошкі, павярнуцца на бачок спелы, ды лянота заела.

А побач Яблыня стаяла, на голлі яблыкі люляла. Убачыў яблыкі Гарбуз — ад зайздрасці ледзь не зваліўся картуз. Маўляў, як гэта, чырванашчокія: я — у баразне, а вы — вышэй за мяне, пад аблокамі? То ж даў бог ляжачую долю. А хіба б я вісець не змог — не здолеў?

Разлазаваўся Гарбуз, закалаціўся, бы ў землятрус, да Яблыні падкаціўся, як калабок, галаву ўзняў.

— Што ты хочаш, мілок? — запытала Яблыня, перастаўшы рыпець.

— На галінках тваіх павісець.

— А калі сарвешся, Гарбуз, ды наб'еш сабе гуз?

— Што будзе, тое будзе. Калі і ўпаду, то на дол.

— Калі ўжо так хочаш, чапляйся за ствол...

І палез Гарбуз па ствале спакваля, і ўсё далей і далей адплывала зямля. І вось між галля ўжо разлёгся Гарбуз: паглядзіце, маўляў, што зусім я не трус.

Так Гарбуз вісеў, пакуль не абсыпаліся лісточкі ўсе як адзін з яблыневых галін. І яблыкі пападалі на дол. Глядзіш, застаўся адзін як сакол.

Ад самоты Гарбуз скіс. Захацелася і яму ўніз. Не вісець жа аднаму. І таму грымнуў Гарбуз вобзем — ды так, што раскалоўся частак на восем. Эх, бедны, бедны...

Вось і ўся казка на гэтым.

А чаму ў ёй павучыцца можна — хай падумае кожны.



## ЗАГАДКІ

Уладзімір ПАЎЛАЎ

□ □ □

Доктар Стук на дрэва ўзлез...
Ведама й дзіцяці:
Гэта лечыць хворы лес
Даўгадзюбы... .

(Дзяцел.)

□ □ □

Палахлівы ён без меры.
Можа, гэтак, дзеці, й тут?
Сонца ў хату — ён за дзверы,
Сонца з хаты — ён на кут.

(Цень у хаце.)

□ □ □

У яловіку кашлатым
Запішчалі птушаняты.
Ды зімой, ды ў маразы!
Што за птушка? Адкажы!

(Крыжадзюб.)

## ДЫПЛАМАТЫЯ «АД 2 ДА 5»

● — Тата, давай спаборнічаць — хто хутчэй кашу з'есць.
— А якая будзе ўзнагарода пераможцу!
— Я тады з'ем яшчэ і цукеркі, якія ты схаваў у шуфлядцы...

● — Вовік, пакладзі, калі ласка, у чай толькі дзве лыжачкі цукру. Навошта ты бярэш трэцюю!
— Гэта за тату, мамачка!

● Бабуля ціхенька распачынае калыханку: «Баінькі, баінькі, куплю Светцы валенкі...»
Святланка падпявае: «І туфелькі, туфелькі...»

● — Дзядуля, ты б пабачыў, як сёння мяне мама выхоўвала...
— І як яна цябе выхоўвала, Міколка!
— Папружкаю выхоўвала, дзядуля...

# ЗГУЛЯЕМ, МАЛЫ?

«Сонейка» прапануе чарговы тэст для тых, каму ад 5 да 7 гадкоў.

Падрыхтуйце чысты аркуш паперы і дайце малому каляровы аловак або фламастэр. І папярэдзьце, што гульня з малюнкамі патрабуе ўвагі. Пакладзіце на стале заданні тэста, прыкрыйце чыстым аркушам усе радкі акрамя першага — «Д».

У радку «Д», як вы бачыце, 5 малюнкаў. Няхай дзіця разгледзіць іх, размалюе, а потым знойдзе малюнак, якога не павінна быць па сэнсу задання, і... закрэсліць яго.

Калі ігрок адолее першае заданне тэста, перасуньце аркуш паперы на адзін радок ніжэй і г. д.




**АДКАЗЫ НА ЗАДАННІ:**

**Д. Першы малюнак; Е. Чацвёрты малюнак; Ж. Пяты малюнак; З. Чацвёрты малюнак; І. Другі малюнак; К. Другі малюнак.**

Артур **ВОЛЬСКІ**

## *Дзіўны дзед*

**1.**

Вёз дзядуля
сена стог.
Не каня,
а мыш запрог.
Мыш — трушком,
падскокам — мыш.
— Ты ж
куды ж,
мой конь,
ляціш?
Гэтак сена пакрысе
па дарозе растрасе!..
Як на ліха,
з-пад варот
тут улёг за мышшу
кот.
Вазок —
хрась!
Дзядок —
бразь!
Разам з сенам —
проста ў гразь.
Кот-буркот
узлез на плот:
— Гэй, дзядок,
хутчэй вылазь!
Паляжаўшы ў лужыне,
будзеш чхаць, застуджаны...

**2.**

А ці байка,
а ці быль —
дзед набыў
аўтамабіль.
Хоць няма ў яго
правоў,
рухавік уміг завёў.
Круціць руль
адважны дзед —
толькі пыл
курыцца ўслед.
Толькі ш-шыны —
ш-шу-шу-шу,
вылятаюць на шаш-шу.
Як зароў,
зар-роў матор-р
на чырвоны святлафор!
Але міліцыянер —
цэп дзядулю
за каўнер:
— На сваім аўтамабілі
шмат бяды б вы нарабілі.
Дзе правы?
Няма правоў?
Пешкі пойдзеце дамоў!..
Дзед машыну —
на шнурок
ды дадому павалок:
— Падару сваю машыну
ўнуку я —
на імяніны!..

**3.**

Дзед ляціць на самалёце.
Аглядаецца ў палёце.
Сам ён штурман.
Сам пілот.
Сам сабе і самалёт.
Крылы — дзе?
А вось — крыссё...
— Самалёт —
хутчэй за ўсё!
Навакол такі прастор.
Б'ецца сэрца,
як матор.
Тут насустрач —
журавель,
што з чужых ляцеў зямель.
Вось праява
дык праява!
Дзед улева,
дзед управа.
Сутыкнуўся з хмараю,
пацярпеў аварыю.
Парашут
памог бы тут.
Але дзе той парашут?!
Вох, не жарты.
Вох, не смех.
Дзед з-пад хмары —
проста ў снег...
Хоць набраўся страху трошку,
ды ў сваім прачнуўся ложку.

**4.**

Ну, і дзед!
Дзіўны дзед!
Ён адзін
на цэлы свет.



# „АРЦЕЛЬ Ф", „АРД-ФІЛЬМ", „КАДР-2"... А ШТО ЗА КАДРАМ?

Што сёння адбываецца ў нашым кінематографе?

Пытанне гэтае задаюць не толькі гледачы, якія не знаходзяць беларускіх стужак на афішах, але і самі кінематаграфісты. Калі два-тры гады таму яны маглі ўсё даведацца адзін пра аднаго, седзячы на розных канцах Ленінскага праспекта — у Доме кіно і на «Беларусьфільме», то цяпер нават звесткі пра фільмы, якія здымаюцца, здабыць праблематычна. Дом кіно пасля высялення з Чырвонага касцёла пабадзяўся паўтара года па розных пляцоўках, а потым, не маючы прыстанку, знік увогуле як культурны ачаг. І гэта пры тым, што існуе пастанова Саўміна рэспублікі № 239 ад 20 верасня 1990 года аб выдзяленні пад Дом кіно аднаго з кінатэатраў Мінска.

Што ж да «Беларусьфільма», то тут усё ператасоўваецца, мяняе знакі. На другім і трэцім паверхах — там, дзе выношваюцца і выпраўляюцца ў жыццё ігравыя фільмы,— рэдка сустрэнеш знаёмы твар рэжысёра. Але затое шмат людзей дзелавога выгляду. Пры ўсім броўнаўскім руху, знікненні адных і вынырванні другіх, ёсць і з'явы, якія можна назваць ужо адбыўшыміся.

Першая з іх — адыход у нябыт дзяржаўнай манаполіі на кінематограф. Узнікла пазаведамаснае кіно — пры грамадскай арганізацыі, у Саюзе кінематаграфістаў Беларусі.

Наогул нарадзіцца яно павінна было ў «бацькі», на «Беларусьфільме», таму што кіно — індустрыяльнае мастацтва і без вытворча-тэхнічнай базы кінематаграфіст як шахцёр без адбойнага малатка. Аднак «бацька» супрацііўляўся ўсімі натрэніраванымі мышцамі дзяржструктуры і выпхнуў тых, хто захацеў эканамічнай самастойнасці. Ды яшчэ тыкаў пальцам: маўляў, паглядзіце на гэтых дзялкоў, хіба ім да творчасці? Яны ж мамоне пайшлі служыць!

Сярод адрынутых, між іншым, ёсць аўтарытэтныя майстры: Валеры Рыбараў — стваральнік



«Чужой бацькаўшчыны», «Сведкі», «Мяне клічуць Арлекіна» (аднаго з самых касавых фільмаў апошняга дзесяцігоддзя); Міхаіл Пташук — пастаноўшчык стужак «Вазьму твой боль» і «Знак бяды»; дакументаліст Аляксандр Карпаў, чыя спроба і ў мастацкім кіно абнадзеіла; сцэнарыст і рэжысёр, пачынальнік беларускай мультыплікацыі Алег Белавусаў. Крыху пазней уласныя студыі пачалі засноўваць аператар Таццяна Логінава, рэжысёр Барыс Гарошка, а сёлета — рэжысёр Вячаслаў Нікіфараў і рэдактар-дакументаліст Іван Белавус.

Цяпер пры Саюзе кінематаграфістаў ёсць дзесяць такіх студый. Адны з іх ужо «на слыху» ў гледача, як, напрыклад, «Арцель Ф» (мастацкі кіраўнік А. Карпаў), якая мае ўжо чатыры стужкі. Іншыя, як «Грамада» (мастацкі кіраўнік Б. Гарошка), толькі пачынаюць знаёміць публіку са сваімі работамі. А некаторыя, як «Ард-фільм» (мастацкі кіраўнік В. Рыбараў) і «Кадр-2» на чале з В. Нікіфаравым, знаходзяцца на шляху да рэалізацыі сваіх праектаў.

Зразумела, што ў незалежных студый (іх яшчэ называюць альтэрнатыўнымі) неаднолькавыя творчыя ўстаноўкі. «Арцель Ф», напрыклад, спрабуе даказаць, што камерцыя і мастацтва — рэчы сумяшчальныя, а таму арыентуецца на камедыйныя жанры (фантастычная трагікамедыя «Нячысцік», драматычны капуснік «Мона Ліза», сатырычная феерыя «Грэх прытворства», камедыйна-меладраматычная карціна «Шалёнай страсцю ты сама да мяне палаеш...»).

Студыя «Грамада» ідзе прыкладна ў тым жа накірунку, выбраўшы, праўда, іншыя папулярныя жанры (фільм жахаў «Інтэрпол», сацыяльная меладрама «Хэпі энд»).

Іншае творчае крэда ў студыі «Ард-фільм». В. Рыбараў лічыць, што займацца трэба толькі мастацтвам альбо не рабіць кіно наогул. Ён з аднадумцамі збіраецца ствараць фільмы толькі для «свайго» гледача.

Мае калегі-крытыкі, выказваючы свае адносіны да незалежных студый, часам заяўляюць: яны не зрабілі перавароту ў беларускім кіно. Згаджаюся: пакуль што не зрабілі. І дадаю: надта рана меркаваць пра іх у пракурорскім тоне, невялікі, як сказалі б сацыёлагі, масіў дадзеных. А пакуль заслуга незалежных студый у тым, што яны фарміруюць у беларускім кіно новую атмасферу. На змену псіхалогіі суб'ектыўных рашэнняў, пратэкцыянізму, спажывецтва, узгадаванай у дзяржаўнай кінасферы, прыходзяць прафесійная ініцыятыва, рызыка, усведамленне персанальнай адказнасці. Брацьі самому пад пастаноўку фільма мільённыя ссуды ў банку (а вяртаць жа трэба будзе з немалымі працэнтамі) ці атрымліваць дзяржаўнае фінансаванне за мінулыя заслугі (а заслугі далёка не заўсёды вымяраюцца талентам) — гэта супрацьлеглыя віды адказнасці кінематаграфіста. У першым выпадку ён добра падумае, ці акупіцца яго фільм глядацкай аўдыторыяй. Ды яшчэ і бізнесменам павінен даказаць сваю вартасць. У другім жа — яму на гледачоў ну, калі не начхаць, то і ўважваць іх неабавязкова. Усё роўна правал фільма ў пракаце нічым персанальна пастаноўшчыку не пагражае. У першым выпадку трэба добра паварушыцца, у другім — дастаткова мець прыязныя адносіны з начальствам. У першым — пачынаецца рух па шляху, які адпавядае руху эканомікі грамадства, у другім — гэты рух тармозіцца.





Незалежныя ўсёй сваёй сутнасцю паказваюць, што і без атрымання грошай з дзяржаўнай кішэні кіно будзе ствараецца.

Падспудны дакор «Беларусьфільму».

Больш таго, «Беларусьфільм», застаючыся дзяржаўным прадпрыемствам, добра прыкормліваецца ля незалежных студый, беручы з іх высокі працэнт адлічэнняў за вытворчыя паслугі. Абураюцца незалежныя такой «абдзіралаўкай», а — што рабіць? — плацяць. Іншай кінабазы ў рэспубліцы няма.

І ўсё ж час не ідзе назад. Два гады Міністэрства культуры рэспублікі — праз яго робіцца дзяржаўнае фінансаванне рэспубліканскага кінематографа — адмахвалася ад незалежных студый. Маўляў, байструкі. Але ў канцы мінулага года яго кіраўніцтва ўсё ж зрабіла разумны крок — пачало адбор сцэнарных праектаў на аснове конкурсу. У ім дазволілі ўдзельнічаць і незалежным студыям. Дзве з іх — «Кадр-2» у асобе рэжысёра В. Нікіфарава і «Ард-фільм» з В. Рыбаравым — атрымалі сацыяльна-творчы заказ. Упершыню дзяржаўная ўстанова адважылася прафінансаваць мастакоў, якія не стаяць у яе на службе.

Другая тэндэнцыя ў сучасным беларускім кінематографе выглядае наступным чынам. «Беларусьфільм» усё больш і больш перастае быць творчым арганізмам. Адбылося тое, што частка кінематаграфістаў, актыўных рэфарматараў, прадказвала яшчэ чатыры гады таму: кінастудыя ператварылася ў кінафабрыку, хоць называць сябе такой адмаўляецца. Факты? Вось. Летась з 34—38 мастацкіх стужак (дакладную лічбу ніхто з творцаў сказаць не мог), якія знаходзіліся ў працы, уласна кінастудыі належала не больш 5—6. Астатнія — беларускім незалежным студыям і яшчэ каму хочаш. «Беларусьфільм» прадстаўляў ім павільёны, тонатэлье, мантажныя цэхі, аўтатранспарт, тэхніку, спецыялістаў сярэдняга звяна — гэта значыць абслугоўваў творчыя задумы няштатных кінематаграфістаў.

Пагаршэнне эканамічнага стану ў рэспубліцы самым прамым чынам ударыла па дзяржаўным сектары ў кінематаграфіі. 32 мільёны, выдзеленыя сёлета з дзяржбюджэту на патрэбы кіно, для «Беларусьфільма» — практычна нуль. Бо пастаноўка аднасерыйнага фільма каштуе прыкладна 10—14 мільёнаў, а адна частка дакументальнага — 300 тысяч. У датацыях мае патрэбу і «беларусьфільмаўская» мультыплікацыя, дзе вытворчасць адной часткі абыходзіцца не адзін мільён. Выдзелім з дзяржсродкаў фінансаванне згаданых сацыяльна-творчых заказаў. Вось і атрымаецца вытворчая драбяза.

Кіраўнікі некаторых незалежных студый прапаноўвалі дырэкцыі кінастудыі вытворча-творчы альянс — мы бяром у банку ссуды, г. зн. рызыкуем, а вы прадстаўляеце нам паслугі па боскіх расцэнках; фільмы выходзяць як сумесныя і прыбытак дзеліцца пароўну.

Не згадзіўся «Беларусьфільм». Ва ўсялякім выпадку, пакуль што. Іншыя кінематаграфісты бачаць выйсце ў стварэнні акцыянернага таварыства закрытага тыпу. Размовы пра гэта ідуць ужо некалькі гадоў, аднак, да дзеяння не прыступалі. Хоць планы такога пераўтварэння, пэўна, выношваюцца і ўсё можа адбыцца ў адзін момант.

Тут трэба зрабіць стоп-кадр і коратка сказаць аб накіраванасці цяперашніх беларускіх фільмаў і саміх фільмах.

Два паралельныя кінематаграфічныя струмені — дзяржаўны і па-за ім — адрозніваюцца і тэматычнымі вектарамі. Незалежныя студыі больш прыцягваюць сучасная праблематыка, сямейна-любоўныя сюжэты, дэтэктыўныя гісторыі, творы замежных аўтараў. «Інтэрпол» рэжысёра Б. Гарошкі зроблены паводле рамана жахаў Алістэра Макліна «Сувенір, альбо Лялька на ланцужку»; «Грэх прытворства» А. Карпаў зняў паводле Дзюрэнмата і Ануя, «Шалёнай страсцю...» М. Князева — гэта У. Набокаў і І. Бунін. Відавочна, што першакрыніца сцэнарыяў незалежных студый — займальныя, разлічаныя на «пачуццёвую» публіку сюжэты.

Рэжысёры «Беларусьфільма» больш схіляюцца да ўвасаблення тэм, якія звязаныя з гістарычнымі асобамі і мінулым бацькаўшчыны. Доказ таму — «Маці Урагана» Ю. Марухіна па матывах аднайменнай п'есы У. Караткевіча і «Ятрынская ведзьма» Б. Шадурскага па п'есе В. Адамчыка «Раіна Грамыка». Рэжысёр Д. Зайцаў экранізаваў раман Элізы Ажэшкі «Хам». Ігар Дабралюбаў стварыў дзевяцісерыйную стужку «Плач перапёлкі» па вядомай трылогіі І. Чыгрынава.

Мастацкая якасць карцін не вельмі высокая як у незалежных, так і ў «дзяржаўных» кінематаграфістаў. Можна толькі гаварыць пра асобныя фільмы ці нават асобныя «моманты» ў іх.

Тое, што кідаецца ў вочы,— гэта добрыя акцёрскія работы менавіта беларускіх выканаўцаў. У «Хаме» выйшаў у «экранныя людзі» віцебскі акцёр Генадзь Шкуратаў, ён жа сыграў адну з галоўных роляў у фільме «Хэпі энд». З гэтым фільмам вярнулася на экран Аляксандра Клімава. У «Нячысціку» заўважнай стала роля Пажылога заказанага ў выкананні Аляксандра Ткачонка. Не кажу ўжо пра «Плач перапёлкі», дзе шмат удалых акцёрскіх работ купалаўцаў, ці пра карціну «Грэх прытворства», у якой партнёры Расціслава Янкоўскага па Рускім драматычным тэатры імя Горкага склалі добрую «кіношную» кампанію.

Фільмы, якія я назаву ніжэй, падзеямі ў культурным жыцці не сталі. Але не заўважыць іх нельга.

«Запіскі юнага ўрача» («Беларусьфільм» па заказу ТБ, рэжысёр М. Якжэн). Карціна пастаўлена па ранніх апавяданнях М. Булгакава з тонкім адчуваннем часу, выяўленым пісьменнікам. З вялікім спачуваннем і павагай, часам ледзь-ледзь іранічна, М. Якжэн распавядае пра правінцыяльных лекараў, гэтых рускіх падзвіжнікаў.

У карціне «Хам» («Беларусьфільм», рэжысёр Д. Зайцаў), якая паказвае гісторыю непадзеленага кахання халопа да пані, найбольш уражвае дуэт цудоўнай польскай актрысы Ханны Дуноўскай і акцёра Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа Генадзя Шкуратава. Шкада, што ў тэлевізійным варыянце карціне бракуе пачуцця суразмернасці.

Нарэшце згадаю кінастужку «Шалёнай страсцю ты сама да мяне палаеш...» (студыя «Арцель Ф», рэжысёр М. Князеў). Пры тым, што ў карціне бачна парушэнне эстэтычнага густу, агульная яго інтанацыя дабрыні і ўпэўненасць рэжысёрскай рукі выклікаюць сімпатыю.

Што наперадзе ў беларускага кіно?

Вопыт творчых пошукаў і пакут, размежаванне кінематаграфістаў у эру эканамічнага разрухі бясследна не праходзяць. Штосьці адкідваецца, штосьці назапашваецца для далейшага. Тым не менш найбольш падыходзячае слова для вызначэння сітуацыі ў сучасным беларускім кінематографе — непрадказальнасць. Зрэшты, як і ў многіх сферах нашага жыцця.

Расце новае пакаленне кінематаграфістаў, якое сёлета на фестывалі «Кінакалядкі-92» паказвала свае курсавыя работы. Лічу, што Віктар Тураў і Віктар Дашук, арганізаваўшы вучобу кінематаграфістаў у Беларускай акадэміі мастацтваў, здзейснілі справу, якая мае значэнне для будучыні нацыянальнага кіно. Зараз іх вучні на IV курсе. Дай Бог ім праявіцца на ўсе сто. Калі ёсць, канешне, чаму праяўляцца.

**Ала БАБКОВА,**
**кінакрытык.**

На здымках кадры з фільмаў:

● «Грэх прытворства» (студыя «Арцель Ф», рэжысёр А. Карпаў). Вядомы на ўвесь свет пісьменнік Швітэр — Расціслаў Янкоўскі, Дзяўчына на гадзіну — Ганна Маланкіна.

● «Хэпі энд» (студыя «Грамада», рэжысёры Б. Гарошка і Ул. Арлоў). У ролі Кіназоркі Генадзь Шкуратаў.

● «Запіскі юнага ўрача» («Беларусьфільм» па заказу ТБ, рэжысёр М. Якжэн). Урач Палякоў — Аляксандр Маслаў.

Фота Аляксандра КАРПАВА.

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

# ДРАМЫ НА ЛОЖКУ КАХАННЯ

Каб пераканацца, што няведанне законаў псіхалогіі надзвычай часта вядзе да хвароб, звернемся да наступнага прыкладу.

Хлопчыку 5—6 гадоў, ён ужо гатовы пастаяць за сябе, але агрэсіўная маці без стомы павучае яго: «Біцца няможна!».

Кім вырасце хлапчанё? Інфантыльнай асобай, якая, стаўшы дарослай, не здолее пастаяць за сябе.

Ці яшчэ. Тая ж агрэсіўная маці, памятаючы сваё нялёгкае мінулае, даводзіць сваёй пятнаццаці — шаснаццацігадовай дачцэ: «Выйдзеш замуж — грошы трымай пры сабе. Ты павінна камандаваць сваім мужам». Так маці, сама, напэўна, таго не жадаючы, рыхтуе дачку да канфліктаў з мужам замест таго, каб параіць дачцэ, будучай жонцы, дапамагаць свайму мужу заўсёды і ва ўсім, як гэта і зробіць, без сумнення, мудрая маці.

Дарэчы, ці шмат у нас шчаслівых сем'яў? Прааналізуйце статыстычныя даныя, азірніцеся вакол — і вы пераканаецеся, наколькі іх мала (паводле той жа статыстыкі, усяго 1—2 працэнты). Гэта тыя сем'і, дзе муж і жонка разумеюць, чуюць, бачаць, прызнаюць адно аднаго, г. зн. трымаюцца на ўзроўні Дарослы-Дарослы. Пацікаўцеся ў шчаслівых мужа і жонкі, як маці праграміравалі іх сямейныя ўзаемаадносіны. Жонка часцей за ўсё адкажа так: «Маці раіла заўсёды слухацца мужа, а ўсё рабіць... пасвойму». Парадокс? У пэўным сэнсе так, але калі ўсё гэта ажыццяўляецца ў межах здаровага сэнсу, то будзе заўсёды садзейнічаць ладу ў сям'і. Сапраўды, «слухацца мужа» — гэта значыць, пазбягаць канфліктаў у сям'і, а «рабіць па-свойму» — значыць, быць цікавай для ўсіх, хто акружае.

Цяпер уявім, што падрастаюць дзеці, выхаваныя агрэсіўнымі маці. Вось яны ўжо дасягаюць васемнаццаці — дваццацігадовага ўзросту, калі найбольш моцна выяўляецца цяга хлопцаў да дзяўчат і наадварот (лібіда). Урэшце ствараюцца сем'і. Спачатку ўсё ідзе добра, але паступова, спакваля пачынае праяўляцца праграма агрэсіўнай маці, і праз год — два наспяваюць канфлікты. Хто ў іх перамагае? Натуральна, жонка, бо яна агрэсіўная (так закладзена маці), і менавіта ў яе найбольш акрэслена выяўляецца сімптом спекуляцыі ў інтымных адносінах: «Калі ты не будзеш ва ўсім падпарадкоўвацца мне, дык будзем спаць паасобку...» А зачэпак для сямейнай сваркі больш чым дастаткова: «Ты па гаспадарцы нічога не робіш», «Я стамілася», «Вечна ў цябе адно ў галаве» і да т. п. Муж, не падрыхтаваны да такіх абвінавачанняў (а скарыстоўваюцца, дарэчы, надзвычайна моцныя «ўдары»), пачынае цягнуцца да шклянкі... Праз год — другі каханне згасае, а яшчэ пазней муж і жонка пачынаюць ужо ненавідзець адно аднаго...

Як я разглядаю падобную версію? Калі да мяне на кансультацыю прыходзіць жанчына (неўратызаваная, гранічна напоўненая агрэсіўнасцю), я, у якасці своеасаблівага тэста, задаю ёй пытанне: «Калі вы апошні раз гаварылі свайму мужу слова «мілы»?». Пацыентка мяняецца тварам і адказвае: «Свайму мужу? Ніколі!». Адразу і выразна бачу мэту нашых заняткаў: зняць агрэсію ў жонкі і «павярнуць» яе тварам да мужа. Цяжка гэта ці не? Надзвычай цяжка.

Наступны тэзіс, які мы павінны з табой, чытач, разгледзець, гэта: якім павінен быць мужчына? Ну, перш за ўсё, мужчына павінен быць і мужным, і дужым (не падхалімам, не кар'ерыстам). Але на ўзроўні падсвядомасці ён усё ж чалавек ранімы. Жанчына павінна быць ласкавай і цярплівай (мацярынская пазіцыя), але на ўзроўні падсвядомасці яна... агрэсіўная. З-за таго, што нашу дзятву спачатку ў дзіцячым садку, а пасля — у школе (дый дома) выхоўвае звычайна жанчына, атрымліваецца: у дзяўчынак нарастае агрэсія, у хлопчыкаў — ранімасць.

Прыгадайце, дарэчы, як ставіцца да настаўнікаў наша грамадства: зарплата нізкая, кватэр не хапае, нагрузка вялізная, мікраклімат у педагагічным асяродку кепскі — пры такіх умовах мужчыны-настаўнікі, якія нават любілі дзяцей, змушаны развітвацца са сваёй марай аб педагогіцы. А вынік? Ён у тым, што наладжваюць урэшце адносіны не жанчына з мужчынам, а агрэсія з ранімасцю. Следствы гэтага вы, бадай, усе адчулі на сабе.

Ідэальная сям'я сёння? **Маці** — гэта сонца, цяпло (не «сюсюканне», а менавіта цяпло), станоўчыя эмоцыі, якія павінна адчуваць сям'я; **бацька** — гэта, так бы мовіць, зямля, гэта кантроль, лагічнае мысленне. Калі гэтыя ўмовы захоўваюцца, дзеці атрымліваюць выдатнае выхаванне.

Але ў нас часцей за ўсё акцэнты зрушваюцца. У тым сэнсе, што ў імкненні да лідэрства маці маладой жанчыны, якая сама ўжо з'яўляецца маці, прагне заняць **яе** месца, а сама маладая жанчына прэтэндуе на **яго**, мужава, месца ў сямейнай іерархіі. Ён жа міжволі адыходзіць на другі план: співаецца ці, у лепшым выпадку, займаецца толькі сваёй работай, кар'ерай, а дзеці ў выніку не атрымліваюць паўнацэннага выхавання.

Тут варта прыгадаць канцэпцыю так званых псіхалагічных «уколаў» і «пагладжванняў», якая закраналася ў адной з папярэдніх гутарак. Памятаеце: пры псіхалагічных «пагладжваннях» чалавек напаўняецца сілаю, расцвітае, а пры псіхалагічных «уколах» — «спінны мозг чэзне ад адсутнасці станоўчых эмоцый».

Дык вось, чаго мы ў жыцці атрымліваем болей: «уколаў» ці «пагладжванняў»? Натуральна, першага: нас усё ж болей крытыкуюць, чым хваляць...

«Уколы» бываюць самага рознага калібру: дробныя, сярэднія, буйныя і — як забароненыя прыёмы. Асабліва небяспечныя яны ва ўзаемаадносінах паміж мужчынам і жанчынай.

Уявім, мужчына «блізка пазнаёміўся» з жанчынай, і яна яму здзекліва гаворыць: «Хіба ты мужчына?!». Гэта і ёсць забаронены прыём, ці, іначай, удар ніжэй пояса. Атрымаўшы такую псіхалагічную траўму аднойчы, мужчына можа пакутаваць ад яе ўсё жыццё.

У прынцыпе, няма слабых мужчын і няма фрыгідных жанчын. Ёсць мужчыны і жанчыны, якія не ведаюць законаў сексуальных узаемаадносін, з'яўляюцца сексуальна непісьменнымі. Калі адзін дасылае «укол» другому, то звычайна атрымлівае ў адказ «укол» значна большай моцы, і, наадварот, «пагладжванне» (калі яно вельмі шчырае) абавязкова вернецца да вас сардэчнай падтрымкай улагоджанага чалавека. **Закон бумеранга** спрацоўвае безадказна!

Прывяду прыклад, як недакладныя веды ці іх адсутнасць адмоўна ўплываюць на палавую функцыю мужчыны. У хлопчыка высокі гарманальны фон, яму 13—16 гадоў. Ён яшчэ саромеецца дзяўчат, бачачы ў іх недасягальна-загадкавыя істоты. Да пэўнага часу ён яшчэ стрымлівае сябе, але вось бацькі заўважаюць, што ён задавальняе свае сексуальныя патрэбы не зусім натуральным спосабам. Яны ў паніцы. Бягуць да настаўнікаў, урачоў, якія самі выхаваны на старых ведах. І пачынаюць палохаць хлопчыка жахлівымі пагрозамі: «Ты не здолееш вучыцца!», «Ты захварэеш псіхічным захворваннем!».

А менавіта ж у гэтым узросце падлеткі асабліва ўнушальныя, а спытаць парады няма ў каго — справа інтымная. З-за поўнай псіхалагічнай непісьменнасці дарослых, іх бестактоўнасці хлопец сапраўды рызыкуе стаць сексуальна непаўнацэнным, хваравітым мужчынам, хаця свой саромны занятак ён, баючыся яшчэ больш кепскіх вынікаў, спыніў.

Хлопцу спаўняецца 18 гадоў, ён ідзе ў армію, вызваляецца ад уздзеяння бацькоў. Актыўнасць яго палавых цэнтраў абуджаецца, няўхільна ўзрастае, пакуль яны ўрэшце не «перагараць» у мозгу і хлопец не ператворыцца ў звычайнага... імпатэнта, якому ўжо вельмі цяжка дапамагчы. Нават псіхатэрапеўту.

А пачалося ўсё, як вы памятаеце, з надуманай хваробы, якую прыпісалі хлопцу старэйшыя. Надуманай таму, што, паводле амерыканскай статыстыкі, у Злучаных Штатах 97 працэнтаў хлопчыкаў і 50 працэнтаў дзяўчынак схільныя да ананізму, і гэта зусім не палохае ні бацькоў, у прыватнасці, ні грамадства, у цэлым.

Хачу звярнуць вашу ўвагу на яшчэ адну тонкую акалічнасць. Чым у прынцыпе адрозніваецца патэнт ад імпатэнта? Тым, што першы здольны аддаць сябе (у тым ліку і сваё семя) іншаму, а другі — не. Першы — багаты, шчодры сэрцам і душой, другі — бедны, сквапны, зайздрослівы. А цяпер скажыце: выхаванню якога тыпу асобы найбольш спрыяе стан нашага сённяшняга грамадства? На жаль, другога. Бо цікаваму мужчыну мы не даём ні цікавай справы, ні заробку, а хапуга мае ўсё. Паводле афіцыйных даных, у нас у краіне 20 мільёнаў імпатэнтаў, а неафіцыйна — кожны другі...

Ці можна ўсё гэта выправіць? Так, можна. Для гэтага, у прыватнасці, і трэба ведаць адпаведныя законы псіхалогіі і разумна скарыстоўваць іх на практыцы.

Што такое здаровы чалавек? Сусветная арганізацыя аховы здароўя абвясціла: чалавек здаровы — гэта чалавек, абаронены сацыяльна, псіхічна і фізічна. Вы спытаеце: хто ў нас сацыяльна абаронены? Адказ адназначны: ніхто. Хто абаронены псіхалагічна? Ніхто. Хто абаронены фізічна? Зноў жа — амаль ніхто.

Прыклад ЗША сведчыць, што практычна ўсе гэтыя прынцыпы там спрацоўваюць. Да таго ж амерыканцы, каб яшчэ больш высока ўзняць аўтарытэт сваёй нацыі, прыдумалі пры ўдзеле псіхолагаў і псіхатэрапеўтаў аблічча прыбраннага здаровага чалавека, назваўшы гэтае аблічча «іміджам». Амерыканскі імідж выяўляе чалавек матэрыяльна забяспечаны, фізічна дужы, добра апрануты (прыгадайце вобразы артыстаў кіно і эстрады), з бездакорнымі манерамі і нязгаснай усмешкай.

І што мы бачым сёння? Увесь свет цягнецца да амерыканскага ладу жыцця, але далёка не кожны дасягае на гэтым шляху мэты. Бо проста цягнуцца, проста жадаць і марыць — гэтага мала.

У амерыканскай псіхалогіі бізнесу ёсць закон, які носіць назву «закона мурашкі»: калі ты паставіў на мэце стаць, да прыкладу, багатым, ты павінен зрабіць усё магчымае, каб **стаць ім**. А ў чым, спытаеце вы, заключаецца сэнс «закона мурашкі»? А ў тым, што мурашка заўсёды дасягае абранай канчатковай кропкі, хаця часам і пятляе, ідзе кружным шляхам. Да мэты яна прыходзіць заўсёды!

Чым людзям не навука!

Хачу звярнуць увагу чытачоў на тую акалічнасць, што адно толькі разумнае выкарыстанне законаў псіхалогіі і псіхатэрапіі можа даць адметныя вынікі. Сцвярджаючы гэта, я не «адкрываю Амерыкі»: трэба заўсёды імкнуцца лепш спазнаць самога сябе і навучыцца кіраваць сваімі эмоцыямі — вынікі не прымусяць сябе чакаць...

Згодна з тыбецкай навукай, здаровы чалавек — гэта чалавек, які свята трымаецца трох прынцыпаў: першы — спазнанне самога сябе; другі — уменне кіраваць сваімі эмоцыямі; трэці — заўсёднае імкненне несці людзям сапраўдную дабрыню. Выконваючы гэтыя тры прынцыпы, любы чалавек будзе адчуваць сябе здаровым.

Вядома, што здароўе чалавека на 50 працэнтаў залежыць ад яго самога, на 20 — ад спадчыннасці, яшчэ на 20 — ад экалагічнага асяроддзя і толькі на 10 працэнтаў — ад урачоў. Але сёння (я так мяркую) большасць залежыць ад самога чалавека.

Калі цяжка перайначыць абставіны жыцця, паспрабуйце змяніць хаця б адносіны да іх. Урэшце, абставіны гэтыя мы ствараем самі, нам і мяняць іх да лепшага. Пакладзіце ў аснову асноў свайго існавання прынцып: палюбі сябе! Вазьміце за правіла кожную раніцу рабіць зарадку. Загартоўвайцеся. Сачыце за дыетай. Мацуйце зносіны з сябрамі і прыродай. Назапашвайце аптымізм.

Я жадаю вам здароўя!

З павагай
псіхатэрапеўт
**Яўген ХАБАРАЎ.**

# «ЛЮБОЎ — ГЭТА ТОЕ ДАДАТНАЕ БІЯПОЛЕ, З ДАПАМОГАЮ ЯКОГА МАСАЖЫСТ ЭФЕКТЫЎНА ЎЗДЗЕЙНІЧАЕ НА ПАЦЫЕНТА»

Сённяшні дзень перанасычаны гаворкамі пра Дабро, Міласэрнасць, Любоў. На жаль, паняцці гэтыя прысутнічаюць у нашым жыцці толькі намінальна, тэарэтычна. Ды амаль усе мы ўжо страцілі надзею па-сапраўднаму адчуць сэнс гэтых магічных слоў. І адбываецца ўсё так таму, што ў аснове беднасці і жабрацтва нашага сучаснага грамадства ляжыць не толькі эканамічны крызіс, але, самае галоўнае,— духоўны. Духоўнае ж багацце — гэта найперш Любоў. Менавіта цяпер, у такі складаны і цяжкі час, мы павінны знаходзіць у сабе сілы заставацца людзьмі, дапамагаць адно аднаму.

Працуючы шмат гадоў масажысткаю і назіраючы за працаю сваіх калег, я заўважыла, што амаль кожны масажыст пад час сеанса размаўляе з пацыентам на самыя розныя тэмы, не заўсёды карысныя для апошняга. Надаючы шмат увагі лячэнню менавіта псіхатэрапіяй, я прыйшла да вываду, што калі выкарыстоўваць гутаркі з пацыентам мэтанакіравана, пераконваючы і ўнушаючы адначасова з прыёмамі масажу, то вынік такой працэдуры будзе больш эфектыўны. Методык правядзення такога масажу існуе шмат — у залежнасці ад дыягназу, асобы хворага, ступені яго ўнушальнасці і прафесійнасці масажыста.

У аснове гэтага метаду масажу ляжыць патэнцыраванне і апасродкаванне славесным унушэннем кожнага элемента масажу, скіраванага на тое, каб выклікаць цяпло на ўчастку цела, які масіруецца, а таксама на разрыў паталагічнай умоўна-рэфлекторнай сувязі і стварэнне новага спектра пачуццяў і адчуванняў. Масажныя ўздзеянні скіраваны або на орган, уцягнуты ў паталагічны працэс, або на сегменты апарат зоны Захар'іна-Геда гэтага органа.

Масажныя прыёмы адпавядаюць патрабаванням, якія прадугледжваюць правілы класічнага масажу: пагладжванне, расціранне, вібрацыя. Гэтыя ўздзеянні праводзяцца спакойна, менш інтэнсіўна, з больш частым паўторам і чаргаваннем пагладжванняў цёплымі мяккімі рукамі, здольнымі расслабіць мышцы і выклікаць унутраны спакой і дрымотны стан, бо гэта абавязковая ўмова для такога метаду масажу.

Усе формулы ўнушэння праводзяцца спакойным, мяккім і ўпэўненым голасам. Словы прамаўляюцца паволі, манатонна, паціху. Формулы паўтараюцца па некалькі разоў.

Гэты від масажу праводзіцца ў цёплым, утульным памяшканні. Уся абстаноўка павінна спрыяць даверлівай, прыемнай гутарцы і адпачынку.

Пажадана працэдуру праводзіць без старонніх, на фоне ціхай, прыемнай музыкі.

Знешнім выглядам і паводзінамі ўрач павінен перадаваць асабістую ўпэўненасць у поспех справы хвораму, выклікаць давер і павагу да свае асобы. Галоўны прынцып лячэння: данесці сваю Любоў да чалавека праз рукі і словы. Любіць і дапамагаць шчыра.

Перад сеансам масажу з пацыентам праводзіцца гутарка, у часе якой хвораму даказваецца магчымасць выздараўлення і добрага самаадчування, дзякуючы менавіта гэтаму метаду лячэння.

Масаж пачынаецца з прыёмаў пагладжвання, якія павінны выклікаць спакой і расслабленне ва ўсіх мышцах. Кожны прыём суправаджаецца адпаведным унушэннем, выклікаючы гэтым усё больш паглыблены стан рэлаксацыі і дрымоты. Урач пераконвае хворага ў тым, што з дапамогаю сваіх рук, іх энергіяй і спакоем ён здымае балючыя адчуванні, супакойвае нервовую сістэму пацыента, дае дадатковы падмацунак усяму арганізму, аднаўляе яго страчаныя функцыі.

Даецца ўстаноўка на паляпшэнне стану з кожным сеансам, умацаванне нервовай сістэмы, устаноўка на тое, што, дзякуючы ўздзеянню рук масажыста на пэўныя органы або сегменты гэтых органаў (у залежнасці ад захворвання), паляпшаецца работа хворага органа або сістэмы, вяртаецца страчаная функцыя за кошт кровапаўнення, абагачэння кіслародам і г. д., паляпшаюцца ўсе абменныя працэсы; усе шкодныя шлакі выводзяцца з арганізма. Арганізм ачышчаецца, абнаўляецца, умацоўваецца. Эфектыўнасць лячэння з кожным сеансам робіцца ўсё больш адчувальнаю.

Даецца ўстаноўка таксама на тое, што ўсе непрыемныя адчуванні і думкі хворага масажыст зняў сваімі рукамі і вярнуў унутраны спакой і раўнавагу, вярнуў здароўе. Адчуванне цяпла ў месцы масажу будзе захоўвацца на працягу гадзіны і болей.

Абавязкова ў канцы працэдуры, якая завяршаецца таксама пагладжваннем, масажыст пераконвае хворага ў тым, што пасля сеанса той будзе адчуваць сябе адпачыўшым, спакойным, упэўненым у сваім здароўі; у хворага, як правіла, з'яўляецца прыліў бадзёрасці, энергіі, працаздольнасці, добрага настрою. Ён адчувае свабоду рухаў у месцы масажу, незвычайную лёгкасць ва ўсім целе.

Пасля працэдуры абмяркоўваецца агульны стан хворага ў часе сеанса, пры неабходнасці — тыя або іншыя элементы дадзенай методыкі. Рэкамендуецца пасля сеанса масажу паляжаць або пасядзець з заплюшчанымі вачамі ў спакойным, расслабленым стане на працягу пятнаццаці хвілін. У гэты час хвораму трэба падмацоўваць сеанс, праведзены ўрачом, самаўнушэннем, у думках пераконваючы сябе ва ўмацаванні тых органаў і сістэм, якія патрабавалі дапамогі.

Працягласць дадзенай методыкі ад 15 да 20 хвілін. Колькасць сеансаў — ад 5 да 10, у залежнасці ад дыягназу і эфектыўнасці лячэння.

Паказанні і супрацьпаказанні тыя ж, што і пры класічным масажы, але пры захворваннях функцыянальнага характару, выкліканых арганічнай паталогіяй, эфектыўнасць гэтай методыкі масажу значна вышэйшая. Асабліва эфектыўнае прымяненне дадзенага метаду пры вегета-сасудзістых і вегета-вісцэральных парушэннях, пры неўрозах, іпахандрычнай і дыэнцэфальнай сімптаматыцы і інш. разладах нервовай сістэмы.

У выніку шматгадовага вопыту працы масажысткаю я пераканалася, што такая працэдура масажу вельмі прыемная і карысная не толькі фізічна, але і псіхалагічна ад чулага, высокапрафесійнага падыходу да кожнага асобнага пацыента.

Чалавек адзінокі па сваёй сутнасці, нягледзячы на асяроддзе, якое яго акружае. Таму кожнаму з нас, тым болей хвораму, які звярнуўся да ўрача за дапамогаю, неабходныя цяпло і ласка. І не толькі для душы, але і чыста фізічна арганізм адчувае настальгію па цяпле, пяшчоце і ласцы, настальгію па любові.

Дадзены метад масажу, як ніякі іншы, кампенсуе гэты дэфіцыт з дапамогаю чулых рук і добрага сэрца, прыносіць задавальненне хвораму і спецыялісту ад усмешкі ўдзячных пацыентаў.

Любоў — гэта тое дадатнае біяполе, з дапамогаю якога масажыст эфектыўна ўздзейнічае на пацыента. Рукі ўрача — праваднікі лекавай энергіі. Толькі любоў цудадзейна здольна аднавіць усе рэзервы хворага арганізма. Дык будзем жа лячыць найперш Любоўю!

**Валянціна ШЧАРБАЕВА,**
**інструктар-метадыст**
**па ЛФК і масажы.**

АПЕРАЦЫЯ «ЗЯЛЁНАЯ АПТЭКА»

## ДЗЯРАЧКА ПАХУЧАЯ

(ясменник душистый)
(подмаренник).
*Asperula odorata*

У народнай медыцыне выкарыстоўваюць траву і карэнне дзярачкі. Трава аказвае мачагоннае, супрацьзапаленчае, лёгкае паслабляльнае, ранагаючае дзеянне, дабратворна ўплывае на абмен рэчываў, валодае заспакаяльным дзеяннем на цэнтральную нервовую сістэму, садзейнічае выдаленню пяску з мочавывадных і жоўцевых шляхоў, паляпшае сон.

Ужываць дзярачку трэба пад наглядам урача, строга выконваючы правілы прыёму, указаныя дозы і тэрміны лячэння.

**Настой травы дзярачкі.**
10—15 г травы настойваць у 1 л кіпню 3—4 гадзіны ў тэрмасе, працадзіць. Піць па 100 мл 3-4 разы на дзень пры захворваннях нырак, мачавога пузыра, ныркакаменнай і жоўцекамянёвай хваробах, бяссонніцы, прастудзе, функцыянальных расстройствах сардэчнай дзейнасці, раздражняльнасці, парушэнні абмену рэчываў, болях у жываце. Выкарыстоўваюць для абмывання ран, язваў, скурных высыпак.

**Настой травы дзярачкі.**
10 г сушанай травы настойваць у 200 мл ахаладжанай гатаванай вады 3—4 гадзіны, працадзіць. Прымаць па 100 мл 2 разы на дзень перад ядой або нанач.

**Адвар з карэнішча дзярачкі.**
10 г карэнішча кіпяціць у 200 мл вады 10 хвілін, настойваць 1 гадзіну, працадзіць. Прымаць па 1 чайнай лыжцы 3-4 разы на дзень пры імпатэнцыі, болях у вобласці сэрца.

## КОНКУРС ДАСЦІПНЫХ

**Гэты здымак трапіў у «Апошні вагон» без тэкстоўкі. А подпіс, канешне ж, просіцца...**

**Дапамагай, чытач...**

# „АПОШНІ ВАГОН"



## ЗАПАТЭНТАВАНА ЗА МЯЖОЙ

Каб пазбіраць плады і ягады, што вісяць высока, садаводу даводзіцца альбо лесвіцу падстаўляць, хаця месца для гэтага не заўсёды знаходзіцца, альбо карыстацца граблямі, альбо — што яшчэ горш — палкай. Гэта нязручна, і плады можна пабіць.

Лепш зрабіць прыстасаванне — полую трубку з кручком і ланцужком (вяровачкай). І канструкцыя такога прыстасавання, і работа з ім надзвычай простыя.

За работу, садавод, і багатага табе збору!

## ВЫ ПРА ГЭТА НЕ ЧЫТАЛІ?

Ці ведаеце вы, як абаранялі дысертацыю па медыцыне ў Парыжскім універсітэце ў XIII стагоддзі?

Дык вось...

Найперш аспірант павінен быў адказаць на наступныя пытанні:

а) Ці прыводзіць распутства да аблысення?

б) Ці павінны літаратары жаніцца?

в) Ці карысна напівацца адзін раз у месяц?

Напэўна, усе ведаюць, што Пётр I быў дзяржаўным дзеячам. А вось тое, што цар цікавіўся анатоміяй і хірургіяй,— вядома мала каму. Пётр I практыкаваўся ў якасці зубнога ўрача, перавязваў раны, а аднойчы нават рызыкнуў зрабіць складаную хірургічную аперацыю.



## НА ЗЛОМ ГАЛАВЫ

**1. У квадраце, які вы бачыце на малюнку,— 36 клетак. Упішыце ў кожную з іх па нулю, а пасля закрэсліце шэсць нулёў так, каб на кожны з чатырох бакоў застался па чатыры нулі.**

**2. Колькі ўдараў у суткі робіць гадзіннік з боем?**

**P. S. Майце на ўвазе, што бой а палове той ці іншай гадзіны не ўлічваецца.**

**3. Лік 2519 мае цікавую ўласцівасць. Яе вы выявіце, калі падзеліце гэты лік паслядоўна на 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8 і 9.**

**Раім чытачам не праяўляць празмернай самаўпэўненасці, калі трэба будзе «паламаць галаву»...**



Без слоў.
Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Алеся ШАЎЦОВА.



## «КЕПСКА КАЛЯ ВІЦЕБСКА...»



Варта ўважліва прааналізаваць становішча на дыяграме — і вывад будзе адназначны: справы белых кепскія. Мала таго, што чорныя захапілі цэнтр, яны ходам g7—f6 пагражаюць канчаткова разрозніць сілы белых. Тут і прыгадаеш прымаўку: «Кепска каля Віцебска, а каля Воршы — яшчэ горша».

Але якіх дзіваў у шашках ні здараецца! Белыя, здавалася б, парадаксальным ходам 1. c3—b4! змушаюць чорных адмовіцца ад цэнтра. Аказваецца, нельга нападаць 1... g7—f6? з-за 2. c1—d2 і 3. f4—e5. Прайграе таксама і 1... b6—a5? пасля прадугледжанай белымі камбінацыі 2. f4—e5! a5:c3 3. c1—d2 і 4. d2 : b8. Але на адзіны адказ чорных 1... g7—h6 белыя не сунімаюцца і ходам 2. e1—f2! ставяць другую пастку на выпадак адказу чорных 2... b6—a5? — 3. g5—f6!! Бліскуча! Як бы чорныя ні бралі, белыя пажынаюць «багаты ўраджай». Урэшце чорныя павінны ісці толькі 2... f8—g7, але і тут іх чакае трэцяя, іншая, як і дзве папярэднія, па тэме камбінацыя. 3. g1—h2! b6—a5 (іншага адказу ўжо няма) 4. h2—g3! a5:c3 5. c1—d2 c3 : e1 6. g3—h4 e1 : e5 7. g5—f6 і 8. h4 : d5. Для чорных — безнадзейна.



**ВАШ ХОД, КАМП'ЮТЭР!**

## КАСПАРАЎ СУПРАЦЬ КАСПАРАВА

Калі Гары Каспараў заваяваў тытул чэмпіёна свету, адна з фірм па вырабу камп'ютэраў з тагачаснай Заходняй Германіі ў рэкламных мэтах дала адной з ЭВМ прозвішча «Каспараў». У часе наведвання Цюрыха чэмпіён свету правёў сеанс адначасовай гульні з швейцарскімі шахматыстамі, і, канешне ж, не мог не выклікаць на дуэль свайго «цёзку».



Пазіцыя, якую вы бачыце на дыяграме, склалася пасля 35-га ходу чорных (чорнымі фігурамі кіраваў «Каспараў-камп'ютэр») — Kph8. Жывы Каспараў пагражаў моцным ходам Ce6!

Чэмпіён свету ў сваёй стыхіі: 36. Л:f8+! Ф:f8 37. Фg6 Kpg8. (Не ўратоўваў чорных і такі працяг гульні: 37... Фg8 38. Kf6! gf 39. Ф:h6+Фh7 40. Ф:h7 X). Далей у партыі было: 38. Kf6+! Ф:f6 39. Фe8+ Фf8 40. Ce6+.

«Каспараў-камп'ютэр» пагадзіўся, што перамога на баку Каспарава-чалавека...

## У ДАСЬЕ ЭРУДЫТУ

### АКУЛЯРЫ НА НОСЕ

Калі імператар Нерон (I стагоддзе нашай эры) сачыў за паядынкамі гладыятараў, ён падносіў да вачэй адшліфаваны ізумруд. Гэта яшчэ не былі акуляры...

Акуляры ўпершыню прыгадваюцца ў трактаце араба Ібн аль-Сайсамі (X стагоддзе), і менавіта гэтага чалавека лічаць бацькам акулярнай оптыкі. Тэорыя тэорыяй, а сакрэт вырабу шкла — празрыстага і бясколернага — для акуляраў вынайшлі ў Венецыі ў XIII стагоддзі... Каштавалі акуляры на той час страшна дорага.

Доўга вырашалася і праблема, як акуляры насіць... Быў час, калі іх мацавалі да капелюша...



## КРЫЖАВАНКА «СПАДЧЫНА»

**Па гарызанталі:** 7. П'еса Я. Купалы. 8. Вусная народная творчасць. 9. Прыбудова да хаты з боку дзвярэй. 12. Жывапісны твор М. Сеўрука. 13. Беларускі і польскі паэт, краязнавец. 16. Музычны інструмент тыпу флейты. 17. Народны звычай наведваць парадзіху. 18. Жанр народна-паэтычнай творчасці. 20. Адзінка вагі мёду на Беларусі да 17 ст. 21. Вакальны твор. 22. Полацкі майстар-ювелір 12 ст., стваральнік крыжа Ефрасінні Полацкай. 23. Бандарны выраб, у якім хавалі адзенне і саматканае палатно. 25. Ансамбль народнай музыкі. 29. Комплекс гаспадарчых пабудоў з зямельным участкам. 31. Мемарыяльны комплекс у Дубровенскім раёне. 33. Кніга паэзіі Е. Лось. 35. Імя праслаўленага партызанскага камандзіра ў Айчынную вайну на Віцебшчыне. 36. Народны танец. 37. Паэма П. Глебкі. 38. Від сярэдневяковага жывапісу.

**Па вертыкалі:** 1. Этнаграфічная назва жыхароў Палесся ў дарэвалюцыйнай Расіі. 2. Старажытны горад, у якім С. Будны быў кальвініцкім прапаведнікам (1560—62 гг.). 3. Беларус, першадрукар, асветнік. 4. Штучны вадаём. 5. Твор жывапісу культавага прызначэння. 6. Зборнік апавяданняў М. Гарэцкага. 10. Мужчынскі трукавы танец-жарт. 11. Старадаўняя рыбалоўная прылада. 14. Прозвішча Ц. Гартнага. 15. Раннехрысціянскія творы-казанні пра Ісуса Хрыста. 18. Класік беларускай літаратуры. 19. Народная гульня. 24. Герой усходнеславянскіх казак. 26. Паша, выпас. 27. Народны герой Беларусі. 28. Пісьменнік, які пісаў пераважна для дзяцей. 30. Створкі для засцярогі акон знадворку. 31. Біёлаг-генетык, акадэмік АН Рэспублікі Беларусь. 32. Мучныя бліны з начынкай. 34. Старадаўняе земляробчае свята дастатку.

Склаў Пётр ГУРЧОНАК.

### ЁСЦЬ РОЗНІЦА

Муж сустракае на вакзале жонку з Сочы, тая абураецца:

— Ты нават не абдымеш мяне. Бачыш, які ўважлівы вунь той мужчына да сваёй жонкі?

— Але ж яна ад'язджае.

### БІЛЕТЫ НА ЗАЎТРА

Муж кажа жонцы:

— Я купіў білеты ў тэатр.

— Ой, як добра! Я пачынаю збірацца.

— Самы раз паспеем: білеты на заўтра...

### ДЗЕЛЯ СМЕХУ

У Марусі спыталі:

— Чаму, маладзіца, клічаш свайго сабаку Нягоднікам?

— Дзеля смеху. Калі так гукаю яго на вуліцы, дык многія мужчыны азіраюцца.

### ПЕРАСЦЯРОГА

— Чаму ты не быў цэлы тыдзень на рабоце? — пытаецца ў прагульшчыка начальнік.

— Не цэлы тыдзень, а пяць дзён. Гараскопу паверыў. У ім было напісана, што панядзелак, аўторак, серада, чацвер і пятніца небяспечныя дні, можна трапіць у аварыю. Дык я ўсе гэтыя дні праляжаў у ложку — для перасцярогі.

Даслаў А. МІХАСЁНАК.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 8**






## АНОНС-ЗАПРАШЭННЕ

Пяць варыянтаў, пяць пытанняў. А можа, і больш — сем, дзесяць, дванаццаць... Усё залежыць ад колькасці прапаноў, якія будзем чакаць і ад вас, шаноўныя чытачы. Аднак выбар урэшце трэба спыніць на адной, самай прымальнай, самай ёмістай, самай сучаснай **назве паралельнага экалагічнага часопіса ў часопісе,** які рэдакцыя закладвае ў мадэль «Беларусі»-93.

Мэта структурнага выдання, якое мусіць стаць арганічнай часткай агульнай тэматычнай палітры часопіса,— інтэграваць экалагічную свядомасць нашага грамадства ў рэчышча самых высакародных памкненняў чалавецтва, спрыяць экалагічнаму адраджэнню на Беларусі і на ўсёй планеце. Аўтарамі, вядучымі рубрык будуць эколагі і філосафы, журналісты і літаратары, палітыкі і настаўнікі. Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх, хто зберог у душы пачуццё спагады, дабрыні і міласэрнасці да роднай прыроды, яе вобразаў і праяў, стану і лёсу.

Лісты-водгукі адпраўляйце на адрас рэдакцыі з адзнакай назвы, на якой вы спынілі выбар або прапанаванай вамі.

Чакаем з надзеяй і ўдзячнасцю.

**Валерый ДРАНЧУК**
**(тэл. 33-20-53)**

БЕЛАРУСЬ

ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ШТОМЕСЯЧНІК

ВЫДАЕЦЦА
СА СТУДЗЕНЯ
1930 ГОДА

№ 9 (645)
ВЕРАСЕНЬ 1992




НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: «Конік з залацістаю грывай».

Здымак Віктара ДРАЧОВА.


ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
І ПРАЦОЎНЫ КАЛЕКТЫЎ РЭДАКЦЫІ.

Выдавецтва «Полымя» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Мінск.

Журнал «Беларусь» на белорусском языке.

Здадзена ў набор 13.07.92. Падпісана да друку 19.08.92. Фармат $70 \times 108^{1}/_{8}$. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 7. Ул.-выд. арк. 11,01. Ум. фарбаадб. 12,6. Т. 9000 экз. Зак. 1183.

Кошт у розніцу — 3 рублі.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны для даведак: 33-02-29; 33-20-54.
Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 10 машынапісных старонак.
Допісы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі, атрыманыя рэдакцыяй, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
220041, Мінск, праспект Францыска Скарыны, 79. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».




# ПРАЎДА ВАША, ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ: ТАК ЖЫЦЬ НЕЛЬГА! АЛЕ Ж — ТРЭБА...

І жыццё ваша стане цікавейшае і больш змястоўнае, калі побач з вамі будзе надзейны спадарожнік і добры дарадца — часопіс

# „БЕЛАРУСЬ"

Не час пакуль што рассакрэчваць «рэдакцыйныя тайны года 1993-га» (ва ўмовах канкурэнцыі на рынку інфармацыі і друкаванага слова ёсць усе падставы сёе-тое трымаць у сакрэце). І тым не менш, ад імя рэдкалегіі і рэдакцыйнага савета хацелі б нагадаць вам, сябры, наступнае: усе супрацоўнікі ўжо цяпер прыкладаюць шмат творчага імпэту, каб зрабіць часопіс цікавейшым па змесце і больш прывабным па афармленні.

«Беларусь» мае намер:

— **радаваць змястоўнымі і цікавымі публікацыямі** традыцыйных рубрык «Споведзь», «Чалавек і палітыка», «Чалавек і эканоміка», «Чалавек і духоўны свет», «Званы Чарнобыля», «Вы пра гэта не чыталі», «Будзьце здаровы!», «Дайджэст «Беларусі», «Хто смяецца апошнім?»;

— **прызначаць спатканні** з «лаўрэатамі года» — дзеячамі навукі і культуры, мастакамі, спевакамі, музыкантамі, «зоркамі» эстрады, кіна- і тэлеэкрана, знакамітымі чэмпіёнамі і рэкардсменамі Еўропы і свету, пераможцамі і прызёрамі Алімпіяды-92 у Барселоне;

— **запрашаць у вандроўку** ў далёкае мінулае нашай Бацькаўшчыны і ў яе дзень сённяшні, а таксама на пошукі крыніц народнай духоўнасці;

— **знаёміць з новымі творамі** майстроў нацыянальнай культуры В. Быкава, Я. Брыля, І. Шамякіна, А. Адамовіча, В. Карамазава, І. Пташнікава, А. Дударава, В. Казько, С. Алексіевіч, М. Танка, Н. Гілевіча, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Вярцінскага, В. Зуёнка, У. Някляева;

— **трымаць вас у курсе падзей і навін** кіно, тэатра, тэлебачання, песенных і музычных фестываляў;

— **задавальняць цікаўнасць** аматараў гадання па гараскопах, знаўцаў конкурсаў і віктарын, аматараў гульні ў шашкі і шахматы, а таксама даваць парады хатнім гаспадыням, садаводам, рыбаловам, грыбнікам і дачнікам.

Для дзятвы і іх бацькоў па-ранейшаму будзе ўсміхацца з часопісных старонак наша «Сонейка»...

І яшчэ адна рэдакцыйная задума — «Рэйтынг-ліст «Беларусі».

«Супер-чалавек» — такую крыху эмацыянальную характарыстыку далі некаторыя чытачы першым удзельнікам рэйтынг-ліста. Няхай і так. Гэтым самым з'явілася падстава яшчэ раз нагадаць, што рэдакцыя сапраўды імкнецца знаходзіць людзей з рэдкімі якасцямі і унікальнымі магчымасцямі. А ў чытачоў ёсць добры шанц зрабіць свой выбар, прапанаваць рэдакцыі дастойную кандыдатуру.

Давайце разам ствараць, так бы мовіць, залаты фонд нацыі, бо, хто ведае, можа, многія, з кім мы вас пазнаёмім сёння, заўтра папоўняць спіс міністраў, парламентарыяў, дыпламатаў, паслоў, стануць прэтэндэнтамі на пост прэм'ера або прэзідэнта. Давайце шукаць і адкрываць таленавітых, здольных, незвычайных людзей сярод нас.

Уявіце, што рэйтынг-ліст «Беларусі» перад вамі чысты. Запоўніце яго. Для больш зручнага кантакту пакідаем тэлефоны: 33-02-29, 33-20-53.

**Дзякуй вам вялікі, сябры, за давер!**
**І — да новых сустрэч!**

Ваша **«БЕЛАРУСЬ».**

У каталогах перыядычных выданняў індэкс нашага часопіса ранейшы — 74820. Змяніўся толькі кошт. Кошт падпіскі на квартал — 30 рублёў, на палову года — 60 рублёў. Кошт аднаго нумара ў розніцу — 12 рублёў. Дарэчы, майце на ўвазе, што рознічны продаж нашага часопіса ў кіёсках з-за дэфіцыту паперы абмежаваны.




# 93

ПАДПІСКУ НА ЧАСОПІС МОЖНА АФОРМІЦЬ З ЛЮБОГА МЕСЯЦА ГОДА.

ВЫПІСВАЙЦЕ «БЕЛАРУСЬ».

**І — ЧЫТАЙЦЕ! НЕ ПАШКАДУЕЦЕ!**

ISSN 0320—7544, «Беларусь», 1992, № 9, 1—36.
Цана ў розніцу — 3 рублі.
Індэкс 7482